


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

28 ЖНІЎНЯ 1998 г. № 35/3963 КОШТ 4 000 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на наш штотыднёвік на чацвёрты квартал 1998 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі ранейшы — на месяц — 15 тысяч рублёў і на квартал — 45 тысяч рублёў.

**Наш індэкс — 63856**




# У старым млыне — новы дом

Часам здавалася, што яго ўрэшце зруйнуюць — каб не псаваў маляўнічы краявід з царквой ды касцёлам на мурожных берагах. Бо рэстаўрацыя гэтага дзіўнага мураванага збудавання, на якое штолета звярталі ўвагу госці пастаўскага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", не нагадвала нават кансервацыю: сцены старога вадзянога млына, дажыўшы з пазамінулага стагоддзя да нашых дзён, пазначаліся новымі слядамі павольнага разбурэння.

А сёлета — вось дзіва! — у праграме традыцыйнага Міжнароднага фэсту народнай музыкі асобным радком была пазначана ўрачыстасць з нагоды адкрыцця ў Паставах Дома рамёстваў... у адрэстаўраваным будынку старога млына.

Усё было сапраўды ўрачыста й прыгожа: лета, сонца, чародка лебядзінага сямейства на вадзе, гранне музыкаў знанага пастаўскага гурта "Паазер'е", прамовы, віншаванні, падарункі навасельцам, сімвалічныя перагукванні званоў царквы ды касцёла...

Першыя наведнікі гэтага досыць вялікага і дыхтоўнага дома падзівіліся на багатую экспазіцыю сапраўдных шэдэўраў рукатворнага мастацтва: разьба па дрэве, househomespun даматкаyuя посцілкі, сурвэткі, ганчарныя вырабы, вышыванкі, пляценне, разнастайныя рэчы, якія ўражваюць спалучэннем вынаходлівых тэхнік, высокім густам, бездакорнасцю выканання. Можна

(Працяг на стар. 3)



АДРАДЖЭННЕ

# Стагоддзе і мы

Набліжаецца да канца дваццатае стагоддзе. Хто як імкнецца падсумаваць вынікі гэтага вельмі адметнага ў гісторыі чалавечай цывілізацыі адрэзку часу. Англійскі універсітэт вызначае найбольш знакамітых людзей. "Белорусская деловая газета" ў нумары за 3 жніўня апублікавала спісы лепшых англамоўных раманаў веку, зробленыя ў выніку двух рэйтынгаў, праведзеных у ЗША.

Безумоўна, нельга лічыць гэтыя рэйтынгі бездакорнымі і прымаць у якасці галоўных ацэначных крытэрыяў англамоўнай літаратуры. Але нельга не прызнаць, што інфармацыя мае важнае значэнне для арыентацыі ў кніжным моры, што стварылася на працягу апошніх ста гадоў. Для нашага чытача яна асабліва патрэбная, бо змушае задумацца над уласным узроўнем культуры і адукацыі. Шматгадовая ізаляцыя ад заходняга свету пазбавіла нас магчымасці рэальна арыентавацца ў культурных здабытках сучаснай цывілізацыі. Мы раслі і вучыліся на савецкіх узорах літаратуры і мастацтва, што ў большасці былі далёкімі ад сапраўднай культуры. Лепшая англамоўная літаратура не заўсёды даходзіла да нас, бо не адпавядала савецкай мадэлі свету. Пагалоўнае няведанне англійскай мовы не дазваляла чытаць кнігі ў арыгінале, даступнымі былі толькі перакладзеныя творы.

Думаю, што многія з нас, нават вельмі адукаваныя і пры навуковых званнях, гледзячы на гэтыя спісы з сумам адзначаць самі сабе, што з ўсяго гэтага інтэлектуальнага багацця намі засвоена не ўсё, а часам і зусім мала. Тое, што прачыталася з англамоўнай і іншай замежнай літаратуры, даходзіла да чытача ў асноўным праз рускамоўныя пераклады. Замежныя літаратурныя набыткі мы ўспрымалі вачыма рускага чалавека з адведнай яму ментальнасцю і разуменнем заходняга свету. Усё гэта лічылася абсалютна нармальным, само сабою разумелася, што рускамоўны пераклад быццам бы больш дасканалы.

Беларускія інтэлектуалы новага пакалення зрабілі пэўныя крокі, каб направіць становішча. З прыемнасцю можам адзначыць, што сярод твораў, якія ўваходзяць у першыя дзесяткі па адзначаных рэйтынгах, ёсць і некалькі перакладзеных на беларускую мову: "Уліс" Джэймса Джойса, "1984" і "Ферма" Джорджа Оруэла.

Знакаміты раман Дж. Джойса абышоў увесь свет. У адным з рэйтынгаў ён займае першае месца. Яго з'яўленне ў 20-я гады ў еўрапейскай літаратуры стала надзвычайнай падзеяй. Па словах прафесара Ірыны Шаблоўскай, загадчыцы кафедры замежнай літаратуры БДУ, па колькасці зробленых перакладаў гэтага рамана ў нацыянальных літаратурах вызначаецца ўзровень развіцця гэтых літаратур. Да нас ён дайшоў на рускай мове. І толькі ў 90-х гадах першая частка рамана была перакладзена на беларускую мову Янам Максімюком, беларусам з Беласточчыны. Выдадзены пераклад у 1993 годзе ў Беластоку. Фінансавалася выданне Міністэрствам культуры і мастацтва Польшчы і фірмай "Амега". Частка асобнікаў трапіла ў Беларусь, і наша інтэлігенцыя мела магчымасць прачытаць "Уліс" на роднай мове.

Раман Дж. Оруэла "1984" і яго аповесць "Ферма" на беларускай мове былі надрукаваны ў Мінску ў 1992 годзе выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Пераклад зрабіў Сяргей Шупа. На маю думку, гэты пераклад заслугоўвае самай высокай ацэнкі. Дакладнасць сэнсу твораў, майстэрскае выкарыстанне ўсяго багацця беларускай мовы ставяць гэтую кнігу ў рад элітарных не толькі па імені аўтара, але і перакладчыка. С. Шупа прадэманстраваў бязмежна шырокія магчымасці беларускай мовы для перадачы самых тонкіх нюансаў англамоўнага тэксту.

Пераклад "Уліса", зроблены Я. Максімюком, мае сваю адметнасць. Ў ім адчуваюцца асаблівасці беларускай мовы Беласточчыны, і гэта таксама акрэслівае іншыя магчымасці развіцця мовы ў галіне перакладу твораў.

Зусім невыпадкова, што нашымі перакладчыкамі асвоены менавіта гэтыя творы. На маю думку, яны лагічна звязаны між сабою і з нашым рэальным жыццём. Дж. Джойс у сваім рамане, можна сказаць, упершыню паказаў чалавека такім, які ён ёсць на самай справе. Да гэтага часу літаратура і мастацтва прыхарошвалі чалавечую асобу, стваралі вакол яе арэол рамантызму, героі раманаў дзяліліся на станоўчых і адмоўных. Аднак, як паказала жыццё, у кожным чалавеку закладзена станоўчае і адмоўнае, чалавечая натура мае ў сабе не толькі стваральны, але і вялікі разбуральны патэнцыял. Менавіта ХХ стагоддзе выразна паказала, што чалавекам можа кіраваць і зло. Дзве самыя разбуральныя сусветныя войны, ядзерная зброя паставілі жыццё на Зямлі на мяжу самазнішчэння. Аднак фізічнае самазнішчэнне — не адзіная небяспека. Дж. Оруэл, як бы прадаўжаючы думку Дж. Джойса і з улікам сумнага вопыту нацызму ў Германіі і сталінізму ў СССР (раман напісаны ў 1948 г.), выразна акрэсліў і іншую небяспеку — магчымасць поўнага маральнага знішчэння чалавечай асобы, маральных і культурных набыткаў цывілізацыі. Гэты рэальны чалавек, які рознабакова паказаны ў рамане "Уліс", якраз і здольны пабудаваць тое страшнае грамадства, якое апісана ў рамане "1984". Можа пабудаваць, калі дасць развіцца ў сабе негатыўным інстынктам. Ці не назіраем мы гэта ў рэальнасці сёння і менавіта ў нас?

Хацелася б яшчэ раз падзякаваць абодвум перакладчыкам за тое, што далучылі нас да лепшай англамоўнай літаратуры праз беларускае слова. Можам ганарыцца, што маем такія набыткі. Але мусім і разумець, што праблема далучэння нашага народа да здабыткаў сусветнай культуры патрабуе яшчэ многа ахвярнай інтэлектуальнай працы.

Той жа "Белорусской деловой газетой" пазней быў апублікаваны спіс лепшых рускамоўных твораў стагоддзя. Безумоўна, тут для нас сітуацыя намнога лепшая, бо гэта тая іншамоўная літаратура, якая вывучалася намі лепш за сваю.

Надыходзіць новае стагоддзе, нават тысячагоддзе, з'явіцца ў свеце новая літаратура, мастацкія творы, час будзе прыспешваць асвойваць новыя дасягненні чалавецтва ў галіне культуры, а ў нас яшчэ не ўсё засвоена са старога, і спроба абысціся без яго не дасць добрых вынікаў. Трэба спяшацца жыць іісці ў нагу з часам, калі хочаш выглядаць не горшым за іншых.

**Ганна СУРМАЧ**

ВІНШУЕМ!

# У Люксембургу былі лепшымі

Маэстра і педагог Аркадзь Берын мае ў беларускім музычным мастацтве сваю, як водзіцца казаць, адметную нішу. Дваццаць гадоў таму дзякуючы яго энтузіязму ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі быў створаны духавы аркестр. У 1990 г. яго ж намаганнямі дэбютаваў першы ў нашай краіне прафесійны цывільны (не вайсковы) аркестр духавых інструментаў, названы, паводле прапановы самога арганізатара і мастацкага кіраўніка, "Няміга". Праз чатыры гады маэстра А. Берын узнавіў дзейнасць студэнцкага духавога калектыву ў Беларускай акадэміі музыкі. І зноў — добрыя творчыя вынікі, і гэта дазволіла даць маладому аркестру гучнае імя: "Фанфары Беларусі".

Вось ужо два гады выхаванцы Аркадзя Берына выступаюць пад гэтым імем. На Міжнародным фестывалі ў Роўне калектыў стаў лаўрэатам, вылучыўшыся сярод 18-ці прафесійных аркестраў Еўропы. А сёлета перамог на прэстыжным міжнародным турніры духавых аркестраў у Люксембургу.

Конкурс праводзіўся асацыяцыяй "Union Grand-Duc Adolphe" (прэзідэнт Генры Шумахер). Прыемна, што аркестр "Фанфары Беларусі" за выкананне абавязковай праграмы заваяваў 59 балаў з 60 магчымых і ў выніку стаў абсалютным лідэрам спаборніцтва. Спадар Шумахер у сваім публічным выступленні падкрэсліў выключную ролю музыкі ў працэсе камунікацыі і супрацоўніцтва паміж краінамі. А з іншаземных гасцей асабліва цёпла павітаў ён калектыў з беларускай сталіцы, які ўразіў сваім мастацтвам.

"Фанфары Беларусі" на чале з маэстра Берыным, адзначаныя Гран-пры, атрымалі дыплом, кубак пераможцы і адмысловую пячатку.

**Н. К.**



*На здымку: Аркадзь БЕРЫН. Фота А. МАЦЮША*

# У старым млыне — новы дом

*(Працяг. Пачатк на стар. 1)*

было зазірнуць у яшчэ неабжытыя пакоі-майстэрні, прызначаныя для працы з лазой ды саломкай, для ўмельцаў-разьбяроў, для ткачых і для метадыстаў — таксама... А якія заваблівыя краявіды адкрываліся з вокнаў святліц на высокіх паверхах!

Надзвычай людна было ля дзвярэй з шыльдачкаю "Музей хлеба". І не таму, што кожнаму, ад старога да малога, карцела пабачыць выстаўлены там ладны сноп збажыны ды ўзоры традыцыйных для Пастаўшчыны гатункаў хлеба. Проста тут наладзілі сваё маленькае свята: усіх-усіх (а гэта ў літаральным сэнсе — натоўп!) частавалі булкай з квасам, назапасіўшы дзеля гэтага і аднаразовыя кубачкі.

Варта было выдаткаваць немалыя грошы, каб справіць вось такое ўсенароднае наваселле таленавітых беларускіх майстроў, у якіх з'явіліся, нарэшце, годныя і гожыя ўмовы для творчасці, для стасункаў з дасведчанымі спецыялістамі, для перадачы навыкаў свайго штукарства тым, хто хоча далучыцца да традыцыйных рамёстваў свайго краю. А ўзноўлены гістарычны будынак з разьбяною шыльдай "Стары млын" пераўтварыў-упрыгожыў архітэктурнае аблічча Паставаў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: падчас адкрыцця Пастаўскага Дома рамёстваў; майстэрня ткацтва. Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## З народнай крыніцы

З ганаровым званнем народнага, з прэстыжнымі ўзнагародамі, атрыманымі на айчынных і міжнародных фестывалях, сустрэў сваё трыццацігоддзе Баранавіцкі ансамбль танца "Юрачка". Нарадзіўся ён з фальклорнай крыніцы, з захаплення беларускім народным танцам, які лёг у аснову яго рэпертуару, акрэсліў яго творчы почырк. З той жа крыніцы ансамбль чэрпае натхненне і цяпер. Разам з фальклорным гуртом "Фэст" ён стварыў цэлы шэраг цікавых танцавальных кампазіцый — "А я бачыў, бачыў", "Няўдалы кавалер", "Маруся" і іншыя, у якія шмат працы ўклала кіраўніца "Юрачкі" Тамара Колтун.

## Вярнуўся пераможцам

Цёпла віталі жыхары вёскі Цераблічы Столінскага раёна свайго земляка, знанага майстра разьбы па дрэве Івана Супрунчыка, які вярнуўся з міжнароднага кірмашу рамёстваў пераможцам. Менавіта яго ная скульптура "Адраджэнне" была прызнана найлепшаю ў конкурсе разбяроў Беларусі, Украіны і Расіі.

Варта сказаць, што ў кірмашы прынялі ўдзел і майстрыхі саломапляцення з Брэстчыны — Галіна Шацкая і Галіна Асіпцова. Іхнія мастацкія вырабы таксама атрымалі прызнанне ў арганізатараў, удзельнікаў і наведвальнікаў кірмашу.

## Як адпачываюць дзеці

Цікава, з карысцю! Калі пра гэта клапоцяцца дарослыя. Напрыклад, так, як у Жабінкаўскім раёне. На працягу ўсіх школьных канікулаў работнікі клубаў, дамоў культуры, бібліятэк ладзілі мерапрыемствы для дзяцей. Не забываюць пра іх і на зыходзе лета. З нядаўніх мерапрыемстваў варта назваць свята "Адпачываем усёй сям'ёю", якое прайшло ў вёсцы Пшанані, фотавернісаж у Падлессі, тэатралізаванае відовішча "З якой мы казкі" ў Якаўчыцах, фальклорнае свята ў Сцяпанках, музычную гадзіну кампазітара І. Лучанка, наладжаную бібліятэкай вёскі Крыўляны. А работнікі Жабінкаўскага дома культуры ажыццявілі забаўляльную праграму "Шакаладная ліхаманка". Азарту тут было не менш, чым у тэлевізійнай "Залатой ліхаманцы", хоць уручаліся прызы іншай пробы...

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬ...*

## Храм Аляксандра Неўскага

Гомель — зямля радзімічаў, зямля славян. Не забываюць пра гэта мясцовыя жыхары. На ахвяраванні грамадскасці ў Навабеліцкім раёне горада ўзводзіцца храм Аляксандра Неўскага. У высакароднай дабрачыннай акцыі бяруць удзел вядомыя гомельскія мастакі, архітэктары. Неўзабаве храм будзе даведзены да ладу, стане яшчэ адным цэнтрам ачышчальнай духоўнай культуры.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Свята фальклору

З пятага па восьмага верасня ў Магілёве і раённых цэнтрах вобласці пройдзе фестываль фальклору. Запрошаны на гэтае свята калектывы з Расіі, Украіны, Польшчы. У канцэртах міжнароднага фестывалю ўдзел прымуць таксама і лепшыя калектывы Магілёўшчыны, якія з поспехам прадстаўлялі вобласць на заключным канцэрце рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня".

## Хваляванне кінагледачоў

У горадзе часова прыпынена праца глядзельных залаў у кінатэатрах "Кастрычнік" і "Ветразь". Гледачы могуць наведаць толькі відэазалы гэтых установ культуры. Уся справа ў тым, што даўно тут не было рамонту, і кепскае надвор'е прывяло столі кінатэатраў у аварыйны стан. Магілёўскі гарвыканкам выдзеліў на рамонт гэтых памяшканняў каля чатырох мільярдаў рублёў. Грошай, відаць, хопіць на рамонт і абсталяванне "Кастрычніка" і "Ветразя". Калі выдзеленыя сродкі паступяць своечасова, то кінатэатры адкрыюцца ўжо праз месяц. Калі ж грошай не хопіць, то кінатэатры напаткае лёс аналагічнай установы пад назвай "Радзіма", якая раманту чацца вось ужо больш за два гады.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## "Магілёўцы" пакарылі Бельгію

Бліскуча на міжнародным фестывалі фальклору ў бельгійскім горадзе Бернэме народны ансамбль "Магілёўцы", які справядліва называюць візітнай карткай народнага мастацтва горада на Дняпры. Музыку, песні і танцы гэтага таленавітага калектыву ўсім сэрцам прымалі ў свой час гледачы "Славянскага базару", міжнароднага фестывалю ў Нідэрландах, міжнароднага свята мастацтваў краін садружнасці ў гонар 850-годдзя Масквы і іншых прэстыжных імпрэз.

І вось зноў — поспех. Многім народным беларускім песням, якія выконвалі "Магілёўцы", падпявалі жыхары Бернэма і іншых гарадоў, дзе выступаў ансамбль з дабрачыннымі канцэртамі.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Музей у школе-інтэрнаце

У горадзе Дзісне Мёрскага раёна, у школе-інтэрнаце для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы, адкрыўся днямі гісторыка-этнаграфічны музей. Ідэя праекта, як практычная рэалізацыя належаць мясцовым выкладчыкам — Але Майсёнак і Льву Фурсаву. Не стаялі ў баку ад агульнакарыснай справы і іншыя педагогі школы-інтэрната. У выніку сабраны унікальныя матэрыялы. Напрыклад, рэдкія паштоўкі царскага часу, на якіх адлюстраваны вуліцы Дзісны, рэчы старога побыту, лепшыя ўзоры сённяшняй народнай творчасці. Гісторыя горада прадстаўлена разнастайнымі дакументамі, цікавымі архіўнымі дадзенымі, успамінамі.

**Галіна ШПАКОЎСКАЯ**

## У маленстве, як усюды

**А таму суседнічаюць радасць і прыкрасць, шчасце і няўдачы, светлыя мары і горкія расчараванні. Да гэтай высновы зноў прыходзіш, калі знаёмішся з выбранымі творамі для дзяцей, напісанымі Анатолем Грачанікавым, што ўвайшлі ў кнігу "Перазвоны азёр і бароў", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва" ў серыі "Школьная бібліятэка".**

**У гэтым аднатомніку знайшлося месца як вершам паэта, так і яго казкам, паданням, легендам, сярод якіх "Слуга і ўладар", "Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара", "Чорны замак", "Жывая вада" і іншыя.**

## У музеі — воіны

**Стала добрай завядзёнкай у супрацоўнікаў музея Якуба Коласа ладзіць з дапамогай Цэнтральнага Дома афіцэраў сустрэчы з воінамі. Яны праходзяць у воінскіх часцях, у Сувораўскім вучылішчы, у дамах афіцэраў ці ў Коласавым доме. Вось і ў мінулую нядзелю да песняра завітала група абаронцаў нашай Айчыны, якіх прывёў сюды Анатоль Верабей, работнік ЦДА.**

**Гасцей прыязна сустрэў старшы навуковы супрацоўнік музея Іван Курбека. Расказаў ён пра гісторыю Коласавай сядзібы, пра повязь песняра з людзьмі ў зялёнай форме, пра творы на ваенную тэматыку.**

**Уважліва хлопцы слухалі Івана Кудраўцава. Ваяваў ён на пяці франтах. Прыгадаў некаторыя эпізоды таго ліхалецця і паведаміў, што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" знаходзіцца на подступах да сустрэчы з чытачом яго раман пра той цяжкі, незабыўны час.**

**Перад гасцямі выступіла Коласава ўнучка Марыя Міцкевіч.**

**А пасля наведвальнікі азнаёміліся з музеем.**

**Сцяпан ІВАНЧЫК**

## Паэтычны верасень у Мінску

**Мінскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне Паэтычных чытанняў. Яны будуць праводзіцца па чацвяргах — 3, 10, 17 і 24 верасня — ля помніка Янку Купалу. Пачынацца яны будуць а 18-ай гадзіне.**

**Арганізатары чытанняў мяркуюць, што перад слухачамі, як і раней, выступяць і вядомыя паэты, і пачаткоўцы, і барды, і артысты-дэкламатары.**

**Ладзіць Паэтычныя чытанні Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя.**

## І сабе, і людзям...



**І пасля васьмідзесяці гадоў не адпала ахвота ў віцябляніна Аляксандра Іванавіча Смуржэўскага, трапіўшы ў лес, збіраць там розныя сучкі-палачкі, якія потым ёнператварае ў цікавыя драўляныя вырабы. І самому паглядзець, і людзям паказаць прыемна.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

З НАГОДЫ

# Талібаўскі фактар незалежнасці Беларусі

У сярэдзіне жніўня войскі радыкальнага мусульманскага руху Талібан выйшлі ўрэшце да межаў былога СССР, практычна цалкам узяўшы пад свой кантроль сумна вядомую на постсавецкай прасторы краіну пад назваю Афганістан. Іх разрозненыя, узаеманепрымірымыя праціўнікі заведама былі асуджаны на паражэнне, нягледзячы на немалую падтрымку Расіі, Узбекістана і іншых сярэднеазіяцкіх рэспублік. Здавалася б, што нам, беларусам, да нейкіх незразумелых талібаў, якія шчыруюць за дзесяткі тысяч кіламетраў ад нашай тэрыторыі? Як кажуць мудрыя філосафы, няма ніякай прычынна-выніковай сувязі. Ваююць дзесьці далёка ад нас мусульмане з мусульманамі — ну і хай сабе! Але сувязь усё ж існуе. І не проста існуе. Яна можа істотна паўплываць на лёс Беларусі, на перспектывы яе існавання як незалежнай дзяржавы...

Яшчэ ў сярэдзіне далёкіх 50-х адразу пасля смерці Сталіна мудрае савецкае кіраўніцтва паціху пачало разумець, што канкурэнцыі "двух ладаў, дзвюх сістэм" не атрымліваецца. Якая там канкурэнцыя, калі "прагрэсіўная" сацыялістычная эканоміка пачала замест вялікага росту моцна буксаваць, не зважаючы на ўсе пяці- і нават сямігадовыя планы яе пад'ёму. Не хацела гэтая капрызная "дама" выконваць геніяльныя дырэктывы савецкіх правадыроў. Характар у яе псаваўся з году ў год, як у той сварлівай жонкі. І, як тая жонка, яна з году ў год паціху марнела...

Вось тады і пачаўся ў самых верхніх эшалонах улады пошук цуда-ідэй і шляхоў, якія дапамаглі б у перспектыве ўтрымліваць тую эканоміку на плыву, захаваць лепшы з лепшых на планеце лад і, вядома ж, сваю ўласную кіруючую і накіроўваючую ролю. Такіх ідэй-шляхоў тады вымалёўвалася некалькі. І ўсе яны былі скіраваны да аднаго з галоўных зямных скарбаў — "чорнага золата". Адзін з іх быў на поўнач — у цюменскія балоты, другі — у бок велізарных, практычна пад бокам, блізкаўсходніх залежаў нафты. Дзесьці з сярэдзіны 50-х савецкія "скарбашукальнікі" пачалі свае заляцанні з некаторымі рэжымамі таго рэгіёна. Ім хацелі сасватаць не больш не менш як самы прагрэсіўны лад, які, па думку "сватоў", забяспечыў бы з імі вечную дружбу. "Сватанне" падмацоўвалася шматмільярдным фінансавым і ваенным "пасагам".

А паколькі ўсе шляхі да выратавальных скарбаў вялі праз Афганістан, то і гэтая краіна хутка стала адным з самых шчырых і дарагіх сяброў СССР. Ужо ў 1955 годзе савецкія спецыялісты прабівалі там праз горныя перавалы такія аўтастрады, якіх не было яшчэ ў самім Саюзе. Працавалі, так бы мовіць, на перспектыву. Праўда, з бліжнеўсходнім сватаннем не ўсё атрымалася як след, бо багацейшыя жаніхі перабеглі дарогу. Але надзея ўсё ж заставалася...

Можа, якраз таму і вырашылі празарлівыя савецкія правадыры ў 1979 урэшце тую даўнюю цуда-надзею рэалізаваць на практыцы, пусціўшы па добротных аўтастрадах вайсковыя калоны. Зразумелі, што далейшае прамаруджванне смяротна небяспечнае. Але ўсё роўна ўжо было позна. Свет непапраўна змяніўся - прамую агрэсію расцаніў як агрэсію, а не як брацкую дапамогу. І самым сяброўскім афганцам гэта чамусьці таксама не спадабалася. Яны, няўдзячныя, пачалі супраціўляцца. Не захацелі ўцяміць веліч мудрых і далёкаідучых планаў...

Гэткая няўцямнасць абышлася былым сябрам мільёнам ахвяр і разбуранай краінай. Але і няпрошаныя госці паклалі на суровых горных перавалах гэтай негасціннай да заваёўнікаў краіны не адну тысячу маладых жыццяў. Не кажучы ўжо пра страшэнны ўдар па і так не вельмі трывалай сацэканоміцы, якой афганская авантура каштавала сотні мільярдаў долараў. Можа, якраз тых, якія маглі б неяк адтэрмінаваць на нейкі час падзенне савецкага калоса. Спрацавала слушная біблейская ісціна: пасеяўшы вецер — пажнеш буру.

Воіны-беларусы, як адны лепшыя ў былой Савецкай Арміі, былі, вядома, у першых шэрагах змагароў за "лепшую будучыню брацкага народа". Цяжка забыць, як на пачатку 80-х адзін з маіх аднавяскоўцаў, малады прыгожы хлопец, насуперак усім адгаворам бацькоў і родных добраахвотна папрасіўся ў Афганістан. Бог збярог яго, і ён, у адрозненне ад амаль 800 сваіх землякоў, вярнуўся жывы і нават не паранены. Але што хацеў знайсці ў чужым нелітасцівым свеце малады беларускі юнак? Баявую рамантыку подзвігу? Сёння ён і сам не разумее гэтага. Хутчэй за ўсё спрацавала моцнае "патрыятычнае выхаванне", калі быў гонар за прыналежнасць да "самай шчаслівай краіны ў свеце". Што ж, было і такое. Быў часам і іншы гонар, сумніўны і страшны ў сваім цынізме, які не раз імкнуліся выкарыстаць — гонар "падзельнікаў", што навучыліся лёгка пазбаўляць людзей жыцця...

Роўна дзесяць гадоў таму, у 1988 годзе, СССР вывеў свае войскі з Афганістана. Была пахавана яшчэ адна ілюзія. Многія і наверсе зразумелі ўрэшце, што на ілюзіях нічога добрага не пабудуеш, але зразумелі надта дарагою цаною. Афганскае ахвярапрынашэнне так пахіснула "союз нерушимый", так яго знямоцыла, што ён неўзабаве рухнуў. Але застаўся ў сэрцах соцень тысяч маладых хлопцаў бязлітасны "афганскі сіндром", які цяжкім хранічным болем будзе яшчэ не адзін год праніза ваць іх...

Атрымаўшы незалежнасць, Беларусь адным махам быццам бы назаўсёды пазбавілася ад няўтульнага суседства з незразумелым і небяспечным мусульманскім светам. Ужо ледзь не 7 гадоў, дзякаваць Богу, не гінуць (прынамсі, па загадзе сваіх уладаў) беларускія хлопцы, выконваючы "інтэрнацыянальны абавязак" у гарачых кропках, між тым як іх расійскія равеснікі воляю лёсу вымушаны былі прайсці за гэтыя гады праз яшчэ адно пякельнае кола — чачэнскае.

Кіраўніцтва нашай краіны запэўнівала: "Ні адзін... нідзе... ніколі..." Адзін гэты факт важыць нашмат болей усялякіх іншых прапагандысцкіх аргументаў на карысць беларускай незалежнасці. Не хочацца нават і ўяўляць, што магло б адбыцца, каб у апошнія гады мы былі ў **сапраўдным** Саюзе з нашай суседкаю. Ды, на жаль, не ўсё сёння ў гэтым пытанні так проста. Так званыя інтэграцыйныя працэсы рашуча скіроўваюцца многімі палітыкамі менавіта на поўнае зліццё Расіі і Беларусі ў адзіную дзяржаву. І гэта не проста словы. Актыўная ўсходняя палітыка сёння мае рэальны працяг — робіцца настойлівыя крокі па стварэнні больш дзейсных лабісцкіх (у дачыненні да расійскай кіруючай эліты) структур, накшталт саюзнага парламента, надзеленага рэальнымі паўнамоцтвамі, і г. д. Спецыялісты-аналітыкі, праўда, сцвярджаюць, што прарыву на гэтым "фронце" з-за вялікіх унутрырасійскіх праблем чакаць не трэба...

Затое навідавоку прарыў іншы — прарыў велізарнай, малакіруемай масы мусульманскіх фанатыкаў-талібаў, якія кіруюцца цемрашальскімі, па сутнасці, сярэдневечнымі прынцыпамі жыцця і быту, практычна да меж самой Расіі. Бо не сакрэт, што межы сярэднеазіяцкіх сяброў СНД абараняюць пераважна расійскія войскі. Вяртаецца бумерангам вялікі імперскі грэх, і мала хто сёння сумняваецца, што ўдасца надоўга стрымаць тую плынь ля межаў СНД. Расіі прыйдзецца ў недалёкай будучыні бараніцца ад пасеянай калісьці ў мірным Афганістане "буры". Ці можна ўсур'ёз гаварыць пра тое, што Расія ніколі не звернецца па дапамогу да самага найбліжэйшага саюзніка? Прычым, зробіць яна зусім не просьбітным тонам, калі адмовіць будзе аніяк немагчыма. Ну а той дзень, калі першы беларускі салдат выступіць на абарону межаў Расіі, будзе апошнім днём рэальнай незалежнасці Беларусі.

Такая вось прычынна-выніковая сувязь...

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

АСВЕТА

# Падказаць да музыкі дарогу

Без малога дзесятак гадоў існуе пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі філармонія для дзяцей і юнацтва, якая вядзе актыўную музычна-асветніцкую і выхаваўчую работу сярод маладога пакалення краіны.

**— Гэта структурнае творчае падраздзяленне, — тлумачыць яго дырэктар і мастацкі кіраўнік Герард Чарнышоў, — з'явілася не на пустым месцы. Яно было створана на базе канцэртна-лекцыйнага бюро Белдзяржфілармоніі, арганізаванага яшчэ ў пачатку 50-х гадоў. І калі раней наш творчы калектыў больш займаўся музычным выхаваннем дарослых людзей, то зараз мы працуем у асноўным з дзіцячай аўдыторыяй, выкарыстоўваючы пры гэтым перш за ўсё сістэму абанементных канцэртных цыклаў.**

Жаданне слухаць і разумець сур'ёзную музыку ў дзяцей і падлеткаў само па сабе не ўзнікае. Патрэбна папярэдняя карпатлівая праца лектараў дзіцяча-юнацкай філармоніі і музыкантаў-выканаўцаў, здольных удумлівым эмацыянальным словам, з дапамогай добра падабраных канцэртных нумароў паступова далучаць юных слухачоў да незлічоных каштоўнасцяў класічнай музычнай спадчыны. Гэтаму якраз у значнай меры садзейнічае арганізацыя канцэртаў-лекцый, канцэртаў-гутарак па абанементах.

Паводле слоў Г. Чарнышова, у апошнія некалькі сезонаў дзіцячая філармонія разам з канцэртнай залай БДФ выпускае дзесяць розных абанементаў — галоўным чынам для вучняў агульнаадукацыйных і музычных школ Мінска. Праўда, у параўнанні з мінулымі гадамі колькасць гэтых абанементаў у два-тры разы паменшала. Але затое яны лепш распрацоўваюцца, бо знайшлі сваіх пастаянных, зацікаўленых слухачоў.

Асаблівай увагі варты "сямейны" абанемент для дашкольнікаў і іх бацькоў пад назвай "Усёй сям'ёй на канцэрт", які ўжо шмат гадоў паспяхова вядзе спрактыкаваны музыказнаўца Анатоль Парэцкі. Гэты абанементны цыкл, што складаецца з шасці займальна-адукацыйных праграм, дапамагае маленькім слухачам знайсці "залаты ключык" ад цудоўнай краіны музыкі, разбрацца, якую ролю адыгрываюць у ёй розныя музычныя інструменты. Захапляючая, заўсёды інтрыгуючая гутарка лектара абавязкова суправаджаецца выступленнямі салістаў філармоніі, лепшых навучэнцаў музычных школ і ліцэістаў, удзельнікаў дзіцячых мастацкіх калектываў і ансамбляў.

Цікава і вынаходліва праводзіць А. Парэцкі лекцыі-канцэрты свайго другога сталага цыкла — "Дзіцячыя гады кампазітараў", у якіх раскрываюцца яркія старонкі жыцця і творчасці многіх выдатных майстроў мінулага.

Нязменнай папулярнасцю карыстаюцца і такія абанементы, як "Музычныя падарожжы" (музыказнаўца Алена Калеснік), "Мастацкія калектывы Рэспублікі Беларусь" (лектар Таццяна Афоніна), "Дзеці — дзецям". Яны вызначаюцца перш за ўсё жанравай і тэматычнай разнастайнасцю канцэртаў-лекцый. Умела складзеныя праграмы дапамагаюць таксама зразумець узаемадзеянне музыкі з іншымі відамі мастацтва.

Дарэчы, некаторыя абанементныя цыклы зрабіліся ў апошнія гады здабыткам не толькі Вялікай залы Белдзяржфілармоніі. Яны ўключаны ў каляндарныя планы трох пастаянна дзеючых філіялаў рэспубліканскай дзіцячай філармоніі, арганізаваных пры палацах культуры чыгуначнікаў, трактарнага і аўтамабільнага заводаў Мінска. Гэтыя філіялы па сутнасці сталі цэнтрамі музычна-эстэтычнага выхавання вучняў больш чым дзесяці школ Заводскага, Партызанскага і Кастрычніцкага раёнаў сталіцы.

Мне давялося прысутнічаць на заключным канцэрце трохгадовага цыкла А. Парэцкага ў Палацы культуры МАЗа, куды быў запрошаны наш вядомы кампазітар Генрых Вагнер — непасрэдны ўдзельнік абанементнай праграмы. Было прыемна бачыць, з якой шчырасцю і цеплынёй сустракалі школьнікі выступленні аўтара нацыянальных балетаў, сімфоній, камерных твораў, а таксама музыкантаў-прафесіяналаў і юных талентаў.

У гэтым сезоне філарманічныя філіялы прадоўжаць сваю працу на аснове ўжо новага тэматычнага цыкла "З музычнай шкатулкі", які будзе весці вядомая наша музыказнаўца Іна Зубрыч.

Як зазначыў Г. Чарнышоў, творчая дзейнасць дзіцяча-юнацкай філармоніі не абмяжоўваецца правядзеннем толькі абанементных цыклаў. Яе выканальніцкія групы і асобныя артысты (спевакі, чытальнікі, інструменталісты) пастаянна выступаюць ва ўсіх абласцях краіны з камернымі праграмамі, літаратурна-музычнымі кампазіцыямі, літаратурнымі канцэртамі. Праводзяцца таксама канцэрты аўтарскай песні, калі самі кампазітары разам са спевакамі выконваюць свае творы. А нядаўна вядучыя, знакамітыя вакалісты філармоніі Аляксандр Рудкоўскі (тэнар), Фёдар Севасцьянаў (бас), Наталля Бярэзіна (сапрана) і Ніна Цішко (меццасапрана) падрыхтавалі сольныя партыі моцартаўскага "Рэквіема" для публічнага выканання ў адным з канцэртаў чарговага музычнага сезона, які адкрыецца на пачатку навучальнага года.

Праца з юнымі слухачамі вымагае пастаяннага ўдасканалення і абнаўлення формаў музычнага асветніцтва, каб урэшце дамагчыся росту папулярнасці канцэртаў сур'ёзнай музыкі. Вось да гэтага і імкнецца рэспубліканская філармонія для дзяцей і юнацтва.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

МЕРКАВАННЕ

# "Напачатку было слова"

СЛОВА... Што можа быць прасцей і разам з тым велічней? І якую незвычайную моц, якое хараство тоіць яно ў сабе?

Слова не толькі расказвае нам пра рэчы, не толькі называе іх імёны, не толькі пранікае ў іхнюю сутнасць, яно яшчэ мае незвычайную ўласцівасць уздзейнічаць на людзей на пазафізічным узроўні. Сам гук, гучанне і мелодыка тэксту выклікаюць успаміны, сумныя альбо радасныя. Таямніца, дзіўная магія слова... Толькі так можна растлумачыць тое асаблівае ўражанне, тыя незвычайныя пачуцці радасці, спакою ці замілавання, што ўзнікаюць у нас, калі ўзгадваюцца некалькі радкоў з прачытанага яшчэ ў дзяцінстве, або калі, чытаючы Евангелле, сэрцам далучаемся да Слова Божага.

Слова з'яўляецца яшчэ і стваральнай (і разбуральнай) звышматэрыяльнай сілай. "Усё праз яго пачалося", — гэты радок Дабравесця мае не толькі пераносны сэнс. Але нідзе так невыразна не праяўляецца функцыя слова, яго метафізічнае ўздзеянне, як у варунках жыцця духоўнага, дзе яно скіравана непасрэдна да розуму і да сэрцаў людзей. Вось, напрыклад, Божае імя. Так, кожны народ на зямлі мае характэрнае Слова, якое найбольш адпавядае асаблівасцям менталітэту менавіта гэтага народа. Вядома, што толькі ў старажытных габрэяў, адметных сярод іншых народаў сваёй набожнасцю, існавала забарона на вымаўленне Божага імя.

У старaславянскай мове такім словам-зваротам да Бога з'яўляецца "Владыко, Господь". Гэтаксама яно гучыць і на рускай мове. Але для пераважнай большасці славянскіх моў (чэшскай, славацкай, польскай, сербскай, харвацкай, украінскай і інш.) такім зваротам з'яўляецца "Пан" ("Пан Бог"). І на землях Вялікага княства Літоўскага для велічання Бога здаўна было прынята таксама карыстацца словам "Пан", да Багародзіцы — "Панна" — як і ў большасці краін тагачаснай Еўропы. Цікава,што такая форма звароту ўласціва не толькі для беларускіх хрысціян усходняга абраду (праваслаўных), але і для беларускіх каталікоў, уніятаў, пратэстантаў і нават татар-магаметан. Але разам з рускай ПЦ і расійскім праваслаўем, якое пасля вядомага царскага ўказу 1839 г. стала "дзяржаўнай" рэлігіяй і на беларускіх землях ды пачало гвалтоўна выцясняць спавядаючага Бога па заходніх царкоўных канонах уніяцтва — да нас прыйшлі і тыя спецыфічныя асаблівасці праваслаўя па-расійску, якія захаваліся і да сёння.

У царкве, акрамя звароту "Гасподзь", вельмі часта гучыць другое слова "раб" (Божы), — напрыклад, пры чытанні Псалмаў, спяванні акафістаў, як і прынята па Каноне — на царкоўнаславянскай мове. Але ў слаўнай сваім багаццем рускай мове для перакладу Бібліі і багаслужбы замены слову "раб", як гэта ні дзіўна, усё ж не знайшлося, хаця ў іншых народаў яно перакладаецца звычайна як "слуга". Таму з вуснаў праваслаўных святароў, калі яны прамаўляюць з амбона ці звяртаюцца да сваёй паствы, мы часцей за ўсё чуем менавіта "раб" (Гасподзень). Большасць праваслаўных вернікаў, асабліва сталага веку, даўно да гэтага прызвычаіліся. Яны па традыцыі і самі ахвотна называюць сябе і сваіх бліжніх "рабамі Божымі", у той час як для беларускіх каталікоў ці грэка-каталікоў найбольш тыповым з'яўляецца зварот "слуга Божы" ці "сын", альбо ў іншых варунках "брат" ("сястра"), дарэчы, як і для большасці хрысціянскіх народаў Старога і Новага Свету.

Найменш я хачу абразіць рэлігійныя пачуцці вернікаў, але, як мне здаецца, у свабоднай краіне, якой мы імкнёмся стаць — а гэта ёсць адзіная будучыня Беларусі, — слова "раб" не адпавядае рэчаіснасці і нават абражае (ганьбіць) годнасць і гонар чалавека. Такі зварот да адзінаверцаў, да братоў-хрысціян ненатуральны і з пункту гледжання здаровага сэнсу. Таму што раб — паднявольны, гэта значыць, не мае ніякай свабоды, а ў слугі ёсць права карыстацца дадзенай яму свабодай, ёсць права выбару.

Праз шчырую малітву да Бога і добрыя ўчынкі кожны з нас мае магчымасць атрымаць ад Міласэрнага Госпада збаўленне, гэта значыць, вечнае жыццё на нябёсах і духоўную свабоду, што даруецца нам яшчэ ў зямным жыцці. Толькі навошта свабода рабу? Таму, хто па сваім ладзе жыцця і менталітэце, як гэта ні дзіўна, не жадае яе мець? Навошта яму лішнія клопаты, адказнасць? Лепш — "як усе", як "статак"...

Між тым Хрыстос прыйшоў у свет і сваёй пакутніцкай смерцю дараваў вызваленне ўсім тым, хто верыць у яго і прыняў Слова Божае: "Таму ты ўжо не раб, а сын, а калі сын, дык і спадчыннік Божы праз Ісуса Хрыста" (Гал. 4.7). Яшчэ паслядоўнікі Збаўцы называюцца дзецьмі Божымі, братамі (у Хрысце) ці сябрамі, але ніяк не рабамі: "Вы сябры мае, калі выконваеце тое, што Я наказваю вам. Я ўжо не называю вас рабамі" (Ін. 15.14-15); "Дык стойце ж у свабодзе, якую даў нам Хрыстос, і не схіляйцеся зноў пад ярмо рабства" (Гал. 5.1).

Зразумела, што жыць чужым розумам, жыць па загадзе — прасцей і спакайней. За часы таталітарнага рэжыму мы вельмі прызвычаіліся, што такі лад жыцця (матэрыяльнага і адпаведна — духоўнага) стаў нормай. А сама пазіцыя страху перад адказнасцю за свой самастойны выбар натуральна замацавалася ў свядомасці і нават у падсвядомасці людзей. На шчасце, жыццёвая пазіцыя "авечкі" далёка не ўсім па душы.

Чалавек нараджаецца без грэху, нараджаецца свабодным. Каб жыць і тварыць як свабодная асоба, а не для таго, каб бяздумна выконваць чужую волю (не так істотна, свецкая гэта асоба, ці духоўная). І ў гэтым — наша падабенства з Творцам Сусвету, які ні ў чым не меў абмежаванняў.

Дык чаму ж многія людзі і нават цэлыя народы па сваёй волі (у выніку сваёй недасведчанасці ці нядобрасумленнасці і падману іншых), альбо пад прымусам адмаўляюцца ад сваёй, Богам даравнай свабоды? Адказ мне бачыцца ў нашым гістарычным мінулым.



Сама ўсходняя традыцыя "велічаць" сваіх вернікаў рабамі (Божымі) мае глыбокія карані. Тая ПЦ, якая сёння пануе на Беларусі, на жаль, цалкам з'яўляецца расійскай. Праваслаўны храм у Мінску і служба ў ім, па сутнасці, амаль нічым не адрозніваецца ад службы ў нашых "старэйшых братоў", напрыклад, так званым "трэцім Рыме" ці "сталіцы Праваслаўя" — Маскве.

Дарэчы, назва "старэйшы брат", якая стала амаль сінонімам слову "рускі", як бы аўтаматычна ставіць беларусаў, украінцаў і іншых славян у залежнасць — па сярэднявечным праве маярата. Але чаму менавіта ў Маскве вырашаюць, хто з братоў-славянаў большы ці старэйшы? Перад Богам усе людзі і ўсе народы роўныя. Палітыка і духоўнае жыццё, унутранае жыццё самой царквы — наогул розныя і абсалютна несумяшчальныя рэчы, чаго не жадаюць разумець многія царкоўныя іерархіі РПЦ, узяўшы на сябе смеласць умешвацца ў чужыя царкоўныя справы (Украіна, Эстонія, Малдова).

Гістарычнае развіццё Масковіі і ВКЛ ішло, на шчасце, рознымі шляхамі. Калі ў Вялікім княстве Літоўскім заўсёды прызнавалася і была прыярытэтнай улада закона, то ў Расіі простаму народу і "служывым людзям" неаднойчы даводзілася піць чару смутку і гора ад самадурства і беззаконня сваіх уладаў. "Халопам" стагоддзямі мэтанакіравана прывівалі дух пакоры, рабскай залежнасці ад волі сваіх "гаспод", замацоўвалі ў галовах людзей звычку "безропотного терпения", ідэю асаблівай "благодатности" пакуты ("крыж Гасподні"), — так што гэта замацавалася нават дзесьці на генетычным узроўні, у нацыянальнай свядомасці рускага народа. Свабода волі і свабода думкі душылася дзяржаўнымі і царкоўнымі ўладамі яшчэ ў самым пачатку. Расія ўяўляе сабой нейкі дзіўны сімбіёз бязмежнага валадарства адных і рабскай пакорлівасці другіх, — але гэта два бакі аднаго медаля. Калі ж цярпець становіцца немагчыма, народны гнеў нечакана перарастае ў стыхійны бунт, што мы маем бачыць, напрыклад, сёння, калі Расію ўсклыхнула хваля шахцёрскіх страйкаў. Але не трэба быць прарокам, каб разумець, што, як і заўжды, ад людзей адкупяцца малой цаной, будуць знойдзены і пакараны "вінаватыя", але ў краіне, якая адметна вылучаецца сярод іншых псеўдадэмакратыяй і псеўдасвабодай, усё застанецца па-ранейшаму. "Мы паміраем ад адзінай прычыны: знявагі да сябе... Чалавек, які не паважае сябе, — хіба ад яго не засароміцца сонца? Сутнасць Русі, што яна не паважае сябе", — пісаў на пачатку стагоддзя рускі мысліцель і філосаф В. Розанаў. Не можа паважаць сябе толькі раб. Свабодны (духоўна) чалавек з павагай ставіцца і да сябе, і да другіх, бо ён бачыць у кожным чалавеку найперш Асобу. Вось гэтага якраз ніколі і не назіралася ў Расіі.

Вернікаў у расійскай царкоўнай традыцыі таму і прынята называць "рабамі", каб сваім народам было лягчэй кіраваць, лягчэй маніпуляваць яго свядомасцю і паводзінамі, пры гэтым асабліва не абмяжоўваючы сябе ў метадах. Паступова слова "раб" замацавалася не толькі ў свядомасці, але і ў падсвядомасці не толькі індывідуумаў, але і самога грамадства (так званая "калектыўная несвядомасць").

Царква ў Расіі заўжды служыла на карысць улады. І сёння мы бачым, як РПЦ умела апелюе да рабскай псіхалогіі натоўпу, які даведзены да адчаю беззаконнем уладаў, ці не назаўсёды згубіў веру і ў справядлівасць, і ў самога чалавека. Царкоўнае начальства пераконвае свой "статак" у неабходнасці "смирения" (пакоры) і нават прапануе з радасцю несці свой "крыж", таму што абяцаная "ўзнагарода" чакае "верных" (каму — РПЦ?) на Нябёсах. А сёння, маўляў, трэба маўчаць і цярпець, таму што гэта надзвычай карысна для душы і наогул "не Богава" (г. зн. не Царквы Хрыстовай) — умешвацца ў справы "кесараў" (г. зн. дзяржавы). Такая пазіцыя Рускай царквы не здзіўляе, бо не сакрэт, каму і як яна служыла і служыць цяпер. А самі "кесары" ды іх памагатыя сёння спяшаюцца прычасціцца, але не спяшаюцца пакаяцца. Расія ва ўсе гады была "турмой народаў", таму не ў яе інтарэсах даваць свабоду іншым нацыям і народам, — не кажучы ўжо пра народ уласны.

РПЦ сёння трэба паклапаціцца найперш аб тым, каб вярнуць хоць бы ў храм дух Праўды і паказаць свайму народу сапраўдны шлях да сапраўднага духоўнага вызвалення". Замест гэтага яна займаецца "пазалотай купалоў" і "гарэлачна-тытунёвымі махінацыямі" ды бессаромна славіць сябе і свае ўлады. Але ж ПЦ у Расіі далёка не святая, як ніколі і не была святой. Папярэджаннем ёй стала сапраўдная трагедыя, што напаткала царкву ў часы ўціску (чырвоны тэрор і пабудова светлай будучыні) грамадства бязбожнікаў. Каб зняць з сябе Божы праклён, царква і найперш яе іерархі павінны прызнаць грахі, памылкі і публічна пакаяцца. Але здаецца, што ідэя абранасці. нацыянальны гонар і самалюбства цалкам заглушылі голас сумлення і нават інстынкт самазахавання ўсёй нацыі. А чым сёння ганарыцца "слаўная" Расіі? Злачыннасць і карупцыя, напаўжывыя "вожди" і бясслаўныя войны, экалагічныя катастрофы і тэхнічныя аварыі. Здаецца, сама зямля паўстала супраць крывадушша і хлусні. І сапраўды, Бог папярэджвае.

Замест таго, каб даць прыклад пакаяння, "слаўная" расійская інтэлігенцыя занята мнагаслоўна-абстрактнымі разважаннямі аб нейкай асаблівай рускай духоўнасці і "загадкавай рускай душы", а царква няспынна працягвае свае хлусліва-наіўныя "казкі-казанні" аб богаабранасці рускай нацыі і выключнасці маскоўскага праваслаўя. Просты народ такім чынам замбіруецца і дзеля рэалізацыі сваёй "звышмісіі" гатовы цярпець бясконца доўга, прычым — любыя цяжкасці і нястачы.

Адмаўленне ад свабоды выбару (пазіцыя "авечкі") — гэта таксама выбар, за які трэба несці адказнасць. Нам, праваслаўным хрысціянам, сёння трэба мець сілу духу, каб пераадолець страх і недарэчныя "табу" замшэлага псеўдацаркоўнага менталітэту, якое мы атрымалі ў спадчыну разам з расійскім праваслаўем. Такая прынцыповая пазіцыя не супярэчыць Евангеллю, як не супярэчыць Праўдзе. А калі яна не супадае з "мнением из Кремля", не адпавядае пазіцыі РПЦ, то тым горш для апошняй. Ад нашага свядомага выбару залежыць наша будучыня. Бо сапраўды, кожны народ заслугоўвае сваіх "кесараў".

Ва ўсе часы сумленным людзям жылося нялёгка. Наш час — не выключэнне. Ці не таму людзі і шукаюць суцяшэнне ў веры, просячы выратавання ва Укрыжаванага і Уваскросшага Ісуса Хрыста? Толькі незразумела — дзеля чаго Царкве рабіць з Крыжа Господняга, з распятага Ісуса нейкае падабенства ідала, на пакланенні якому спекуляваць? Асабіста для мяне больш блізкі і больш зразумелы Бог усёдаравальны і міласэрны ("Бог ёсць любоў"), добры і мудры Бацька, які паслаў на зямлю свайго бязгрэшнага Сына дзеля вызвалення нас ад грэху, пакуты і духоўнага рабства. Менавіта Боская любоў і міласэрнасць, якая ляжыць у падмурку ўсяго сусвету, з'яўляецца галоўным, ключавым, Словам Добрай Весці.

Я не веру замаскаванай пад праўду хлусні Вялікага Інквізітара, які дзеля апраўдання існуючай езуіцкай царквы сцвярджаў, што род чалавечы па сваёй прыродзе заганны, слабы і неразумны, а таму не гатовы прыняць свабоду і ўзяць на сябе ўвесь цяжар адказнасці за свой выбар і свае ўчынкі.

Не хочацца верыць, што і ў наш дасведчаны час людзі зноў адвернуцца ад Хрыста-Збаўцы і Яго Слова, — з тае нагоды, што іх уласна больш цікавіць толькі цуд, накшталт таго, што дэманстраваў Кашпіроўскі, а зрэшты — хлеб і відовішчы.

Я жыву надзеяй, што недалёка той час, калі дух Праўды, нарэшце, назаўсёды ўсталюецца ў Доме Божым, якім з'яўляецца Хрыстова Царква на зямлі. Змрочны час і цэлая эпоха Вялікага Інквізітара, калі Праўда Ісуса Хрыста была па-езуіцку падменена, а Яго месца ў Храме занялі царкоўныя "ўладыкі", павінна нарэшце саступіць месца новаму непадуладнаму часу Царству Нябеснага святла — Царству сапраўднай Свабоды, Любові Міласэрнасці, дзе ў шчасці і радасці славяць Божае імя Яго верныя дапаможнікі ў працы — Яго свабодныя сыны і паслухмяныя дзеці, што стваральнай самаадданай працай на карысць усіх людзей узносяць хвалу свайму Нябеснаму Бацьку.

**Яўген МІКАЛАЕНЯ**

## Аднатомнік Барыса Сачанкі

**Выпусціла яго выдавецтва "Вышэйшая школа" ў серыі "Школьная бібліятэка". Назву кнізе дала аповесць "Пакуль не развіднела". Змешчаны таксама аповесці "Апошнія і першыя" і "Запіскі Занядбайлы". Гэтыя творы, як вядома, напісаны пісьменнікам у розныя гады. Ды і сваім зместам яны розняцца. Гэта і тэма мінулай вайны, трагедыя беларускага народа, і складаныя маральна-этычныя праблемы сучаснасці. А аб'ядноўвае творы пільная ўвага Б. Сачанкі да чалавека, глыбіня спасціжэння людскіх характараў. Прадмову да аднатомніка "Непаўторнасць таленту" напісала Марыя Панкова.**

## Пра сучаснае грамадства

**Апошнім часам асабліва чуйна рэагуе на працэсы, што адбываюцца ў сённяшнім жыцці, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Іван Пятровіч для даследавання рэчаіснасці выбраў жанр аповесці. Яго новыя творы надзіва дынамічныя, востра публіцыстычныя, выклікаюць на роздум, незалежна ад таго, прымаеш пазіцыю аўтара ці не пагаджаешся з ім. У гэтым можна яшчэ раз упэўніцца, пазнаёміўшыся з кнігай І. Шамякіна "Палеская мадонна", якая нядаўна выйшла ў выдавецтве "Юнацтва". Акрамя аднайменнай аповесці, у яе ўвайшлі і такія творы, як "Выкармак", "Зона павышанай радыяцыі", "Крывінка", "Завіхрэнне".**

## "Маладосць", N 7

**Завяршэнне падарожнага эсэ М. Дабаснянскага "На зялёных промнях Бярозы" выклікае жаданне яшчэ раз узяць у рукі папярэдні, шосты нумар "Маладосці", дзе змешчаны пачатак гэтага твора, каб каторы раз далучыцца да непаўторнай прыроды Бацькаўшчыны, а калі канкрэтней — адчуць тую вабнасць яе, што пануе ў нерушавых мясцінах, а менавіта такімі мясцінамі і з'яўляецца Бярэзінскі запаведнік, што быў створаны яшчэ 30 студзеня 1925 года і стаў у рэспубліцы першым. М. Дабаснянскаму ўдалося ўдала спалучыць у адной асобе лірыка і публіцыста. Тое, што напісана ім, напісана з клопатам аб прыродзе, з упэўненасцю, што яе багацці ўсё ж будуць захаваны для наступнікаў.**

**А адкрываецца нумар вершамі А. Легастаевай, прадстаўленай у рубрыцы "Упершыню ў "Маладосці". Змешчаны таксама вершы Г. Варатынскай, Т. Бондар, Б. Давідзюка, М. Маляўкі, Л. Яўменава і А. Чакану ў перакладзе з малдаўскай мовы К. Камейшы. Чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з аповесцю Г. Сысога "Сыгнет каралевы", апавяданнямі "Начны агеньчык" М. Прохар, "Ачон" і "Язмінавы пах" В. Кукса, "Гудзелі майскія жукі" В. Дайліды, абразкамі М. Стальмакова "Сустрэча-развітанне" і "Пакрыўджаная бярозка", артыкулам Р. Платонава "Даносы 30-х гадоў", заканчэннем артыкула С. Дзедзіча "Чаму крача воран", нарысам С. Квіткевіча "...І прысніўся ганчарны круг", аглядам Н. Кузьміч паэтычных дэбютаў на старонках "Маладосці-97" ("Птушкі і неба")...**

## "Полымя", N 7

**Чытачоў старэйшага сярод літаратурна-мастацкіх выданняў краіны часопіса чакае сустрэча з вершамі М. Дуксы, В. Сахарчука, І. Чыгрына, Ю. Нератка, В. Беражанкі. Змешчаны апавяданні А. Ждана, А. Наварыча, Ф. Шкірманкова, заканчэнне рамана Л. Левановіча "Сіняе лета", камедыя М. Матукоўскага "Зомбі, альбо "Мудрамер-два", працяг дзённікавых запісаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...".**

**Да 200-годдзя з дня нараджэння А. Міцкевіча "Полымя" прапануе асобныя яго творы ў перакладзе Р. Барадуліна. Р. Барадулін напісаў і невялікі ўступ пад назваю "Наш!".**

**"На Брытанскіх астравах" — публіцыстычныя развагі С. Шарэцкага.**

**Друкуюцца артыкулы І. Лепешава "Мова "Тутэйшых" Янкі Купалы", У. Гніламёдава "Проза Алеся Жука".**

**"Архіўную кнігу", выдадзеную Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку" разглядае М. Скобла.**

**А. Мельнікава рэцэнзуе зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў Л. Корань "Цукровы пеўнік".**

# Каб бруілі крыніцы

### СПРОБА РЭЦЭНЗІІ З НЕВЯЛІКІМІ АДСТУПЛЕННЯМІ

КРЫТЫКА

АПОШНІМ ЧАСАМ выхад паэтычных кніг стаў рэдкай з'явай, нават ужо і неспадзяванкай. Бо месяц-другі заходзіш у кнігарню, а амаль нічога новага з беларускіх мастацкіх кніг так і не з'яўляецца. Здаецца, дзяржаўная кнігавыдавецкая справа перажывае нейкі мёртвы сезон. Усё мроіцца, што вось неўзабаве зайду ў "Светач" ці "Кнігарню пісьменніка" і вазьму з паліцы дыхтоўна выдадзены том паэтычнай спадчыны У. Дубоўкі, зборнік твораў А. Моркаўкі... Між тым, неяк у адзін з апошніх веснавых дзён завітаў у кнігарню: выданні "Залатой серыі", першыя кніжкі Л. Раманавай, З. Вішнёва... Вось, бадай, і ўсе кніжныя навінкі сучаснай паэзіі.

Сёе-тое з новых выданняў атрымаў з рук саміх паэтаў, бо свае кніжкі яны выдавалі прыватным чынам. Некаторыя зборнічкі сучасных аўтараў нагадваюць нечым выданні 10—20-х гг. нашага стагоддзя, калі пра фінскую мелаваную паперу не чулі і друкавалі кніжкі амаль што саматужна-прымітыўным спосабам. Пра ўсё гэта падумалася, калі пачаў знаёміцца з анталогіяй лірыкі "Крыніцы", выдадзенай сёлета ў Гомелі, якую меў гонар атрымаць у дарунак ад знанага прафесара Івана Штэйнера. Парадаваўся за выхад "Крыніц" ужо таму, што, як я казаў, паэтычныя кніжкі — рэдкія госці ў нашым сённяшнім жыцці, а, па-другое, успрыняў з'яўленне гэтай анталогіі як досыць прыкметную літаратурна-культурную падзею, якая мае дачыненне не толькі да Гомельшчыны і яе галоўнай ВНУ — Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Чаму? Ды таму, што аўтары зборніка — гэта не проста былыя студэнты ГДУ (сярод іх выключэнне складае сённяшняя студэнтка Наташа Дзенісюк), а творцы, імёны якіх належаць да гісторыі нашай літаратуры, сучасныя паэты, без якіх ужо немагчыма ўявіць беларускае мастацтва слова, яго шляхі ды пошукі.

Пра ідэю і мэту народзінаў гомельскіх "Крыніц" гаворыцца ў разгорнутай анатацыі, дзе, акрамя іншага, адзначаецца, што "анталогія ўяўляецца першай спробай паказаць вялікую вартасць і высокія эстэтычныя дасягненні лірыкі паэтаў нашай alma mater". Не сказаць, каб для гамяльчан у гэтым сэнсе не было прыкладу ў падсумаванні творчых падрахункаў і набыткаў — сталічны Белдзяржуніверсітэт выдаў "Універсітэт паэтычны" (1971) і "Квадру" (1990), якія сталі своеасаблівымі анталагічнымі выданнямі. БДУ ў 60—80-я гг. (а ў гэты час плённа дзейнічала літаб'яднанне "Узлёт") зрабіўся заканадаўцам у выданні зборнікаў вершаў творчай студэнцкай моладзі ("Узлёт", "Натхненне", "Вёсны" і інш.). Універсітэцкія паэтычныя кнігі не заставаліся па-за ўвагай крытыкі, бо, напрыклад, у свой час на выхад "Вёснаў" (1984) адгукнуліся В. Зуёнак, Т. Чабан... Сёння ж студэнцтва друкуецца і на перыферыі, і гэта добры знак часу. Вось у 1997 г. гарадзенцы выдалі зборнік "Vita (Жыццё)" сяброў літаб'яднання "Наднёманскія галасы" Гродзенскага дзяржуніверсітэта — але ці шмат хто пра гэта ведае, не кажучы пра тое, каб кніжка трапіла ў поле зроку рэцэнзентаў. І тут ёсць праблема, звязаная і з распаўсюджваннем кніг, і з невялікімі накладамі, і з не заўсёды высокай паліграфіяй друку. Скажам, і гомельскія "Крыніцы" не радуюць якасцю надрукаваных фотаздымкаў. Але, як кажуць, галоўнае — змест. А вось у гэтым плане тут ёсць пра што гаварыць, ёсць усе падставы паразважаць пра ўсю нашу паэзію, яе лёс, набыткі і тэндэнцыі развіцця.

Анталогію адкрывае грунтоўны артыкул "Крыніцы светлага юнацтва" І. Штэйнера, у якім гаворыцца пра паэзію розных пакаленняў, а ў дадатак да гэтага вельмі дарэчы на пачатку вершаванай падборкі кожнага з паэтаў пададзены невялічкія ўступныя артыкулы пра іх творчасць, дзе, акрамя біяграфічных звестак, дакладна акрэслена эстэтычная адметнасць выяўлення таго ці іншага аўтара. Гэты матэрыял будзе асабліва карысны настаўнікам, студэнтам, якія вывучаюць родную літаратуру і літаратурнае краязнаўства (таму і хацелася б, каб гэтая кніга дайшла найперш да школьных бібліятэк Гомельшчыны, трапіла ў іншыя бібліятэкі рэспублікі).

Са старонак анталогіі паўстае паэзія і даўніх гадоў, і нашага дня, і вядомых аўтараў, і маладых талентаў. Вось, кажуць, адыходзіць з літаратуры ваенная тэма, маладое пакаленне, маўляў, не абцяжарвае сябе памяццю пра вайну, яе хвалюе іншае. Мо гэта і так. Але чытаеш-перачытваеш вершы Міколы Сурначова, Леаніда Гаўрылава, з якіх пачынаецца анталогія, і неяк не верыцца ў тое, што забудуцца на Беларусі ў XXI ст. на палеглых і забітых паэтаў, пра іх трагічны лёс, пра тое, што вайна нішчыць маладосць і каханне, паэзію і красу жыцця. Вярэдлівы боль запаўняе да краёў страфы вядомай сурначоўскай балады "У стоптаным жыце". Для Л. Гаўрылава эстэтычна блізкім было выказванне Гётэ: "Верш павінен быць выдатным або не існаваць". Пісаў жа ён свае вершы з лірычнай пранікнёнасцю, паглыбленай роздумнасцю слова, знаходзіў сябе "ў палаючай шчырасцю лірыцы". Іхнія, М. Сурначова і Л. Гаўрылава радкі, аплачаны лёсам, талентам душы.

Паэзія — лёс, боль, радасць, смутак, суд сумлення, споведзь сэрца... І, бадай, менавіта гэта засведчаць многія паэты сучаснай літаратурнай генерацыі — тыя, хто прыйшоў у беларускую паэзію, скажам,у 70-я ці 80-я гг. Прыхільнікі авангарда сцвярджаюць, што паэзія — гэта гульня дарослых дзядзькоў і цётак у словы, наогул у будучым запануе творчасць забаўляльная, для уік-энду, адпачынку. Мо яны і маюць рацыю, калі гавораць пра вершатворчасць уласнага спецыфічнага гатунку, але чамусьці думаецца, што не страціць у вазе, не стане менш цікавай і значнай паэзія духу, паэзія душы. У гэтым мяне ў чарговы раз пераконвае і гомельская анталогія, напрыклад, таленавітыя радкі Віктара Стрыжака — паэта-лірыка, які, на жаль, заўчасна выправіўся ў вечны вырай, але пакінуў столькі выдатных вершаў:

***У Радзімы вечны даннік,***
***Вечны катаржнік душы,***
***Улягаю за гадамі,***
***А за мной — крыжы...***

("Даннік")

Чытаю ягоныя вершы "Айчыне", "Дзе?", "Памры" і думаю, што ён той мастак слова, якога нам яшчэ трэба належным чынам ацаніць, сказаць найперш пра тое, што ён — паэт вялікай душэўнай самааддачы, паэт з шэрагу яркіх творчых асобаў. Радуе і тое, што яго творы, дзякуючы старанням М. Скоблы, уключаны і ў школьную анталогію паэзіі "Пад сэрцам у Радзімы" (1997). Гэты паэт, якога так і хочацца назваць беларускім Ясеніным зыходу XX ст., безумоўна, заслугоўвае нашага пашаноўнага стаўлення. В. Стрыжак прадчуваў наканаванасць кароткай жыццёвай сцяжынкі. Не быў бы ён паэтам.

Любая навучальная ўстанова можа ганарыцца тым, што яна ўзгадавала творчую асобу, асабліва, калі гэтая асоба — паэт. Бо паэты — народ незвычайны, своеасаблівы, слова, падуладнае ім, уражвае, захапляе, "нашы думкі прымушае... спяваць унутры нас" (А. Франс). Незвычайная атмасфера там, дзе вучыцца ці з'яўляецца паэт. Аўра творчага духу акружала моладзь на літаратурным факультэце Гомельскага педінстытута ў далёкія даваенныя гады. Там у той час вучыліся Кастусь Кірэенка, Паўлюк Прануза... Затым была вайна. Прыйшлі новыя пакаленні, якія працягвалі паэтычныя традыцыі гомельскай ВНУ. Далёка не ўсе з іх сталі прафесійнымі творцамі ці паэтамі з гучнымі імёнамі. Але многім паэтычнае слова дапамагала жыць, выказваць сябе, свае мары і пачуцці. Другая палова 50-х—60-я гг. былі эпохай паэтычнай, бо надзвычай багата выдатных талентаў прыйшло ў беларускую літаратуру. Паўнаводнаю ракою разлівалася тады наша паэзія. А колькі бруіла на роднай зямлі паэтычных крыніц і крынічак! Сказалася гэтае — і адразу захацелася працытаваць вершаваныя радкі:

***Непрыкметныя, ціхія, чыстыя,***
***З патаемных зямных глыбінь***
***Б'юць крыніцы***
***крыштальна-празрыстыя,***
***Як жыццё іх бясконцая плынь.***

Гэта страфа з верша "Крыніцы" Алега Маісеенкі, якому пашчасціла прадстаўляць у анталогіі сваё пакаленне студэнцкай творчай моладзі 60-х гг. Маладыя — і не толькі яны — пісалі тады пра роднае вясковае ўлонне, працу, каханне... Штосьці нараджалася ў духу савецкай эпохі. Але, мусіць, было б несправядліва пэцкаць чорнай фарбай творы, скажам, пра прыроду толькі за тое, што яны ствараліся ў савецкі час. Ды знаходзяцца аматары, якія гатовы перакрэсліць вершы, накшталт цудоўнай пейзажналюбоўнай санаты "Пахне чабор", якая стала хрэстаматыйнай, бо, маўляў, "нават у момант замілавання прыродай" паэт заставаўся ў абладзе сатанізму. Ці ж не абсурд гэта, выкліканы нейкім татальным гневам і злосцю?

Імёны Віктара Яраца, Таісы Мельчанкі, Міхася Башлакова, Ніны Шкляравай і іншых паэтаў звязаны з тым перыядам, калі былы педінстытут набыў новую іпастась — стаў універсітэтам. Тады пры кафедры беларускай літаратуры дзейнічала літаб'яднанне "Крынічка", якім кіраваў прафесар Мікола Грынчык, спрыяла актывізацыі творчасці шматтыражка "Гомельскі універсітэт", са старонак якой упершыню прагучалі многія імёны і паэтычныя творы.

Лёс паэта В. Яраца і сёння звязаны з універсітэтам, тут ён шмат гадоў выкладае родную літаратуру. Можа, ягоная творчасць яшчэ раз пацвярджае вядомую ісціну: сапраўдная паэзія не можа быць нейкай правінцыйнай ці перыферыйнай, яна — з'ява агульназначная для ўсёй літаратуры. В. Ярац, аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, вылучаецца сваім асабова-непаўторным адчуваннем свету, па-палеску ціхім, але вельмі пранікілвым лірычным голасам:

***Пчала — акрылёны сусвет —***
***на кветцы прысела калматай,***
***што пахне ўспамінам страты...***

***Як рана ўстае пчала!***

***Відаць, я адвык ад дому,***
***дзе рос пад ахоўвай нябёс,***
***дзе птушкі віталі хорам***
***мой невядомы лёс.***

("Пастукала вішня ў акно...")

Гомельскі універсітэт асабліва паэтычным, як падаецца, зрабіўся ў другой палове 70-х—80-я гг., пра што сведчаць ужо імёны тых, хто напорыста пракладваў шлях у родную літаратуру: Анатоль Сыс, Анатоль Зэкаў, Ірына Багдановіч, Эдуард Акулін, Вольга Куртаніч і інш. І. Штэйнер адзначае, што "новы этап паэтычнай гісторыі універсітэта звязаны з імем Анатоля Сыса, асобы таленавітай, шчодра адоранай, няўрымслівай, падчас непрадказальнай". А. Сыс быў яркім прадстаўніком і гонарам гомельскай творчай моладзі (пра гэта ведаю ад тых, хто з ім вучыўся ў той час), затым заваяваў і літаратурны Мінск, ён вылучыўся як лідэр "Тутэйшых", выдаў зборнікі "Агмень" і "Пан Лес", якія зрабілі паэтава імя вядомым у сучаснай літаратуры. У анталогіі змешчаны ранейшыя вершы А. Сыса, а таксама адзін з апошніх па часе — "Вечны Жыд". Запыніла ягоная "Эпітафія сябру". Зацікавіўся гісторыяй твора і даведаўся, што гэтая эпітафія сапраўды выбіта на помніку паэтавага сябра:

***Я чую з неба сум Ваш на зямлі,***
***Вы не судзіце свайго сына строга,***
***Мяне анёлы за руку ўзялі***
***І, як дзіця, вядуць да Пана Бога,***
***Таму па мне не плачце, мама, многа,***
***Бо да Хрыста, нібы дамоў, дарога...***

Асабіста я ўжо не ўяўляю нашу сучасную паэзію без імя А. Сыса. Калі мне давялося ўкладаць зборнік паэзіі для школьнікаў "Галасы вёснаў" (1997), то прыходзілася даводзіць якраз тое, што не трэба пераносіць паводзіны А. Сыса ў рэальным жыцці на яго як асобу ў паэзіі. Здаецца, каго трэба перакакаў. Нізка вершаў А. Сыса прыўкрашвае анталогію гамяльчан, надае ёй эстэтычную важкасць.

Даўно гарнуся да лірыкі Эдуарда Акуліна, і таму яшчэ раз з асалодай перачытаў яго пейзажныя акварэлі, таўтаграму "Слёзы сліваў", чарнобыльскія вершы, песню пра каханне "Пяшчота ліўня". Лірык ён светлы і шчымлівы, умее арганічна памяняць рэгістр голасу — і тады гучыць пачуццёва ўсхваляваны і трывожны маналог пра Беларусь, яе народ, святыні:

***З сэрцам, скрухай наўспрах збалелым,***
***і душой, што спаліў агмень,***
***мой народ — пілігрым аслеплы, —***
***што не выйдзе з начы на дзень.***

("Слова Паўлюка Багрыма")

Калі б у анталогіі былі пададзены вершы выключна студэнцкай пары, то гэта збядніла б уяўленне пра эвалюцыю многіх паэтаў. І. Багдановіч паўстае перад намі і з творамі традыцыйнай тэматыкі, і з лірыкай, якая ў значнай ступені наватарская для сучаснай паэзіі, бо ў ёй гучаць рэлігійна-філасофскія, хрысціянскія матывы ("Госпадзе, душу маю крані...", "Спее і падае белы наліў..." і інш.). В. Куртаніч выступае з вершамі пра мову, з якіх пачынаўся яе шлях нацыянальна-духоўнага самаўсведамлення (паэтка нарадзілася на Урале), а таксама з творамі рэфлексійна-

медытатыўнага складу, што раскрываюць складаны ўнутраны свет жанчыны.

Дзякуючы анталогіі, магчыма, нехта ўпершыню адкрые як паэтку Ларыса Раманаву. У вершах "Малюнкі на снезе...", "Я буду скідаць камяні...", "Жыць ціха, — так камень, трава расце..." яна выказваецца засяроджана-роздумна, намагаецца спазнаць праявы чалавечага, духоўнага ў свеце прыроды, плыні быцця і часу, пры гэтым імкнецца да арыгінальнага фармальна-стылёвага выяўлення:

*На аброчным крыжы*
*Мой ручнік вісіць*
*Не ручнік то —*
*мая душа ляжыць*
*бліжэй к каменю*
*бліжэй к беламу*

*("На аброчным крыжы...")*

Строфіка верша нібы і перадае імпульсы душы, яе рух.

Аўтары анталогіі — паэты球 рознага кірунку і неаднолькавага творчага ўзроўню. Мікола Хамянкоў, пяру якога належыць некалькі дзіцячых кніжак, цікава і з досціпам піша для малых чытачоў (вершы "Прадпрымальнік Чыкчырык", "Елі віскас кацяняты" і інш.). Анатоль Зэкаў сёння найбольш вядомы як паэт-парадыст, аўтар кніг літаратурных пародыяў і баек "Дуэль" і "Дуэль-2". Андрэй Мельнікаў — паэт-бард, творца лірыка-песеннага складу (вершы "Восень", "Накцюрн N 3" і інш.).

Алесь Дуброўскі (толькі, калі ласка, не атаясамліваць з іншым Алесем Дуброўскім — маладым аўтарам "Першацвета" і "Маладосці"), Святаслаў Крупенька, Алесь Лозка, Алег Кацапаў — людзі, не абдзеленыя паэтычным дарам, кожнага з іх заманіла ў свой свет краіна Паэзія, падарыла цудоўныя хвіліны творчасці. Асабліва шматабяцальна гучаць вершы Сержука Сыса, бо адметная пачуццёвая змястоўнасць яго верша, вобразная асацыятыўнасць мыслення. Абнадзейвае і дэбют Наташы Дзенісюк, сённяшняй студэнткі універсітэта. Яна друкавала свае вершы ў шматтыражцы, часопісе "Першацвет". Талент яе яшчэ знаходзіцца на шляху станаўлення, аднак некаторыя радкі імпануюць і запамінаюцца:

***Любіць і берагчы сваю краіну***
***І слова роднай мовы шанаваць,***
***Каб нашыя нашчадкі ў дзень ўспаміну***
***Маглі б і нас з павагай прыгадаць.***

*("Дзяды")*

Лірыка-музыкальнай прачуласцю слова палоніць яе верш "Мроі".

Можа, крыху і чужароднымі выглядаюць у анталогіі рускамоўныя вершы. Але калі пазнаёміўся з паэтычнымі радкамі Івана Харламава (ён вядомы вучоны-педагог, акадэмік), Аляксандра Власава, Сяргея Мароза, пераканаўся, што і гэтыя аўтары маюць права на належную ўвагу да іх творчасці. У кожнага з аўтараў свая паэтычная муза. Толькі чалавек, які перажыў глыбокае паэтычнае ўзрушэнне, здольны выгукнуць: "Ну вырвись, музыка, из души стихом! Сожги меня, или оставь в покое..." (С. Мароз).

У чарговы раз засяроджваў позірк на пейзажнай лірыцы, на даўно апетых паэтамі палескіх краявідах, з асаблівым пачуццём чытаў радкі пра чарнобыльскую яву В. Стрыжака, М. Башлакова, Т. Мельчанкі, Э. Акуліна. Бо ў гэтым для мяне — разуменне самабытнага хараства палескага краю і ў той жа час горкае ўсведамленне яго вялікай бяды. Зрэшты, тут я знаходжу сутнасна-балючае разуменне ўсёй нашай нацыянальнай трагедыі:

***Без душы,***
***Без ніводнага слова***
***Пабрыду***
***Па здзічэлых палях...***
***Над Айчынай,***
***Над роднаю мовай***
***Палынее***
***Чарнобыльскі шлях...***

*(М. Башлакоў)*

Дыягназы хвароб нашага грамадства для многіх з нас даўно вядомыя. Ёсць патрэба ў паэтаў гаварыць пра іх — дык, калі ласка, хай гавораць, хай Бог памагае дакрычацца да народа (толькі б чытаў гэты народ паэтаў, толькі б слухаў!). І ў пейзажнай лірыцы можна быць не менш глыбокім, чым у палітычнай вершаванай публіцыстыцы. Дзе ж яно, сутнаснае? Мусіць, па вялікім рахунку, не палітыка выратуе свет, а, як даводзіў пісьменнік, краса — краса душы чалавечай, а да гэтага нам далёка, вельмі доўга ісці. Бо столькі мы выракліся і страцілі светлага, чалавечага, сапраўднага, і ўсё хочам змяніць самі сабе, што мы лепшыя, чым ёсць.

Прыпаўшы да чыстых крыніц паэзіі, асабліва востра адчуваеш — як ні парадаксальна гэта гучала б — бруд, тлум, жахлівасць рэчаіснасці. У тым і каштоўнасць анталогіі "Крыніцы", што яна нясе ў сабе багаты духоўны змест. Складалася гэтая кніга — і тут я ніколькі не памыляюся — з верай у вечнасць роднага неба, у нямоўкнасць і адраджальную моц беларускіх крыніц.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

КНІГАРНЯ

# Святло краязнаўства

Большасць сабраных у кнізе "М. М. Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі" матэрыялаў, якія маюць, безумоўна, прамую, радзей — ускосную сувязь з жыццём, навуковымі росшукамі М. Улашчыка, пранізаны яшчэ адным, агульным важкім тэматычным стрыжнем.

Наўрад ці згаворваючыся аўтары выступленняў, дакладаў, агучаных на навуковай канферэнцыі да 90-ых угодкаў М. Улашчыка ў лютым 1996 у Мінску, што выйшлі асобнай кнігай фактычна адзінадушна былі ўважлівыя да гістарычнага краязнаўства. Вось і А. Міхальчанка, адкрываючы канферэнцыю, назваў нашага славутага земляка не толькі гісторыкам і археографам, але і "аўтарам даследаванняў па бібліяграфіі і кнігазнаўству, археалогіі і краязнаўству, этнаграфіі і фалькларыстыцы, мемуарыстыцы і літаратурных крыніцах". І яшчэ адно важнае падкрэсліванне, зробленае ім у дачыненні да вядомага вучонага: "Ён меў незвычайны дар — за лічбамі і фактамі адчуць эпоху, бачыць канкрэтнага чалавека, разумець яго і пераказаць усё гэта чытачу". Ці не гэта вызначальная рыса прафесійнага, самага сур'ёзнага стаўлення да вывучэння гістарычнай мінуўшчыны?

"Краязнаўства — гэта і метад спасціжэння ад прыватнага да агульнага, выяўлення агульнага і асаблівага, адметнага, метад, які, як правіла, абапіраецца на міждысцыплінарныя навуковыя сувязі (і таму асабліва важкі ў плане развіцця экалагічнай культуры), улічвае не толькі высновы навуковых тэорый, але і першасныя назіранні звычайнай жыццёвай практыкі", — заўважыў у свой час старшыня Саюза краязнаўцаў Расіі, доктар гістарычных навук С. Шміт. М. Улашчык, займаючыся бальшыню свайго жыцця рэчамі ў гісторыі досыць сур'ёзнымі, якраз і апекаваўся спасціжэннем "ад прыватнага да агульнага". Азірніцеся на жыццёвы, навуковы шлях нашага славутага суродзіча. Навідавоку — заўсёднае памкненне да шматграннага аналізу, а спярша і для ўсебаковага разгляду кожнага, здавалася б, малазначнага, някідкага факта. На канферэнцыі па ўлашчыказнаўстве дастаткова ўважліва разбіралася і такая праца Мікалая Мікалаевіча, як нарыс пра яго родную вёску — "Вёска Віцкаўшчына" (1883—1917 гг.) (у асобным кніжным выданні — "Была такая вёска"). Мо нават разбіралася, аналізавалася (праўда, хутчэй як факт) болей, чым, несумненна, гераічныя, калі можна так сказаць, працы М. Улашчыка — "Введение в изучении белорусско-литовского летописания", а таксама ўкладанне выдадзеных у 1975 і 1980 гадах 32 і 35 тамоў (беларускіх тамоў!) "Полного собрания русских летописей". Прычын такой увагі некалькі. Па-першае, М. Улашчык са студэнцкай пары апантана зацікавіўся беларускім краязнаўствам. Тут, пэўна, да месца працытаваць невялікую частку з выступлення на канферэнцыі А. Валахановіча: "Творчая індывідуальнасць аўтара, што так добра праглядваецца ў яго працах, кнігах, складвалася няпроста. М. М. Улашчыку пашчасціла на пачатку яго жыццёвага шляху. Ён вучыўся ва універсітэце — першым беларускім універсітэце — у атмасферы паслярэвалюцыйнага грамадскага і культурнага ўздыму. Яму пашчасціла і на сяброў. Першым настаўнікам, сябрам-дарадцам пры абранні ім самастойнага шляху стаў вядомы беларускі вучоны, прафесар У. І. Пічэта. У краязнаўчым гуртку пры БДУ, якім кіраваў сам рэктар, М. М. Улашчык упершыню спрабаваў свае творчыя сілы: выступаў з навуковымі паведамленнямі, дакладамі. Яго цікавіла шмат што, у тым ліку і археалогія, і мастацкая літаратура. Публікавацца ён пачаў яшчэ студэнтам з рэцэнзіі ў часопісе "Полымя", са статыстычнага агляду беларускага друку. І калі праз гады М. Улашчык прыйшоў у вялікую навуку, то ў гэтым немалую ролю адыграў зарад духоўнасці, атрыманы ім у маладосці".

Захоплены з маладых гадоў краязнаўствам, М. Улашчык менавіта за гэта і быў асуджаны. У 1930 г. яго арыштавалі і асудзілі па "справе саюза вызвалення Беларусі". Абвінавацілі як прадстаўніка маладзёжнага цэнтра СВБ. Пра гэта падрабязна на канферэнцыі расказала А. Гесь. У дакладзе прывяла яна і радкі з абвінаваўчага дакумента: "Усебеларускае таварыства краязнаўства і яго філіялы знаходзіліся цалкам у руках СВБ і з'яўляліся арганізуючым цэнтрам беларускага нацыянал-дэмакратычнага руху... За час існавання арганізацыя паставіла на практычную нагу наступныя мерапрыемствы:

1) канцэнтрацыя і стварэнне нацыянальна-дэмакратычных кадраў;

2) захоп у свае рукі беларусізацыі;

3) расстаноўка сваіх людзей на адказныя пасты савецкай работы і накіроўванне савецкіх устаноў адпаведна задач арганізацыі;

4) пастаноўка нацыянал-дэмакратычнай прапаганды ў навучальных установах і друку;

5) ператварэнне краязнаўчай сеткі ў арганізуючыя цэнтры нацыянал-дэмакратычнага руху;

6) захоп у свае рукі выдавецкай справы і часткі перыядычнага друку;

7) апрацоўка нацыянальна-дэмакратычна настроенай праслойкі камуністаў і прасоўванне ў кампартыю членаў арганізацыі..."

Краязнаўства сталася палітычна небяспечнай справай. Ахвярамі зрабіліся многія і многія беларускія краязнаўцы. І што цікава, ці не першымі ахвярамі на пачатку магутнага вітка сталінскага генацыду. Падобна М. Улашчыку ахвярай стаўся і Мікола Каспаровіч, вучоны сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства. Расповед пра залічаных у "ворагі народа" кряязнаўцаў можа атрымацца бясконцым. І сёння не лішнім будзе папярэджванне (кожны мае права на выбар, які, вядома ж, цесна судакранальны з такой маральна-этычнай, духоўнай катэгорыяй, як сумленне): уступаючы на бясконцую сцежку краязнаўчых даследаванняў, памятаеце, што рана ці позна вам давядзецца вытрымаць экзамен на нацыянальную трываласць.

Канферэнцыя па ўлашчыказнаўстве нагадала, болей таго — выразна акрэсліла наступную акалічнасць. Гістарычная навука толькі тады можа мець шырокі грамадскі рэзананс, трывалую сувязь з масамі, толькі тады можа аказваць свой істотны ўплыў на сучаснасць, калі ў ланцугу зносін, кантактаў яе з жыццём існуе акрэслена краязнаўчае звяно. На Беларусі, сярод жыхароў нашага краю яно ёсць. Часам, праўда, звяно гэтае пад уплывам розных знешніх фактараў дае падставы для боязі, што вось-вось ланцуг расчэпіцца. Але праходзіць час, — і ўжо на змену сумненням і трывозе прыходзіць перакананасць у моцы, трываласці краязнаўчага руху.

І ўсё ж, аглядаючы зробленае Улашчыкам, а поруч з ім — многімі сур'ёзнымі гісторыкамі і краязнаўцамі (чаму б не аднесці да іх Міхася Ткачова, Анатоля Грыцкевіча, Валянціна Грыцкевіча, Генадзя Каханоўскага, Міхася Чарняўскага, Віталя Скалабана, Захара Шыбеку, Адама Мальдзіса, пералік можна доўжыць), дзівішся, чаму мы такія раскіданыя і расхрыстаныя. Чаму няма рэальна працуючага, арганізацыйна моцнага, грамадска актыўнага Беларускага краязнаўчага таварыства? Чаму няма шчыльнай сувязі, а мо нават і зладжанага краязнаўчага настаўніцтва за кошт зносін цэнтраў альбо цэнтраў з правінцыяй? Так, можна радавацца дзесятку мясцовых канферэнцый. Сапраўды, цудоўна, што ў Паставах і Гародні, Магілёве і Віцебску выходзяць краязнаўчыя кніжкі, альманахі, часопісы. Добра, што спакваля прасоўваецца работа над гісторыка-дакументальнай хронікай "Памяць".

Але другія шалі пераважваюць. Не ў кожным раёне ёсць раённы краязнаўчы музей. Далёка нам яшчэ да стварэння гісторыі асобных паселішчаў краіны (ніякія высілкі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору шырокую масавую працу тут не падменяць). Ці ў кожнай школе Беларусі ёсць сапраўды краязнаўчы гурток, праходзячы праз заняткі ў якім дзеці вучыліся б любіць Айчыну, сваю радзіму, сваю мясцовасць? Ці кожны настаўнік гісторыі, геаграфіі, беларускай літаратуры валодае краязнаўчым інструментарыем? Пытанні з загадзя вядомымі адказамі. Дзе і ў чым шукаць выйсце? Яго падказвае лёс, прыклад М. Улашчыка. Пра гэта і сказаў на лютаўскай 1996 года канферэнцыі А. Мальдзіс: "Я думаю, што гісторыкі і прысутныя ў зале знойдуць тут многа аналагаў, у тым ліку з беларускай гісторыяй, калі былі спробы ў 1863 г. вырашыць многія пытанні палітычным спосабам, але аказалася, што без таго фундаменту народнага, без той свядомасці гэта задача невыканальная. І тады ў нашых суседзяў, спачатку як заўсёды не ў нас, пачалася карпатлівая работа, ад асноў, як гаварылі ў Польшчы, развілася тэорыя так званых малых спраў, якая ў рэшце рэшт у суседзяў нашых дала плённы вынік. Ці не пара нам пачаць, умоўна кажучы, абапіраючыся на жыццёвы вопыт Мікалая Мікалаевіча, так званую трэцюю, ужо сапраўды асветніцкую, сапраўды культурную беларусізацыю, бо толькі яна можа вырашаць справу. Мне здаецца: чаму ў свой час Мікалая Мікалаевіча так баяліся ў Беларусі, у пасляваенныя гады не хацелі запрашаць? Таму што ён не ўдзельнічаў ні ў мітынгах, ні ў дэманстрацыях, ні ў гучных палітычных акцыях, а рабіў справу. На сённяшні дзень найбольш важна тое, што вопыт Мікалая Мікалаевіча жыццёвы, навуковы, сведчыць: трэба працаваць для народа. Відаць, гэтага нам усім і не хапае".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ЧАСОПІСЫ

# Не пакідай нас, "Наша вера"

Мы неяк паведамлялі пра часопіс "Наша вера", заснавальнікамі якога з'яўляюцца Кафедральны касцёл імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску і Дабрачынны грамадскі фонд "Маці Божая Фацімская", а галоўным рэдактарам — Хрысціна Лялько. Толькі што да чытачоў прыйшоў другі ў сёлетнім годзе і пяты з часу выхаду нумар гэтага выдання. Як і папярэднія, ён багаты на матэрыялы, якія тычацца нацыянальнай гісторыі, знаёмяць з лепшымі сынамі Бацькаўшчыны.

Канечне ж, не абыдзены ўвагай, як таго вымагае характар "Нашай веры", і канфесійныя пытанні. У прыватнасці, друкуюцца чарговыя раздзелы з кнігі Яна Паўла II "Дар і таямніца" ў перакладзе Х. Лялько. І. Жарнасек зрабіла падарожжа па Магілёўшчыне і выступае з нататкамі "Не пакіну вас сіротамі...", з якіх відаць, як абнаўляецца рэлігійнае жыццё ў гэтым рэгіёне Бацькаўшчыны.

Пад рубрыкай "Нашы святыні" публікуюцца артыкулы Т. Габрусь "Святыня незвычайнага лёсу" і А. Ярашэвіча "Нясвіжскі касцёл бенедыктынак". Пра што першы артыкул, гаворыць такая цытата з яго: "Па сваім значэнні ў гісторыі беларускай культуры нясвіжскі касцёл Божага Цела можна параўнаць толькі са славутым Сафійскім саборам у Полацку, які паклаў пачатак ўсяму манументальнаму дойлідству Беларусі". Не менш важны і яшчэ адзін архітэктурны шэдэўр, гаворка пра які ў артыкуле А. Ярашэвіча.

"Шчаслівы, кажуць, той чалавек, які завершыць свой зямны шлях у гадавое свята. Нібыта гэта добры знак неба, якое згадзілася прыняць яго менавіта ў гэтае свята. Ксёндз марыянін Францішак Алячонак адышоў у вечнасць 25 снежня мінулага года, на Божае Нараджэнне. Памёр на зямлі і нарадзіўся для неба..." — так пачынае свой артыкулы "Любіў беднасць і пакору" І. Задарожная пра гэтага ксяндза, дзейнасць якога варта ўдзячнай памяці. Тут жа прапануюцца яго ўспаміны "Застаўся толькі букет ружаў...", у якіх Ф. Алячонак згадвае аб гадах вучобы ў Друйскай гімназіі.

У. Ляхоўскі ("Рупіўся дзеля Бога і людзей") на падставе архіўных матэрыялаў, у тым ліку і прадстаўленых супрацоўнікамі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, прасочвае жыццёвы і творчы шлях Л. Вітана-Дубейкаўскага — вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча часоў Беларускай Народнай Рэспублікі, аднаго з пачынальнікаў сучаснага беларускага дойлідства. А "перад усім быў ён шчырым католікам і дабрадзеем, які апекаваўся Касцёлам, рупіўся пра добрых людзей, не зважаючы на іхнюю рэлігійную і нацыянальную прыналежнасць або палітычныя перакананні".

А І. Багдановіч ("Вы мне ідэёвы сваяк...") прапануе перанесціся ў 20-ыя гады, калі ў асяродку нацыянальнай грамадскасці добра ведалі імёны святара Кастуся Стаповіча (ён жа паэт Казімір Сваяк) і мастака Язэпа Драздовіча. Якімі былі стасункі гэтых двух выдатных сыноў Бацькаўшчыны, у многім можна даведацца з двух лістоў К. Сваяка да Я. Драздовіча, адшуканых І. Багдановіч.

Як вядома, знаным даследчыкам народнай творчасці, традыцый беларускага народа з'яўляўся М. Раманюк, які летась заўчасна пайшоў з жыцця. Пра гэтага выдатнага чалавека і даследчыка згадвае Я. Шунейка — "Зорна-крыжовы час". Змешчаны ўрывак з недапісанай кнігі М. Раманюка "Крыжы Беларусі" — "Крыжы прыдарожныя".

Не абыдзе зацікаўлены чытач увагай і такія матэрыялы, як "Польская мова ў XIV—XVIII стст. і каталіцкі касцёл у Вялікім княстве Літоўскім" В. Пануцэвіча, "Канфесійныя трансфармацыі на Беларусі і нацыянальная самасвядомасць" Ю. Туронка, "Удзел у Адраджэнні" А. Грыцкевіча і іншыя. І, канечне ж, прыемны след у душы пакіне знаёмства з паэзіяй Данүты Бічэль, падборка твораў якой прапануецца ў гэтым нумары.

**А. АН-ЕВІЧ**

## Нам не трэба дзяліць Міцкевіча

**Чым бліжэй 200-ыя ўгодкі з дня нараджэння слаўнага сына беларускай зямлі, вядомага польскага паэта, аднаго з геніяў усяго чалавецтва Адама Міцкевіча, тым большае колькасць юбілейных мерапрыемстваў. 200-годдзе ўрачыста будзе святкавацца восенню, на роднай А. Міцкевічу Наваградчыне. А пакуль ладзяцца кніжныя выстаўкі, імпрэзы ў розных кутках Беларусі, выходзяць кнігі А. Міцкевіча і кнігі пра яго.**

**Не кажучы, зразумела, пра юбілейныя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў Польшчы. Хоць, калі разабрацца, то няма патрэбы іх падзяляць. Бо, як сказаў Часовы Паверaны ў справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Пётр Жахоўскі, А. Міцкевіч — "паэт нашых народаў, нашай зямлі, нашых суайчыннікаў".**

**Згаданыя словы спадара П. Жахоўскага прагучалі на адкрыцці выставы, прысвечанай жыццю і творчасці А. Міцкевіча, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У багатай экспазіцыі прадстаўлены розныя матэрыялы — плакаты з выявамі паэта і яго сяброў, маляўнічыя краявіды беларускай зямлі, сярод якіх А. Міцкевіч гадаваўся, дзе фарміраваўся яго характар, нараджалася любоў да літаратуры, паэзіі.**

**Хораша ўпісваюцца ў экспазіцыю выстаўкі і творы беларускага мастака Аляксандра Зубрыцкага. А. Зубрыцкі працуе ў арыгінальнай тэхніцы — "намалёўвае шклом". Серыю сваіх работ назваў "Беларусь Міцкевіча". Чарговы раз можна палюбавацца неўміручым хараством возера Свіцязь, а таксама ўбачыць надмагілле Марыі Верашчакі, камень Адама Міцкевіча. А яшчэ наведацца ў гарады, дзе ён жыў і тварыў.**

**Тыя, хто прысутнічаў на адкрыцці выстаўкі, змаглі даведацца пра захады, якія прымаюцца цяпер, каб святкаванне 200-годдзя А. Міцкевіча на самай справе засталося для прыхільнікаў яго таленту святам. У прыватнасці, старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны паведаміў, што рыхтуецца унікальнае выданне, у якім тэкст "Пана Тадэвуша" будзе змешчаны паралельна ў арыгінале і ў перакладзе, выкананым Пятром Бітэлем на беларускую мову. А дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны Адам Мальдзіс пазнаёміў з кнігай "Адам Міцкевіч і Беларусь" (пра яе "ЛіМ" падрабязна расказваў у адным са сваіх нумароў). Акрамя таго, Адам Іосіфавіч паведаміў прысутным, што ўдалося адшукаць нашчадкаў Яна Чачота і Ігната Дамейкі, якія, як вядома, з'яўляліся блізкімі сябрамі А. Міцкевіча. Магчыма гэтыя нашчадкі наведаюць Беларусь, прымуць удзел у свяце ў Наваградку.**

## "Роднае слова", N 8

**"Было б на свеце толькі — чалавечна..." — так назвала літаратурны партрэт А. Грачанікава З. Драздова. "Роднае слова" віншуе з 75-годдзем У. Казберука і прапануе яго артыкул "Вытокі і магія паэтычнага слова", у якім аналізуецца верш Я. Купалы "Мая навука". Пад рубрыкай "Зоркі сусветнай літаратуры" апублікаваны артыкул П. Васючэнкі "Вяртанне да Сольвейг. Генрык Ібсен і беларуская літаратура".**

**Часопіс пачынае новую рубрыку "Скарбніца беларускага пісьменства". Першым у ёй стаў артыкул І. Крэнь "З пачуццём моўнай Радзімы", у якім разглядаюцца даследчыцкія працы А. Яскевіч, якія ўтварылі свайго роду пенталогію — "Старабеларускія лексіконы", "Словам скароны свет", "Творы Ф. Скарыны. Жанравая структура, філасофскія погляды, мастацкае слова", "Старабеларускія граматыкі" і "Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI—XVII стагоддзяў: адзінства экзэгемы і герменэўтыкі". "Лексіку "Аповесці пра Трышчана" асэнсоўвае Н. Старавойтава (рубрыка "Помнікі беларускага пісьменства"). Вядомаму пісьменніку, мовазнаўцу Ф. Янкоўскаму споўнілася б 80 гадоў. Пра яго слова "Адданы сын Беларусі", напісанае Н. Гаўрош і К. Панюціч. Сярод іншых матэрыялаў — "Стылістычная функцыя кантрасту ў дыялогах твораў Васіля Быкава" Т. Тарасенка, "Паўторы ў рэпліках дыялога. На прыкладзе твораў І. Мележа" А. Курбекі, "Сімволіка вясельнай паэзіі" С. Фацеевай, "Навошта людзям паэзія" Н. Цяпша, чарговы артыкул М. Мішчанчука пра К. Чорнага "Мінімум няволі і максімум волі..." (К. Чорны ў пошуку адказу на балючыя пытанні даваеннай рэчаіснасці).**

**Змешчаны артыкулы В. Шыбалкі "Матэрыяльная культура старажытнага грамадства Беларусі і яе перыядызацыя", С. Кавалёва "Міфалагічнае самавызначэнне беларусаў", П. Прохарава "Святло Багародзіцы. Гісторыя іканаграфіі", Н. Собалевай "Планкты. Вакальна-інструментальная музыка невядомых аўтараў XVII стагоддзя", А. Рогалева "Брагін", заканчэнне "Праграмы па беларускім фальклоры для навучальных устаноў культуры і адукацыі", падборка вершаў Л. Пранчака "Пакуль кахаю — я паэт...", чарговыя старонкі "Календара знамянальных датаў і падзей на 1998 год"...**

ПАЭЗІЯ

Лера СОМ



# Вечнасці крысо

### ВЯНОК САНЕТАЎ

*1.*

*Лёс дасць таму, хто мае сілы быць*
*Няскораным, з душой неўтаймаванай,*
*Шуканнем адмысловым раскаванай:*
*Навошта, як, дзеля чаго нам жыць?*

*Сярод сляпых, глухіх, унармаваных,*
*Якім адно нажэрціся баліць,*
*Адзінае, што можна ажывіць —*
*Змаганне за магчымасць*
*стаць пазваным.*

*А тут чакае новая навала:*
*Пазваных шмат, дайшоўшых —*
*вельмі мала,*
*І хто там быў, куды яны дайшлі?*

*І ўсё ж, пакуль гадзіннік не адцікаў,*
*Ідзі па гэтай спляжанай зямлі —*
*Адзін сярод спакусы множных лікаў.*

*2.*

*Адзін сярод спакусы множных лікаў:*
*— Дзівак, нічога новага няма,*
*Глядзі, было! І гэтая зіма,*
*І сам ты, растакі мудрэц вялікі,*

*Калісьці быў, і жыў, і пеў дарма...*
*Чарговае жыццё пачаўшы з крыку,*
*Змаўкаюць людзі — хто дзеля разліку,*
*Хто ад таго, што ведае зашмат.*

*А рэшта нешта піша і шукае,*
*Спачатку непадобнасці, якая*
*Хутчэй чым што зняславіць і заб'е,*

*А потым аднадумца, быццам кнігу,*
*Дзе слова вечна-новае дае*
*Надзею, як кароткую адлігу.*

*3.*

*Надзею, як кароткую адлігу,*
*Паспешную прадвесніцу вясны*
*Шануй за тонкі водгалас вайны*
*Супроць цябе цяперашняга мігу.*

*Калі ідзеш цераз гушчар лясны,*
*То марай пра прасторнае паціху*
*Уласнае пераадоліш ліха,*
*Так, тое, што знянацку б'е праз сны.*

*...Хапае дробнай марнай валтузні,*
*У вядомых межах —*
*што ты ні вазьмі —*
*Свет круціцца... штампуюцца падзеі...*

*І толькі тым,*
*хто здольны штось змяніць,*
*Душу сагрэе вечная надзея*
*Сярод зімы, дзе нам канаць і жыць.*

*4.*

*Сярод зімы, дзе нам канаць і жыць,*
*Асоб бракуе, а натоўпу — лішак.*
*Хто б звёў адсюль ціхенькіх*
*шэрых мышак.*
*Бо зграяй знішчаць, што і не згарыць.*

*Дудар узняў не дудку, а кілішак —*
*Ці горла, ці сумленне падлячыць...*
*Не здолеў звесці, прыйдзецца вучыць, —*
*Ці ведаў ты, шукаючы зацішак?*

*Настаўніцтва ж —*
*складанейшая справа,*
*Не мае паказальнікаў: направа,*
*Налева ці ў які там іншы бок...*

*Шалее завіруха. Час адліку*
*Цяпер — твой самастойны крок,*
*Хай страх усіх да гурту*
*гнаў і клікаў,*

*5.*

*Хай страх усіх да гурту гнаў і клікаў,*
*Таго, хто добра помніць інтэрнат,*
*Самотай не спалохаеш, мой брат,*
*Цуд — цішыня пасля сяброўскіх гікаў.*

*...Абавязкова-патачны парад,*
*Натоўп, узоры пераможных рыкаў...*
*Хто зможа там,*
*сярод плябейскіх тыкаў,*
*Разгледзець тло, хлусню і заняпад?*

*Няхай не слепіць таннае святло —*
*Яно ў разніцу шмат каго звяло,*
*Святлу сапраўднаму ахвяр тупых*
*не трэба.*

*Убачыш — толькі вочы падлячы —*
*Не цемру-бруд, а ўсё прадонне неба,*
*Калі не здаўся прывіднай начы.*

*6.*

*Калі не здаўся прывіднай начы,*
*Валодаеш і словамі, і справай,*
*Ёсць абавязак, лёс і нават права*
*Да новай тайны падбіраць ключы.*

*Ды ведаеш, аднак, — яна гарчыць,*
*Яна не з танных, гэтая забава, —*
*Разгадваць таямніцы. Голас славы*
*Не піскне, ды і ў страўніку бурчыць.*

*Рашаць самому — як кантраляваць*
*Тварыць ты будзеш,*
*спажываць ці спаць,*
*З нас кожны сам сабе загад і варта.*

*Твой талент, дык табе і валачы,*
*І слухаць чым — праклёнам,*
*одай, жартам, —*
*Тваё жыццё аднойчы прагучыць.*

*7.*

*Тваё жыццё аднойчы прагучыць*
*Абавязкова — хоць бы крыкам першым*
*Пры нараджэнні. Гэта толькі вершы*
*Маўчаць спачатку, каб пасля вучыць.*

*Вось колькі слоў,*
*з душы абгортку здзёршы,*
*Звіняць у ёй... Ці труціць, ці лячыць —*
*Яны прыйшлі, і ўжо не заглушыць*
*Мелодыі, заснуўшы ці памёршы.*

*Наданне гукам надзвычайнай сілы*
*Ёсць не забаўка, не складныя крылы:*
*Атрута-ноша, што не так — заб'е...*

*Але — нясеш, сярод плявузг і ўпікаў*
*Знаходзіш думку-срэбра, што пяе*
*Крыштальнай нотай у мяшанцы зыкаў.*

*8.*

*Крыштальнай нотай у мяшанцы зыкаў*
*Гучала песня... слухалі яе?*
*Не вельмі каб. Прыгадвалі свае*
*Развагі, сваркі, дробязі, пазыкі, —*

*Людзям штодзённа хлеба не стае...*
*І нехта з тых,*
*хто з песняй гора мыкаў,*
*Захопленых не прычакаўшы крыкаў,*
*Шматзначнае маўчанне вызнае.*

*Не варта захапляцца нематой,*
*Бо той дарма спявае — толькі той! —*
*Каму карціць убіцца ў лаўрэаты.*

*...Даўно зіма лютуе на двары...*
*Пазваць вясну праз ледзяныя краты*
*Ёсць шанц — бяры яго ці не бяры.*

*9.*

*Ёсць шанц — бяры яго ці не бяры...*
*А як не тое возьмеш? Вось знявага!*
*Здаецца, і без рызыкі няблага,*
*Хай выбірае той, хто на гары!*

*Паслухайце, параду дасць бадзяга,*
*Панове гандляры і песняры!*
*Выпадак-кіска мае кіпцюры,*
*Таму сядзі спакойна і не звягай!*

*Але аднекуль выпаўзае страх*
*І трохі-трохі не спаўзае дах —*
*Калоціць падсвядомая пагроза...*

*Адплаціць так —*
*жахнуцца дактары —*
*Зняважаны нескарыстаннем розум,*
*Але ён ёсць, і з ім мы не звяры.*

*10.*

*Але ён ёсць, і з ім мы — не звяры, —*
*Дзівак, пясняр, прарок...*
*ці проста — homo,*
*Які не воўк, які паўсюль як дома,*
*Таму што дом спалілі вяры.*

*За добрае і слаўнае, вядома,*
*Змагаюцца, ды лепшае пары*
*Ніяк не дачакаецца стары,*
*Наўрад пашчасціць тут і маладому.*

*Заўсёды пры нястачы і галечы*
*Дух захаваць прадонна-чалавечы,*
*Перамагаць без куль, нажоў і лат,*

*Дзе позіркам, дзе песняй недапетай —*
*Ён можа ўсё. Таму трымці, салдат,*
*Якую б ты сабе ні ставіў мэту.*

*11.*

*Якую б ты сабе ні ставіў мэту —*
*Хто ведае, ці будзе заўтра час*
*Паскардзіцца праз слёзы — не на вас,*
*Не вам, не ім — а рулі пісталета?*

*Ці свеціць сонца прышласці для нас?*
*Жыві, як быццам хутка вып'еш з Леты*
*Глыток, другі... Тады ўсё роўна —*
*дзе ты,*
*І з кім, і для каго шукаў адказ.*

*Варушыцца сабе Сусвет-кірмаш,*
*Губляецца спалоханы мураш —*
*Якую кашку людцы заварылі!*

*"Жадаў, імкнуўся, намагаўся..." Стоп!*
*Тут застаецца тое, што стварылі —*
*Гісторыя без ідэа-аздоб.*

*12.*

*Гісторыя без ідэа-аздоб,*
*Гісторыя без ідэа-абгорткі*
*Пытанне мае смак салёна-горкі:*
*Нашто каму такая колькасць спроб?*

*Шчаслівых лёсаў не вяшчаюць зоркі:*
*Не тое, дык другое. Без жалоб*
*Не застаюцца ні арол, ні клоп,*
*Хоць сцяміць бы, пра што ідзе гаворка!*

*...У чорным сне прымроілася яўна*
*Такое што страшыць небяспадстаўна:*
*Няўмелы, графаманісты паэт.*

*Перабірае проста, як сюжэты*
*Ён нашы лёсы, марыць пра санет*
*Для гэтага асобнага Сусвету.*

*13.*

*Для гэтага асобнага Сусвету*
*Што прапануеш, пане гаспадар?*
*Патоп ці землятрус, вайну, пажар,*
*А мо букецік незвычайных кветак?*

*Дарэчы быў бы ён вясной, і лету*
*Не перашкодзіць пара добрых мар*
*Пра чыстую красу, якая дар,*
*Непадуладны кулі ці дэкрэту.*

*Гандлююць шмат*
*чым і купляюць шмат,*
*Але не ўсім кіруе аўтамат,*
*Купюрны шоргат і кавалак мяса...*

*Цудоўнае, галоўнае з аздоб*
*І прышласці і Залатога часу,*
*Складаецца з гісторыяў асоб.*

*14.*

*Складаецца з гісторыяў асоб*
*Любая казка ці апавяданне,*
*Наўрад увойдзеш нават у паданне,*
*Калі ціхенька побач з жонкай соп.*

*З нябыту непаўторнае вяртанне*
*Чакае Першых, Вечнасці крысо*
*Кранае толькі іх... аднак лязо*
*Таксама ім прызначыла спатканне.*

*Ну вось і выбірай сабе чаргу,*
*Я тут нікому не дапамагу,*
*І выбар той — наколькі ён уладны?*

*Дзе розніца — пасціцца, плакаць, піць,*
*Сядзець, ісці — калі адно дакладна:*
*Лёс дасць таму, хто мае сілы быць.*

*15.*

*Лёс дасць таму, хто мае сілы быць*
*Адзін сярод спакусы множных лікаў,*
*Надзею, як кароткую адлігу*
*Сярод зімы, дзе нам канаць і жыць.*

*Хай страх усіх да гурту гнаў і клікаў,*
*Калі не здаўся прывіднай начы —*
*Тваё жыццё аднойчы прагучыць*
*Крыштальнай нотай у мяшанцы зыкаў.*

*Ёсць шанц — бяры яго ці не бяры,*
*Але ён ёсць, і з ім мы незвяры,*
*Якую б ты сабе ні ставіў мэту...*

*Гісторыя без ідэа-аздоб*
*Для гэтага асобнага сусвету*
*Складаецца з гісторыяў асоб.*

ПРОЗА

# ПРАЙСЦІ ПРАЗ ВАЙНУ І ВЯРНУЦЦА...

Іван НАВУМЕНКА



## СТАРОНКІ З АПОВЕСЦІ

***Прапаную ўвазе чытачоў урывак з аповесці "Дзесяты клас". У ёй ідзе гаворка пра юнакоў і дзяўчат, якія, прайшоўшы крывавымі дарогамі вайны, страціўшы многіх таварышаў, заканчваюць напрыканцы вайны ў вызваленым ад фашыстаў мястэчку сярэднюю школу.***

***Аповесць будзе друкавацца ў часопісе "Маладосць".***

**АЎТАР**

У ХЛІПКІМ адліжным студзені тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года паранены, спісаны з арміі па чыстай, малады, але змарнелы Грыша Ладуценка дабіраўся да роднага мястэчка. Апошнія кіламетраў сорак ён пад'ехаў на цягніку, які далей роднай, якая стала прыфрантавой, станцыі не ішоў. А ўвогуле ён дыбаў з паўпустым рэчавым мяшком з гарадка паблізу Харкава, дзе ляжаў у шпіталі. Армія наступала, фарсіравала Днепр, і ён трымаўся яе тылоў, бо тут лягчэй было пракарміцца.

Ён дабіраўся цэлы месяц. Была позняя, але цёплая восень. Дрэвы, асабліва дубы, асіны і клёны стаялі ў барвовазалатым убранні. З раніцы ўзыходзіла нізкаватае сонца і пад поўдзень грэла ніштавата. Байцы тылавых часцей скідалі шынелі, скручвалі ў скаткі, крочылі ў адных гімнасцёрках.

Наступленне фронту, які другі раз за год — у лютым сорак трэцяга года і ў жніўні таго ж года браў Харкаў — развівалася хоць і не вельмі імкліва, але паспяхова. У дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі Чырвоная Армія з вялікімі ахвярамі вызваліла Кіеў.

Грыша ведаў: немцаў выгналі з некаторых беларускіх раёнаў. У тым ліку з роднага мястэчка.

Паўночныя вятры нечакана прынеслі холад, і, пераначаваўшы ў полі, у стозе саломы, акрываючыся шынелкам з танкаватага англійскага сукна, Грыша прамёрз і прастудзіўся. Два тыдні ён ляжаў на печы ў спагадлівай украінкі, вёска якой размяшчалася на самым узмежжы з Беларуссю.

Той украінцы Грыша падараваў гарусовую хустку, адзін з нешматлікіх падарункаў, якія нёс у рэчавым мяшку. Яшчэ на падыходзе да мястэчка Грыша даведаўся, што мястэчка ўцалела, але яно фактычна прыфрантавое. На Дняпры ўжо быў адноўлены мост, і Грыша сеў у цягнік.

Незвычайная радасць захліснула Грышавы грудзі, калі ён выйшаў на перон. Станцыя ніколькі не змянілася. На месцы стаяў пафарбаваны ў жоўты колер будынак, дзе размяшчаўся пакой дзяжурнага па станцыі, тэлеграф, чакальная зала з білетнай касай і буфет. Не кранула вайна і астатніх будынкаў — таварнай канторы, кабінета начальніка станцыі, пакгаўза. Тыя самыя вялізарныя срабрыстыя таполі сваімі пышнымі кронамі ахінлі станцыю.

І далей было ўсё знаёмае, некранутае. Толькі як бы меншае па памерах. Вагавая будка, нарыхтоўчыя базы. І толькі на месцы агромністай гандлёвай базы, пабудаванай перад самай вайной, Грыша ўбачыў папялішча. Відаць, тут размяшчаліся нямецкія ваенныя склады.

Грыша вярнуўся дамоў з цяжкім, прыгнечаным настроем, які не магла да канца развеяць нават сустрэча з родным домам. Ён столькі пабачыў жахаў, жудасцей вайны, гора, слёз, смерцяў, што марыў пра адно: пабыць у цішыні, адаспацца, адагрэцца, знайсці душэўную раўнавагу.

Пры яго паяўленні ў родным доме ўсе як бы анямелі. Бацька, жарсткаваты, не схільны да сантыментаў, зрабіўся, як дзіця, мяккі, падатлівы. Маці наогул не разумела, на якім яна свеце. Малодшыя брат і сястра, якія прыкметна падраслі, выцягнуліся, глядзелі на Грышу, як на героя, што з'явіўся з казкі.

Сярэдняга брата, Міхася, дома не было. Ён, небарака, не маючы поўных шаснаццаці гадоў, пайшоў на ўласны хлеб: рабіў у Гомелі аглядчыкам вагонаў.

Багатай радні ў Грышы няма. Завітвае толькі цётка Анюта, стрыечная сястра маці, паўнацелая местачковая прыгажуня. Прыносіць бохан хлеба, ладны крышан сала.

Гэта трохі скрасіла жыццё, бо сям'я сядзела на бульбе, якой накапала на агародзе і на кавалку выдзеленага поля. Карова яшчэ даілася, але мусіла вось-вось запусціцца.

Мястэчка фактычна было прыфрантавым. Савецкае войска толькі-толькі фарсіравала Прыпяць і вызваліла горад Мазыр. Але з паўночнага боку, там, дзе перад самай вайной калгасы дружна асушалі балоты, пралягаў фронт. Прыкладна за кіламетраў трыццаць-сорак ад мястэчка.

Грыша застаў поўную хату вайскоўцаў, хлопцаў прыкладна свайго веку. Яны па чарзе ездзілі на фронт ляжаць у залітых вадой балотных акопах. Вярталіся зняможаныя, хворыя, страшна кашлялі, хрыпелі прастуджанымі грудзьмі. Яму, двойчы параненаму, нават было сорамна ляжаць на печы, грэцца. Бо салдаты валяліся на падлозе, на саломе.

Некалькі месяцаў праваляўся Ладуценка ў шпіталі пасля першага ранення, якое атрымаў пад Масквой. Разрыўной куляй яму развярнула левае плячо. Быў, відаць, пашкоджаны нерв, і левая частка цела знерухомела. Ён думаў, што наступае канец. Але пакрысе боль адступаў, рука пачала варушыцца.

Другое раненне, менш цяжкае, ён атрымаў пад Харкавам. Асколак міны, якая разарвалася на брустверы, драпануў патыліцу. Але больш цяжкая, чым раненне, была кантузія. Ён страціў слых, нюх, галава здавалася пустой і ў ёй пастаянна шумела. Слых з цягам часу вярнуўся, нюх прапаў канчаткова. Ён пакутаваў ад пастаянных болей у галаве.

Дзіўна Грыша трапіў у армію. Іх, некалькіх хлопцаў і дзяўчат райком камсамола абавязаў гнаць на ўсход калгасных і саўгасных кароў. Месяц цягнулася вандраванне. Ён за гэты месяц зазнаў такога гора, так стаміўся, знябыўся, што не захацеў вяртацца ў мястэчка, якое немцы, здаецца, яшчэ не паспелі захапіць. Дзяўчаты і двое хлопцаў (сярод іх школьны таварыш Мікалай Зімчук) пакіравалі дамоў. А ён падаўся ў гарадок Жыздру, дзе жыў далёкі сваяк. Звычайна сястра сваяка, суседка, трохі картавая, на пытанне, дзе жыве брат, адказвала:

— У Жызд'і...

У Жыздры, аднак, сваяка не было: яго, як ветэрынара, паспелі мабілізаваць у армію. Грыша пайшоў у ваенкамат.

Маладжавы ваенкаматаўскі маёр перабраў Грышавы паперкі, і, не хаваючы хітрых агеньчыкаў у вачах, спытаў:

— Чым ты дакажаш, што не шпіён? Цяпер блукае многа такога цёмнага, як ты, народу...

— Можаце пазваніць. Гомель, Мазыр немцы яшчэ не занялі...

Маёр задуменна зірнуў на Грышу.

— Яны, брат, Смаленск занялі. Ірвуцца да Масквы. Гэта для нас важней... Прыйдзі заўтра...

Грышу не было як чакаць да заўтра. Ён быў галодны, не было дзе начаваць. Таму ён паправіў у метрыках пяцёрку на тройку. Цяпер яму стала васемнаццаць гадоў. У той жа Жыздры ён пашыбаваў у штабную хату воінскай часці, якая там стаяла. Прачытаўшы ў пераводным пасведчанні, што Грыша дзесяцікласнік, стараваты капітан у пенснэ, падобным на тое, якое насіў пісьменнік Чэхаў, нават узрадаваўся.

Грыша, аказваецца, трапіў у пантонна-маставы атрад, якому патрэбны былі пісьменныя хлопцы. Такія, якія лёгка маглі разлічыць, колькі кілаграмаў толу, аманалу, дынаміту, іншага выбуховага рэчыва патрэбна для падрыву таго ці іншага моста.

Назаўтра Грыша меў гімнасцёрку, шынель, пілотку з зорачкай і ўпершыню за месяц з лішкам бадзяння па свеце ўволю наеўся пшоннай кашы. Атрад быў на колах (меў некалькі паўтаратонак), байцы жылі ў палатках. Пачынаючы ад Рослаўля, Кірава, знаёмай Жыздры ўслед за адступаючай арміяй байцы ўзрывалі і палілі масты. Але так толькі лічылася, што ўслед. Трывалага фронту, а таксама надзейнай сувязі між воінскімі часцямі не было. Часам прыходзілася наладжваць часовыя пераправы для груп чырвонаармейцаў, якія выходзілі з лясоў і збіраліся на беразе рэчкі, масты на якой ужо былі ўзарваны.

Атрад, як і шматлікія часці, восенню сорак першага года трапіў у Бранска-Вяземскі кацёл. Але наяўнасць машын дапамагла вырвацца з варожага акружэння.

Пад Масквой атрад дзейнічаў у складзе пяхотнага палка. Там Грышу цяжка параніла. Лячыўся аж ва Уральску. Праляжаў да вясны.

Дзіўныя здараюцца на вайне прыгоды. Пасля шпіталя Ладуценку накіравалі ў запасны полк, які размяшчаўся ў Кіраве — гарадку, адбітым у немцаў у выніку зімовага наступлення. У гэтым Кіраве, недалёкай ад яго Жыздры і Рослаўлі ён пачынаў вайну.

Потым быў Харкаў. Харкаў сорак трэцяга года. Ладуценка ўдзельнічаў ва ўзяцці яго ў лютым сорак трэцяга, потым яшчэ раз — у жніўні. У жніўні яго другі раз параніла.

На гэты раз ён лячыўся паблізу Харкава, у маленькім гарадку. Вайна скіравалася ў пераможны бок, і ў шпіталі змест жыцця Грышы Ладуценкі звёўся да ўспамінаў. Ён бачыў свой двор, насып чыгункі за агародам, станцыю, вагавую будку, базы, склады наўзбоч тупіковых пуцей.

Найчасцей у яго вачах паўставалі агромністыя веліканы-дубы, што ахіналі чыгунку. Такіх дубоў за доўгія месяцы ваенных вандровак Грыша не бачыў нідзе. Тлела ў душы кволая надзея застацца жывым, вярнуцца дамоў, абняць маці, бацьку, двух братоў і сястру. І яшчэ адна думка-мара, чым далей, тым болей укаранялася ў Грышавай душы: не трэба нікуды ездзіць, блукаць па чужых дарогах, а жыць там, дзе нарадзіўся: на роднай зямлі, пад родным небам...

Толькі два тыдні пагуляў вольным казаком Грыша. Бохан хлеба і крышан сала, якія прынесла цётка Анюта, з'елі хутка. У бацькі, які робіць на станцыі стрэлачнікам, прадуктовая картачка. Па ёй фактычна даюць толькі хлеб. Буханку на тры-чатыры дні. Трохі малака дае карова-пярэдайка. Невялікая, больш падобная на казу, карова фактычна ратуе сям'ю.

Сёе-тое перападае сям'і ад салдат, якія стаяць у хаце, раз-пораз ад'язджаючы на фронт, на мокрае балота і вяртаючыся назад. Але і салдаты любяць бульбу, вараць у кацялках, і невядома, ці хопіць яе да вясны.

У Грышы пасведчанне інваліда другой групы, але ў ваенкамаце інвалідам нічога не даюць.

Грыша ідзе ў рамонтную брыгаду, у якой працаваў да вайны пачынаючы з чацвёртага ці пятага класа. Брыгадзір ранейшы: чарнавокі, падлобісты Галошкін, суровы з выгляду і мяккі па характары. З даваенных, знаёмых Грышу пуцейцаў у брыгадзе толькі двое. Астатнія — зборны люд, ёсць нават маладыя жанчыны.

Ранейшай чыгункі няма. На шырокім жвіравым насыпе ляжыць толькі адна каляя, са сшытымі на жывую нітку кароткімі рэйкамі.

Брыгада працуе каля лясной будкі, якую так часта ўспамінаў Грыша. Толькі лесу няма! Ён высечаны паабапал чыгункі на дзвесце метраў. Баяліся немцы партызан, выбухаў на чыгунцы, таму вынішчылі лес.

Па пнёўі густа падымаюцца маладыя дрэўцы. Тонкія іх дубчыкі прагна цягнуцца да сонца. Але прырода лесу мяняецца. Тут быў светлы сасновы бор. Але маладых хвоек не відаць. Іх забівае чарналессе: асінкі, бярозкі, ляшчыннік.

Знішчаны лес дзяцінства, і ад гэтага сумна на душы. Зніклі таксама дубы-веліканы ўзбоч чыгункі, якія шасталі пышнымі вершалінамі, перагукваючыся з вятрамі.

Брыгада звычайная. Грыша хутка пазнаёміўся з рамонтнікамі. Яму нават падабаецца адна рамонтніца — чарнявая Зося, якая таксама кідае прыязныя позіркі на Грышу. Яна маладая ўдава: калі вызвалілі мястэчка, на мужа прыйшла пахаронка.

Зося задзірыстая і смяшлівая. Бліскаючы залатым зубам, яна штодзень высмейвае марудлівых дзядзькоў, якія пры адыходзе брыгадзіра адразу спыняюць работу. Яны або стаяць, абапіраючыся на лапаты, або нават разводзяць цяпельца, сядаюць вакол і грэюць рукі.

Грыша — можна лічыць, адляжаўся, адаспаўся. Абышоў мястэчка — усе вуліцы і ваколіцы. Паселішча ад вайны пацярпела мала. Грыша з вялікай радасцю аглядаў знаёмыя з дзяцінства мясціны. Канец мястэчка, які называецца Дрылі, хоць і ацалеў, але вока асабліва не вабіць. Стаяць, уросшы ў зямлю, звычайныя вясковыя хаты, будынкі з аблупленай тынкоўкай, хлявы з праваленымі стрэхамі.

Асабліва радуецца Грыша ўцалелай станцыі. Са станцыяй звязана ягонае дзяцінства і не надта шчаслівае юнацтва, перапыненае вайной.

Некалі ён марыў, сядзе ў цягнік і паедзе ў шырокі свет. Вучыцца. Пасля сёмага ці дзесятага класа. Інакшага працягу жыццёвага шляху не бачыў. Такі быў час, а калі сказаць гучней, эпоха, у якую Ладуценку прыйшлося жыць.

Грышу, які, прыйшоўшы з работы, лезе на цёплую печ, як бы сорамна перад прастуджанымі на мокрых балотах байцамі, якіх душыць надрыўны кашаль.

Маці іх лечыць. Заварвае розныя зёлкі, дае піць. Толькі Грышу не можа вылечыць. Ад кантузіі ў яго раптам пачынае страшэнна шумець у галаве, дрыжаць рукі, ногі. Ён у такіх выпадках шукае зацішку, ляжыць, акрыўшыся шынялём.

Адзінока жыве Грыша. Сябры-таварышы, падхопленыя віхурай вайны, раскіданы па свеце. Аб некаторых няма ніякіх вестак: або загінулі, або пакутуюць у палоне.

На вугальным складзе робіць Іван Гарошык, з якім Грыша да вайны сябраваў. На станцыі яны іншы раз сустракаюцца, заводзяць кароткія гаворкі.

Не так даўно вярнуўся са шпіталя Мікалай Зімчук, які разам з Грышам гнаў кароў на ўсход, але вярнуўся ў мястэчка разам з дзяўчатамі і Васілём Грышкіным.

Зімчук разам з Гарошыкам, Грышкіным, іншымі хлопцамі і дзяўчатамі, жывучы ў час акупацыі ў мястэчку, памагаў партызанам. Як толькі прыйшла армія, яго мабілізавалі.

Яго цяжка параніла ў жывот на тых самых мокрых балотах, куды ездзяць салдаты, што кватаруюць у Грышавым доме. І лячыўся Зімчук у мясцовым шпіталі, які толькі-толькі быў арганізаваны.

Зімчук шчуплаваты, сімпатычны, з вясёлымі цемнаватымі вачамі і вялікім, трохі сіняватым носам. Ён вучыўся да вайны даволі пасрэдна, затое ўсё пра ўсіх ведаў. Ён і пра Габрыелу, дзяўчыну, з якой яны разам гналі на ўсход кароў, Грышу расказаў.

Яна, аказваецца, дачка ўрача і фельчаркі з суседняга вялікага сяла. Цяпер бацькі Габрыелы перабраліся ў мястэчка і абодва працуюць у шпіталі. Можа, і перабраліся дзеля таго, каб даць дзецям магчымасць вучыцца.

Мікалай шмат чаго ведае. З дзесяцікласнікаў, якія пайшлі на фронт у сорак першым, мала асталося жывых. Толькі Ізя Перэльман, які служыць у санітарным поездзе, ды Кірыла Цукар — яму пашэнціла вывучыцца на армейскага радыста. З дзевяцікласнікамі справа не лепшая. Шмат іх палягло ў баях мясцовага значэння, якія з восені вядуцца на мокрых, трохі аддаленых балотах.

Паведамленне пра Габрыелу аглушае Грышу. Значыць, яна тут, у мястэчку, а ён за тры месяцы яе ні разу не пабачыў. Па словах Мікалая, яна пойдзе ў дзесяты клас, заняткі з якім пачнуцца з восені.

Каб Грыша быў трохі пранікілвейшы, то заўважыў бы, што Мікалай, расказваючы пра Габрыелу, крывавата пасміхаецца, як бы штосьці недагаворвае. Але Грышу якраз захліставае радаснае пачуццё: ён можа пабачыць Габрыелу!

## Майстра партрэтнага жанру

**27 жніўня споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Сяргея Вакара.**

**Творчасць С. Вакара значна паўплывала на развіццё нацыянальнай скульптуры. Вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы, затым у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Акадэмія мастацтваў) у А. Бембеля і А. Глебава адшліфавала закладзены прыродай талент мастака, які пазней увасобіўся ў шэрагу выдатных скульптурных твораў, непаўторных па сваім мастацкім вырашэнні, вобразнай нюансіроўцы, а таксама стылістычнай апрацоўцы.**

**Раннія творы скульптара прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне ("Рэйкавая вайна", "Юныя мсціўцы", "Стаяць насмерць"). Ужо ў гэтых працах праявілася імкненне мастака да пошуку новых пластычных форм кампазіцыйнай пабудовы. Гэта стала адметнасцю творчасці майстра і асабліва выявілася ў партрэтах дзеячаў старажытнай і сучаснай культуры: Уладзіміра Караткевіча, Арлена Кашкурэвіча, Янкі Брыля, Пімена Панчанкі, Генадзя Бураўкіна, Міколы Гусоўскага і іншых.**

**Зварот С. Вакара да вобраза Ф.Скарыны ў 60-я гады быў надзвычай смелым словам у аднаўленні памяці пра родную гісторыю, што на той час было ўласціва нямногім мастакам (нацыянальны ўздым у беларускім мастацтве пачаўся толькі напрыканцы 80-х гадоў).**

**Вобраз Максіма Багдановіча — просты і лаканічны, у той жа час дакладны і лірычны — надзвычай тонка перадае сутнасць паэта.**

**Скульптар ніколі не засяроджваецца на сухой перадачы партрэтнага падабенства. Як сапраўдны творца, ён як мага больш імкнецца раскрыць асобу і яе ўнутраны свет, надаць жыццёвасць праз падкрэсліванне фактуры матэрыялу, кантрастнасць гладкаапрацаваных і шарахаватых паверхняў, часам адвольна абагульняе пэўныя фрагменты кампазіцыі, надаючы ім экспрэсіўна-дынамічнае гучанне.**

**Увесь свой талент Сяргей Вакар прысвяціў роднай і непаўторнай беларускай зямлі.**

**Т. ПЕШЫНА**

## У калгасе свой аркестр



**Духавы аркестр калгаса імя Чарняхоўскага Карэліцкага раёна ўтвораны быў яшчэ пры панскай Польшчы Мікалаем Ігнатавічам Рыжкоўскім, які доўгія гады быў яго нязменным кіраўніком. Цяпер у аркестры дзевяць чалавек, узрост якіх ад 69 да 73 гадоў. Выключэнне — малады кіраўнік аркестра Алег Абрамовіч, які прыехаў сюды пасля заканчэння Гродзенскага вучылішча мастацтваў. Ніводная ўрачыстасць у калгасе не абыходзіцца без аркестра.**

*На здымку: удзельнікі духавога аркестра Павел Паўлавіч Глобыш, Павел Фаміч Курчыцкі, Павел Іванавіч Машчонскі, Павел Пятровіч Бакей і яго кіраўнік Алег Абрамовіч.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# У пошуках традыцыі

### ГУТАРКА ТЭАТРАЛЬНАГА КРЫТЫКА ЖАНЫ ЛАШКЕВІЧ З ДРАМАТУРГАМ СЯРГЕЕМ КАВАЛЁВЫМ

**Жана ЛАШКЕВІЧ: Апошняе дзесяцігоддзе нашага тэатральнага жыцця зноў пацвердзіла старую, добра вядомую ісціну: поспехі беларускага тэатра непарыўна звязаны з выкарыстаннем нацыянальнага матэрыялу. Прыгадаем найбольш яскравыя спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы: "Тутэйшыя" Янкі Купалы ды "Ідылія" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна, "Крывавая Мэры" Зміцера Бойкі ў пастаноўцы Аляксандра Гарцуева, "Вітаўт Вялікі" Аляксея Дударава ў пастаноўцы Валерыя Раеўскага. Найлепшым спектаклем у Альтэрнатыўным тэатры была "Камедыя" паводле Каэтана Марашэўскага і Францішка Аляхновіча (рэжысёры — Мікалай Андросік і Уладзімір Рудаў), у Мінскім тэатры-студыі — "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы (рэжысёр — Уладзімір Савіцкі). А які поспех мелі "Страсці" В. Мдзівані ў пастаноўцы Валянціна Елізар'ева на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета?!**

**Сяргей КАВАЛЁЎ**: Міжнародны поспех і прызнанне. Як і большасць з пералічаных табой спектакляў. Я ведаю, як горача прымалі елізар'еўскія "Страсці" варшаўскія гледачы, а пінігінскую "Ідылію" — люблінскія.

**— Але насуперак гэтай даўно вядомай ісціне большасць нашых тэатраў адвар очваецца ад беларускай драматургіі, а рэжысёры мараць выключна пра пастаноўкі замежных аўтараў. Ці не знаходзіш ты такую сітуацыю парадаксальнай?**

— Як беларускі драматург, я ў такой сітуацыі *знаходжуся*. А ты, як беларускі тэатральны крытык і кіраўнік літаратурнай часткі тэатра, добра разумееш, што сітуацыя не толькі парадаксальная, але і неадназначная. Наракаць на несвядомасць рэжысёру найпрасцей, куды цяжэй прапанаваць ім рэальную альтэрнатыву. Большасць з іх жадае працаваць з *класікай*: як замежнай, так і беларускай. Апошняй, натуральна, значна менш. К. Марашэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Купала... Хто яшчэ? М. Пінігін з поспехам паставіў "Тутэйшых", "Ідылію" ды з'ехаў у Санкт-Пецярбург, абвясціўшы (ў інтэрв'ю Ж. Лашкевіч), што сучасная беларуская драматургія яго не цікавіць. А Барыс Луцэнка ў чарговы раз звярнуўся да "Раскіданага гнязда"...

**— Да нядаўняга часу панавала ўяўленне, што першыя драматургічныя творы ў беларускай літаратуры ўзніклі на пачатку XX ст., у лепшым выпадку — у сярэдзіне XIX. Адлік вёўся калі не ад "Паўлінкі" Я. Купалы, то ад "Пінскай шляхты" В. Дуніна-Марцінкевіча. Безумоўна, у навуковых працах і нават падручніках можна было прачытаць пра школьны тэатр на Беларусі ў XVII-XVIII стст., пра магнацкі тэатр XVIIIст. Але шырокай грамадскасці імёны Каспара Пянткоўскага, Міхаіла Цяцерскага, Уршулі Радзівіл, Міхала Агінскага былі невядомыя.**

— Альбо былі вядомыя, як імёны дзеячаў выключна польскай культуры.

**— Таго ж Каэтана Марашэўскага на пачатку 90-х гг. адкрыў гледачу Альтэрнатыўны тэатр, паказаўшы "Камедыю", падмацаваную "Птушкай шчасця" Францішка Аляхновіча і асучасненую Уладзімірам Рудавым. Потым "Камедыя" ў той самай інсцэніроўцы трапіла на гродзенскую і маладзечанскую сцэны. Я. Купала ў свядомасці гледача асацыяваўся выключна з хрэстаматыйнай "Паўлінкай", якая шмат дзесяцігоддзяў з'яўлялася візітоўкай не толькі нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, але беларускага тэатра ўвогуле. Рэалізаваўшы на сцэне "Тутэйшых" у 1990 годзе, М. Пінігін адкрыў гледачам іншага Купалу. З гэтага спектакля пачаўся новы перыяд у гісторыі беларускага тэатра.**

— Я згодны з тваёй думкай, што з "Тутэйшых" пачаўся новы этап у развіцці беларускага тэатра. Дадам яшчэ, што не толькі М. Пінігін адкрыў гледачам іншага Купалу, але і Я. Купала — іншага Пінігіна. Пагадзіся, аднак, што зварот да нацыянальнай класікі на пачатку 90-х гг. быў выкліканы не зацікаўленасцю асобных рэжысёраў, а зменамі ў грамадска-палітычным жыцці краіны, працэсам нацыянальнага адраджэння. Да гэтага часу рэпертуар дваццаці двух тэатраў Беларусі, з якіх толькі тры былі беларускамоўнымі, нічым не адрозніваўся ад рэпертуару тэатраў Расіі. Ад Брэста да Уладзівастока ставіліся тыя самыя п'есы маскоўскіх драматургаў, альбо руская ды замежная класіка.

**— Была яшчэ беларуская савецкая драматургія. Творы Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка, Аляксея Дударава таксама ставіліся па ўсім абшары былога СССР. П'еса А. Дзялендзіка "Выклік багам" была пастаўлена больш чым у ста тэатрах. Бясспрэчна, беларуская драматургія 50—80-х гг. карысталася поспехам у іншых рэспубліках. Але што засталося ад былой славы, дзе сёння тыя п'есы, у рэпертуары якога тэатра?**

— Сучасную беларускую драматургію за межамі краіны не ведаюць і ў бліжэйшы час ведаць не будуць. Таксама як і мы не ведаем, на жаль, сучаснай літоўскай, украінскай ды нават рускай драматургіі. Беларуская савецкая драматургія мела аўтарытэт на ўсесаюзнай сцэне, але на пачатку 90-х гг. знікла само паняцце "ўсесаюзная сцэна" і адбылася пераарыентацыя на "ўнутраны рынак" тых драматургаў, якія раней пісалі з разлікам на ўсесаюзнага гледача.

**— Ці азначае гэта, што аўтары, якія прыйшлі ў драматургію на пачатку 90-х гг., апынуліся ў лепшым становішчы, чым тыя, якія прабіваліся на сцэну ў 70—80-х гг?. Вы не тлумілі сабе галавы клопатамі (або марамі) пра расійскага гледача, але не мелі ў беларускіх тэатрах канкурэнцыі з расійскімі драматургамі, бо ўзнікла запатрабаванне на нацыянальны матэрыял.**

— У 70—80-х гг. не было запатрабавання на нацыянальную драматургію, затое ў тэатраў быў загад зверху: хаця б раз на год ставіць беларускую п'есу. Ва уніфіцыраваным, правінцыйна-расійскім рэпертуары беларуская драматургія мела сваю "экалагічную нішу", невялікую, але законную дзялянку. Беларускім аўтарам дазвалялася ўслаўляць подзвігі народа ў Вялікай Айчыннай вайне, паказваць сацыялістычныя пераўтварэнні ў вёсцы, высмейваць бюракратаў-прыстасаванцаў сярэдняга калібру, ну, і змагацца з п'янствам. Кастусь Губарэвіч, Алесь Махнач, Мікола Матукоўскі, Алесь Петрашкевіч практычна не выходзілі ў сваіх творах па-за гэтыя тэматычныя рамкі. Моцна ўплывала ідэалогія і на творчасць А. Макаёнка, асабліва ў ранні перыяд. У жанравым плане ў беларускай савецкай драматургіі дамінавалі гераічная драма і сатырычная камедыя. Філасофскія, універсальныя праблемы чалавечай экзістэнцыі не закраналіся, на іх мела права толькі руская ды замежная драматургія. Зрэдчас А. Макаёнку ўдавалася вырвацца да агульначалавечых праблем, пераапрануўшы сваіх герояў у замежныя строі (напрыклад, у "Зацюканым апостале"). Да гістарычнай, ці хутчэй культурна-патрыятычнай тэматыкі звяртаўся А. Петрашкевіч. Урэшце былі яшчэ гістарычныя п'есы Уладзіміра Караткевіча, хаця ягоная драматургія менш цікавая за прозу.

**— А хіба ў сучасных беларускіх драматургаў няма сваёй "дзялянкі" ў тэатральным рэпертуары? Тая ж гістарычная тэматыка, напрыклад. Варта прыгадаць пастаноўкі 90-х гг.: "Звон — не малітва" Івана Чыгрынава, "Вітаўт Вялікі" ("Купала") Аляксея Дударава, "Барбара Радзівіл" Раісы Баравіковай, "Брат мой, Сымон" Уладзіміра Рудава...**

— На мой погляд, сучасная беларуская драматургія значна больш разнастайная, як у тэматычным, так і ў жанравым плане, за беларускую савецкую драматургію. У нашага пакалення няма лідэра, якімі былі для сваіх калег К. Крапіва, А. Макаёнак, А. Дудараў, затое больш, як мне здаецца, індывідуальнасцяў. Адзін піша п'есы абсурду, другі — постмадэрністычныя фарсы, трэці — псіхалагічныя драмы, чацвёрты — дэтэктывы, пяты — меладрамы... Нехта звяртаецца да традыцый нацыянальнага, дасавецкага тэатра, іншы спрабуе выкарыстаць набыткі замежнай драматургіі XX ст. Што датычыць дамінацыі гістарычнай тэмы — гэта, з аднаго боку, запатрабаванне часу, з другога — звычайная кан'юнктура. Цешыць тое, што з'явіўся нацыянальна свядомы глядач, здольны ўспрыняць і зразумець гістарычную п'есу. У часы Караткевіча такога гледача яшчэ не было: можа таму, што ў савецкіх школах фактычна не вывучалася гісторыя Беларусі.

**— Ведаеш, калі я глядзела "Князя Вітаўта", я зразумела, што мы ў пэўным сэнсе паўтараем шлях літоўскага тэатра. Мы адваёўваем, выцягваем з цемры забыцця нашую гісторыю і выхоўваем на ёй гледача. Тое, што літоўскія драматургі (Юсцінас Марцінкявічус, Юозас Грушас) зрабілі ў 70-х гг. і яшчэ раней (Болюс Сруога), — нашы толькі-толькі пачалі. Дарэчы, літоўцы ўжо паставілі "Дзядоў" Адама Міцкевіча, далучыўшы іх да свайго культурнага досведу, чаго мы пакуль ніяк не можам здзейсніць.**

— Атрымаўшы права (невядома, як надоўга) на ўласную гісторыю, мы сталі паўтараць шлях не толькі літоўскага тэатра, але і польскага, са спазненнем не на дзесяцігоддзі, а на стагоддзі: п'еса Алойзы Фялінскага "Барбара Радзівілава" была створана ў 20-х гг. XIXст. Не хацелася б, аднак, каб гістарычная тэма сталася для сучаснай беларускай драматургіі такой самай "дзялянкай", кан'юнктурнай нішай у тэ-



МУЗЫКА

# Як птушка — для палёту...

Улетку сталічнае жыццё на канцэрты, як вядома, бяднее. Але калі й нават было б наадварот, дык і з мноства музычных падзей гэтая — вылучылася б. Таму што нячаста перад мінскай публікай выступаюць салісты-трубачы. Таму што музычныя гурманы не адразу прыгадаюць, калі апошнім разам цешылі слых пяяннем дуэта трубы ды аргана. Таму што ансамбль з васьмі (!) труб у нашай камернай зале дагэтуль ніколі не гучаў. Таму што...

А ці не хопіць тлумачэнняў? Калі на афішы імёны выхаванцаў класа прафесара Мікалая Волкава — гэта ўжо гарантуе адметнасць праграмы, хай сабе яна замаскіраваная агульнай для ўсіх рубрыкай канцэртнага цыкла "Настаўнікі і вучні".

Гадоў 20 таму пра беларускую школу выканальніцтва на медных духавых толькі безнадзейна ўздыхалі: маўляў, справы — "труба". З росквітам педагагічнай дзейнасці Мікалая Волкава, які мае сёння студэнтаў у Беларускай акадэміі музыкі і вучняў у каледжы пры ёй, загаварылі пра стварэнне айчыннай школы ігры на трубе.

Школа — значыць традыцыі, пераемнасць, пошук. Традыцыі навучання, пераемнасць сусветных дасягненняў у прафесіі, пошук творчай адметнасці, — пра ўсё гэта можна гаварыць, згадаўшы сёлетні канцэрт класа прафесара М. Волкава ў сталічнай зале на Залатой Горцы.

Розныя паводле "стартавых магчымасцяў", паводле ўзросту, тэхнічнай аснашчанасці ды практыкі публічных выступленняў, ягоныя выхаванцы падобныя ў сваёй сур'ёзнай падрыхтаванасці да будучага прафесійнага жыцця, у настроенасці на Мастацтва. Ці не таму самыя гарэзлівыя хлопцы гэтак апантана рэпеціравалі, гэтак натхнёна чакалі свайго выхаду на сцэну, апрануўшы акадэмічныя строі, з гэткай безабароннай шчырасцю раскрывалі сябе — музыцы, у музыцы, праз музыку? Ці не таму паказаліся як... восем індывідуальнасцяў?

Дзмітрый Пекун звярнуў на сябе ўвагу шчыльным, актыўным, роўным гучаннем інструмента; Сяргей Петрашкевіч — трапятлівай і эстэтызаванай манерай грання на сваёй загадкава цьмянай, смуглявай "антыкварнай" трубе; наймаладзейшы з усіх, Дзмітрый Чахоўскі, — засяроджанасцю і нейкай вучнёўскай стараннасцю; Дзмітрый Трафімовіч — артыстычнай спанатранасцю; міжнародны лаўрэат Яўген Лятэ — яркім сонечным сола ў самым "ласункавым" рэпертуары...

●

Дарэчы, пра рэпертуар. У праграме, традыцыйна падзеленай на дзве часткі, было нямала сучаснай музыкі, сучаснікам у нашым краі амаль невядомай: Брытэн, Бано, Энеску, Гедзіке, Чэйз. Была і чароўная даўніна: Бах, Тэлеман, Расіні, Арнольд фон Брук.

Першае аддзяленне прайшло пад акампанемент фартэпіяна (канцэртмайстры Ганна Мешчаракова, Кацярына Ракуць), калі не лічыць "акапэльнага" спеву фанфараў. На жаль, на жаль, на жаль — каралеўскі інструмент не заўсёды здатны закалыхаць слых ілюзіяй перастварэння сімфанічнай партытуры. А калі раяль мусіць, але не можа замяніць сабою аркестр, дык пачынае час-почас успрымацца чымсьці кшталту "спратэзаванага" звяна ў злучэнні з салістам.

А вось другое аддзяленне канцэрта парадавала сапраўдным ансамблем тэмбраў. Дзякуючы энтузіязму вядомага музыканта і педагога Аляксандра Мільто, маладыя беларускія трубачы ўпершыню выступілі ў дуэце з арганам. Труба і арган — гэта не проста прыгожа! Гэта ўзор вытанчанасці!

Вытанчанасць, зразумела, дасягаецца філіграннаю працай. Над стылем твора. Над канкрэтнымі штрыхамі. Над спалучэннем партыі трубы з партыяй аргана, якая не павінна механічна замяняць сабою фартэпіянны акампанемент, а мусіць суіснаваць у ансамблі паводле законаў прыроды свайго інструмента,

атральным рэпертуары, як у свой час тэма Вялікай Айчыннай вайны і вясковая тэма для беларускай савецкай драматургіі. А такая небяспека існуе. Сёння для многіх рэжысёраў і крытыкаў нацыянальная драматургія сінанімічна беларускай гістарычнай драме, і менавіта па канонах гэтага жанру ацэньваецца кожны спектакль, дзе героі апрануты ў старадаўнія ўборы і размаўляюць па-беларуску. Памятаю, як пасля прагляду маёй камедыі "Саламея і амараты" ў пастаноўцы Рыда Таліпава адна з прадстаўніц крытычнага цэху абурана заявіла: "Калі гэта наша гістарычнае мінулае — не трэба нам такога мінулага!" Падобнае абурэнне выклікаў эратычны фарс Максіма Клімковіча і Міраслава Шайбака "Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія" ў тых, хто ўспрыняў яго як біяграфічны твор пра Францішка Скарыну.

**— Наколькі я ведаю, маладзейшыя драматургі не пішуць на гістарычную тэму, а ад шаблоннага разумення нацыянальнага матэрыялу як выключна гістарычнага павінна ратаваць жанравая разнастайнасць драматургічных твораў, наяўнасць адметных творчых індывідуальнасцяў. У найноўшым падручніку "Сучасная беларуская літаратура" (Мінск, 1997) А. Бельскага драматургія 90-х гг. прадстаўлена імёнамі А. Дударава, А. Асташонка, У. Бутрамеева, М. Арахоўскага, У. Сауліча, С. Кавалёва, І. Сідарука, А. Федарэнкі, У. Клімовіча. Некаторыя імёны з гэтага пераліку не выклікаюць у мяне даверу, а вось імёнаў З. Бойкі і С. Кандрашова, памойму, не хапае. Але я згодна з думкай аўтара, што "наша нацыянальная драматургія не можа пахваліцца на такую вялікую колькасць імёнаў, як сучасная паэзія ці проза". У гэтым пераканала мяне практыка вядучай тэлеперадачы "Тэатр у фатэлі". Адной з галоўным мэт перадачы было знаёмства тэлегледачоў з сучаснай беларускай драматургіяй; адкрыццё новых імёнаў, прадстаўленне ўрыўкаў з яшчэ непастаўленых твораў. Аднак вельмі хутка ідэя перадачы сябе вычарпала: з-за абмежаванай колькасці драматургаў і з-за недахопу ведаў і культуры ў іх (як аказалася, не кожны аўтар мог падтрымаць размову ў кадры). Дарэчы, першая і даволі ўдалая сустрэча была з табой, другая — са Зміцерам Бойкам, якога тады яшчэ ніхто не ведаў, але неўзабаве кола цікавых аўтараў замкнулася, і я пачала запрашаць перакладчыкаў замежнай драматургіі: Зміцера Коласа, Лявона Баршчэўскага і інш. Другі прыклад. Актыўна распачынаў сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам вопытнага рэжысёра В. Мазынскага Рэспубліканскі тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі "Вольная сцэна", заснаваны ў 1991 г. з мэтай кшталціць маладых драматургаў, дапамагаць ім даводзіць свае творы да сцэны. Новы, эксперыментальны тэатр пазнаёміў гледача з п'есамі М. Арахоўскага, У. Сауліча, І. Сідарука, М. Адамчыка і М. Клімковіча, Р. Баравіковай, М. Казачонка, У. Рудава, С. Кавалёва, С. Кандрашова... Але ў хуткім часе імпэт спаў, у рэпертуары з'явіліся Шэкспір, Чэхаў, Брэхт, замест новых імёнаў пачалі трапляцца вядомыя яшчэ ў 70—80-х гг. (Г. Марчук, А. Папова). Зноў кола замкнулася? Можа, ты перабольшваеш, калі гаворыш пра багацце і разнастайнасць сучаснай драматургіі ў параўнанні з савецкай? Што праўда, на чарговы Рэспубліканскі конкурс п'ес у 1997 г. было даслана звыш дзевяноста твораў, але няшмат з іх заслугоўвае пастаноўкі. Сярод пераможцаў — адно знаёмыя імёны.**

— Я казаў пра большую разнастайнасць сучаснай беларускай драматургіі ў параўнанні з савецкай у *тэматычным* і *жанравым* плане, а не пра колькасную перавагу аўтараў і твораў. Драматургія па-ранейшаму застаецца элітарным заняткам, людзей, якія прафесійна ёю займаюцца, можна пералічыць па пальцах. У нашым Саюзе пісьменнікаў паэтаў ці празаікаў у некалькі разоў больш, чым драматургаў. Прычына простая: можна ўсё жыццё пісаць і друкаваць вершы або апавяданні, якія ніхто не чытае. Але тэатры не будуць раз за разам ставіць п'есы, якія ніхто не хоча глядзець. Драматургія вымагае большай прафесійнасці і адказнасці. Мне заўсёды робіцца ніякавата, калі я бачу на рэпертуарнай афішы сваё прозвішча побач з Шэкспірам ці Чэхавым. Сучаснаму паэту не даводзіцца друкаваць свае вершы ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Першацвет" побач з класікамі сусветнай літаратуры, выключэнне — часопіс "Крыніца", але там і патрабаванні да аўтараў вышэйшыя. Што датычыцца "Вольнай сцэны", я лічу ўзнікненне гэтага праекта важнейшай падзеяй у тэатральным жыцці рэспублікі 90-х гг. паводле ўплыву на развіццё беларускай драматургіі. На сцэне тэатра пабачылі свет п'есы фактычна ўсіх драматургаў новай генерацыі, а п'есы, трэба заўважыць, былі вельмі розныя: фарс "Vita brevis" М. Адамчыка і М. Клімковіча, п'еса абсурду "Галава" І. Сідарука, сацыяльная камедыя "Часны сектар" М. Казачонка, дэтэктыў "Містэр Розыгрыш" С. Кандрашова і інш. Калі я на пачатку 1992 г. працаваў у літаратурнай частцы тэатра, то прынёс В. Мазынскаму п'есы М. Адамчыка і М. Клімковіча "Vita brevis" і "Чорны квадрат" (рэалізаваныя пазней А. Гузіем і А. Гарцуевым), чым шчыра ганаруся. Напрыканцы 1996 г. на "Вольнай сцэне" адбылася прэм'ера "Заложніцы кахання" ў пастаноўцы А. Гузія паводле маёй п'есы "Люстэрка Бландоі" (з выкарыстаннем музыкі гурта "Камелот"). Сёння назіраецца нейкае зацішша ў супрацоўніцтве тэатра з маладымі беларускімі драматургамі, затое гучны розгалас мела пастаноўка В. Мазынскага "Кар'еры Артура Уі..." Б. Брэхта. Думаю, праблемы "Вольнай сцэны" звязаны, аднак, не з вузкасцю кола драматургаў і не з недахопам цікавых твораў, а з абмежаванасцю кола рэжысёраў, якія мусяць рэалізоўваць гэтыя творы. Стылістычна і жанрава розныя п'есы вымагаюць розных рэжысёрскіх падыходаў, разнастайнай тэатральнай эстэтыкі... А перадачы "Тэатр у фатэлі" шкада. Былі спадзяванні, што, пазнаёміўшы, гледачоў з драматургамі, яна пачне знаёміць публіку з іхнімі творамі і ператворыцца ў тэлевізійны тэатр, накшталт таго, які існуе на польскім тэлебачанні.

**— Дзеля гэтага патрэбна было зусім іншае фінансаванне і, як ты кажаш, шырэйшае кола не толькі аўтараў, але рэжысёраў і акцёраў. Але вернемся да асноўнай тэмы нашай гаворкі і паспрабуем намаляваць калектыўны партрэт новай генерацыі беларускіх драматургаў. Цяперашні дырэктар Купалаўскага тэатра Генадзь Давыдзька гаварыў мне яшчэ ў 1992 г., што п'есы з шафы загадчыка літаратурнай часткі ён падзяліў бы на тры катэгорыі. Першая — гэта творы прызнаных драматургаў; другая — творы акцёраў і рэжысёраў; трэцяя — творы маладых беларускіх літаратараў. Далей, прафесійна прааналізаваўшы тэмы і сюжэты, якія там прапаноўваюцца, праблемы і пытанні, якія закранаюцца, ён зрабіў выснову, што самая цікавая з трох плыняў — маладыя літаратары, і дадаў, што ягоныя надзеі звязаны менавіта з іхнім узроўнем культуры і веданнем мовы. І, у прынцыпе, я з ім згодна, хаця мушу адзначыць: пакуль што большых поспехаў дасягнулі прадстаўнікі іншай плыні — акцёры і рэжысёры, якія самі ўзяліся пісаць п'есы. Найперш тут трэба назваць акцёра "Вольнай сцэны" Зміцера Бойку. Ягоная "Крывавая Мэры", пастаўленая на малой сцэне Купалаўскага тэатра, стала лепшым дэбютам сезона 1996/97 гг. З. Бойка імкнецца пісаць у стылі тэатра абсурду, можа, не зусім разумеючы яшчэ сутнасці гэтага метаду. Дапамагалі яму рэжысёр А. Гарцуеў і акцёр У. Кірычэнка, якія "дасачынялі" п'есу проста на пляцоўцы. Далей — Алесь Гарцуеў, акцёр Купалаўскага тэатра і з нядаўняга часу адметны рэжысёр ("Чорны квадрат", "Крывавая Мэры"), які таксама спрабуе свае сілы ў драматургіі. Праўда, пакуль што менш паспяхова, чым у іншых галінах сваёй дзейнасці, калі меркаваць па другаснай і неарыгінальнай п'есе "Знайсці Элізабэт", пастаўленай аўтарам у Малым тэатры. Нарэшце, сам Генадзь Давыдзька — не толькі акцёр, рэжысёр (а цяпер яшчэ і дырэктар) Нацыянальнага акадэмічнага тэатра, але і кіраўнік тэатра-студыі "Бульвар смеху". Ягоны "Рок-н-рол на саломе" ўжо некалькі сезонаў цешыцца нязменнай папулярнасцю ў мінскай моладзі. Можна было б яшчэ прыгадаць імёны Мікалая Пінігіна, Валерыя Маслюка, Уладзіміра Рудава ды іншых рэжысёраў, якія з большым ці меншым поспехам спрабуюць займацца драматургіяй. А вось новых аўтараў, прыйшоўшых у тэатр у 90-х гадах з літаратуры (паэзіі, прозы, крытыкі), пакуль няшмат: М. Адамчык і М. Клімковіч, С. Кавалёў, І. Сідарук... Усе выхадцы з літаратурнай суполкі "Тутэйшыя", па адукацыі — філолагі (акрамя, здаецца, М. Клімковіча), мінская публіка ведае вас пераважна па спектаклях на "Вольнай сцэне". Я не называю аўтараў-пачаткоўцаў альбо тых, хто працуе для дзіцячай аўдыторыі.**

— Кожны з вышэйзгаданых аўтараў піша не толькі для драматычных, але і для лялечных тэатраў. Таму сярод "драматургаў ад літаратуры" я назваў бы яшчэ Пятра Васючэнку. Дарэчы, такі універсалізм з'яўляецца адметнай рысай новай генерацыі. Другая асаблівасць бачыцца мне, як я ўжо адзначаў, у адсутнасці выразнага лідэра. І самае важнае, кожны з нас імкнецца рэалізаваць свой "праект", мэтанакіравана ісці сваім уласным шляхам, а не пісаць п'есы на патрэбу кан'юнктуры, не прыстасоўвацца да густаў публікі. У драматургію аўтары заўсёды прыходзілі альбо з тэатра, альбо з іншых літаратурных жанраў. Першым было ўласціва добрае веданне законаў сцэны, другім — добрае веданне мовы, адчуванне стылю. Як можна паяднаць гэтыя вартасці? У нашых беларускіх умовах, калі ні акцёры, ні гледачы не ведаюць як след роднай мовы, адрозненне паміж дзвюма плынямі асабліва прыкметнае: драматургі "ад тэатра" зусім мала дбаюць пра багацце мовы, а драматургі "ад літаратуры" мусяць спрашчаць мову сваіх твораў, каб іх зразумела публіка.

**— Ты кажаш, што ў кожнага з маладых драматургаў ёсць свой "праект", свой асабісты план, які мэтанакіравана рэалізоўваецца. Я бачу, што такі "план" ёсць, напрыклад, у З. Бойкі, які ўпарта працуе ў галіне тэатра абсурду. Але не магу зразумець, напрыклад, "план" І. Сідарука, які пасля п'есы абсурду "Галава" напісаў жаласлівую меладраму "Плач, саксафон". Скажы, а які праект рэалізоўваеш ты сам? Твой "Трышчан..." (дарэчы, адна з маіх улюбёных п'ес) — гэта тыповы тэатр прадстаўлення, "тэатр гульні ў тэатр". У "Саламеі..." ёсць элементы тэатра перажывання, псіхалагічныя матывіроўкі, якія, на жаль, згубіліся ў камедыйнай пастаноўцы Р. Таліпава. "Люстэрка Бландоі" — рамантычная меладрама, пабудаваная на сярэднявечным матэрыяле. "Стомлены д'ябал" — філасофская фантасмагорыя, густа перасыпаная цытатамі і алюзіямі з хрэстаматыйных твораў беларускай драматургіі (з "Камедыі" К. Марашэўскага, "Раскіданага гнязда" Я. Купалы і г. д.). Як і чым усё гэта аб'ядноўваецца?**

— Свой праект я называю герменеўтычнай драматургіяй. Нарадзіўся ён з настальгіі па старасветчыне, па адсутнасці ў нашай літаратуры драматургічных твораў, якія мне, як сучаснаму гледачу, хацелася б паглядзець у тэатры. Прачытаўшы кнігу Я. Баршчэўскага "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" (яшчэ ў карэктуры, ахвяраванай мне перакладчыкам М. Хаўстовічам), я падумаў: што калі б Я. Баршчэўскі замест зборніка апавяданняў напісаў у сярэдзіне XIX ст. рамантычную п'есу на фальклорнай аснове? Падумаў, уявіў і напісаў п'есу "Звар'яцелы Альберт, або Прароцтвы шляхціца Завальні". Атрымалася не інсцэніроўка (гэта было б магчыма толькі на падставе аднаго асобнага апавядання), а п'еса-містыфікацыя, дзіўная кантамінацыя сюжэтаў, вобразаў, сказаў з кнігі і маіх уласных прыдумак і фантазій. Па сутнасці, я імкнуўся напісаць п'есу за Яна Баршчэўскага ў эстэтыцы рамантычнага тэатра XIX ст. Як цяпер разумею — дарэмна. Трэба было пісаць п'есу "за сябе", у эстэтыцы сучаснага тэатра, не імітаваць неіснуючы тэкст, а актуалізоўваць тэкст сапраўдны. Праца над п'есай "Звар'яцелы Альберт..." і аднайменны спектакль у Гомельскім абласным драматычным тэатры шмат чаму мяне навучылі. Узнік і аформіўся ў асноўных рысах "герменеўтычны праект". Наступныя п'есы з'явіліся ў выніку маіх палкіх "раманаў" са старадаўнімі беларускімі тэкстамі. Упэўнены, што толькі па спектаклях "Трышчан ды Іжота" і "Заложніца кахання" многія гледачы даведаліся пра існаванне беларускіх рыцарскіх раманаў XVIст., да сённяшняга дня ў нас не выдадзеных. Я не ставіў перад сабой асветніцкіх мэт, проста запрашаў акцёраў і гледачоў далучыцца да захапляльнай гульні з тэкстамі. Потым я прывёз з Кракава польскае выданне мемуараў Саламеі Пільштыновай-Русецкай. Мой сябар М. Хаўстовіч паспяхова пераклаў яго на беларускую мову і выдаў пад назвай "Авантуры майго жыцця", а я напісаў п'есу "Саламея і амараты". Аднайменны спектакль Рыда Таліпава ў Мінскім абласным драматычным тэатры (г. Маладзечна) выклікаў сімпатыі гледачоў і неадназначныя ацэнкі крытыкаў. Стаміўшыся ад прыгодаў "Саламеі...", ад нашай постсавецкай рэчаіснасці і, як кажа Сакрат Яновіч, ад сваёй беларускасці, я з'ехаў у Люблін, адкуль вярнуўся са "Стомленым д'яблам". Вось такі мой праект і так я яго рэалізоўваю.

**— Паміж "Звар'яцелым Альбертам..." (1991) і "Стомленым д'яблам" (1997) ты па-за працай над рэалізацыяй свайго "герменеўтычнага праекта" займаўся дзіцячай драматургіяй — і даволі ўдала. Ведаю, што твае п'есы пабачылі сцэну не толькі ў беларускіх, але і ў расійскіх тэатрах. "Хохліка", напрыклад, паставілі ў Смаленску, Астрахані, Самары; "Драўляны Рыцар" трапіў на Расійскае тэлебачанне. "Стомлены д'ябал" пастаўлены ў Любліне. Ці не пярэчыць твой уласны досвед твайму ж катэгарычнаму сцвярджэнню, што беларускую драматургію за межамі рэспублікі не ведаюць так, як ведалі калісьці беларускую савецкую драматургію, і ў бліжэйшы час ведаць не будуць?**

— Што з таго, што недзе з'яўляюцца асобныя п'есы? П'есу М. Адамчыка і М. Клімковіча "Vita brevis..." паставілі ў Маскве, а п'еса А. Паповай "Улюбёнцы лёсу" заняла не так даўно першае месца на міжнародным конкурсе ў Германіі. Але ў Еўропе нашу драматургію як не ведалі, так і не ведаюць. У Расіі калегі-драматургі ў лепшым выпадку спытаюць: ці піша цяпер што-кольвек Дудараў? Пра беларускую драматургію даведаюцца ў свеце толькі тады, калі даведаюцца пра беларускі тэатр і пра беларускую культуру ўвогуле.



багатага на тэмбры, на варыянты рэгістроўкі. Няцяжка ўявіць, колькі часу вымагае такая праца. Няцяжка здагадацца, што ў калатнечы летніх экзаменаў часу на рэпетыцыі бракавала. І няцяжка даравяць музыкантам зразумелыя ў такой сітуацыі грахі ды агрэхі, бо ў цэлым іх творчая рызыка і пошук мелі гожае мастацкае апраўданне.

Цяпер пра тое, пра што варта казаць асобна: беларускі рэпертуар. Ён — ёсць!

Галіна Гарэлава, вядомая ўжо як аўтар арыгінальнага Канцэрта для трубы з аркестрам, у свой час выкананага выхаванцам М. Волкава, бліскучым Андрэем Кавалінскім, зрабіла новыя прыгожыя падарункі для гэтага інструмента. Сапраўды, яе опусы парадавалі ўсіх: і маэстра-настаўніка, і маладых выканаўцаў, і слухачоў. "Вакаліз" — пранікнёная песня для трубы; "Трыпціх для чатырох трубаў" — гэткая замалёўка рыцарскага турніра ля муроў старажытнага беларускага замка...

Па прапанове А. Мільто спецыяльна да гэтага канцэрта напісаў "Amen" для трубы і аргана Аляксандр Літвіноўскі, супрацоўніцтва беларускіх трубачоў з якім можа мець яркую перспектыву.

●

Перспектыва — гучыць аптымістычна! Асабліва, калі думаеш пра тое, што канцэрты класа М. Волкава могуць зрабіцца рэгулярнымі, расквеціць жыццё не толькі ў сталіцы, прыцягнуць увагу публікі, актывізаваць творчасць кампазітараў, заахвоціць да супрацоўніцтва іншых музыкантаў... А далей?

Як ні балюча пра тое думаць, але некалькі лепшых выхаванцаў прафесара Волкава "зачапіліся" за выгодныя прапановы на Захадзе: М. Пасечнік, А. Кавалінскі... Не нам з вамі дакараць гэтых таленавітых музыкантаў, тым больш, калі не дакарае іх сам Настаўнік. І за што дакараць? Узгадаваныя "пад крылом" клапатлівага майстра, яны захочуць самі "ўстаць на крыло" і адчуць "радасць творчага палёту", а вязьмо побытавых ды грашовых праблем пацягне іх долю, усё ніжэй, ніжэй, і талент застанецца незапатрабаваны, мары — марнымі, маладосць — у мінулым... Чужы вопыт робіць іх мудрэйшымі.

А Мікалай Міхайлавіч, сам вялікі мудрэц, ладкуе і ладкаваць будзе канцэрты свайго класа — у памяць пра настаўніка, у якога вучыўся, і дзеля будучыні ўсіх гэтых таленавітых хлопцаў: "Трэба паказваць, што ёсць не толькі Кавалінскі або Пасечнік. Ёсць іншыя, бо клас ёсць, жыве". І ён разумее, што гэтыя іншыя таксама пры першай спрыяльнай нагодзе будуць ад'язджаць, пакуль у нас не зменіцца фінансавая сітуацыя. Бо годнасць нашых музыкантаў сёння насамрэч цэняць "там", і яны адчуваюць сябе патрэбнымі, калі іх прафесіяналізм, іх мастацтва належным чынам аплачваецца. Што іх чакае тут? Вядома. І пакуль музычнае мастацтва, культура не будуць адэкватна фінансавацца, "уцечку талентаў" не спыніш. Нават "жалезнай заслонай".

Канечне, можна распрацаваць належны дакумент, які абавязваў бы "эмігранта" выплачваць грашовую кампенсацыю дзяржаве за колішнія выдаткі на яго адукацыю. Але ці не лепей паруліцца накoнт гожых умоў для працы і творчасці тут, на радзіме?

Талент нараджаецца для вольнага палёту, як птушка. І, як птушка, вяртаецца раз-пораз да роднага гнязда. Гняздо ж будуюць там, дзе бяспечна, цёпла, надзейна. Такі закон вялікага жыцця, спрачацца з якім не мае сэнсу.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: клас прафесара М. Волкава.*
*Фота А. ПРУПАСА*

## З публіцыстычным ухілам

ІРЫНЕ КЛІМАШЭЎСКАЙ — 70



**Нарадзілася Ірына Уладзіміраўна ў Мінску. Вучылася на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працавала літсупрацоўнікам у газеце "Советская Белоруссия". У 1954 годзе паступіла ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, які скончыла завочна ў 1960 годзе. У 1966—1968 гадах з'яўлялася ўласным карэспандэнтам газеты "Советская культура" па Беларусі, з 1969-га па 1979 год працавала літсупрацоўнікам бюлетэня "Строительство и архитектура Белоруссии".**

**Дэбютавала як празаік у 1952 годзе на старонках альманаха "Советская Отчизна" (цяперашні часопіс "Нёман"). Піша прозу, нарысы, публіцыстычныя артыкулы. Выйшлі кнігі "Синий Бор", "Ключики и ключ", "На долгую память", "Пора любви", "Письма о счастье" і іншыя. Выступае І. Клімашэўская і ў галіне крытыкі. Пераклала на рускую мову некалькі кніг беларускіх пісьменнікаў.**

**Доўгіх год Вам жыцця, шаноўная Ірына Уладзіміраўна! Новых творчых поспехаў!**

## Свой, чурылаўскі...

ВАСІЛЮ ШЫРКО — 50



**У выдавецтве "Мастацкая літаратура" запланавана кніга Васіля Шырко "Вунь чурылавец пайшоў", змест якой склалі гумарыстычныя аповесці: аднайменная і "О, святая прастата". А чурылаўцы — добрыя знаёмыя пісьменніка, бо нарадзіўся ён у вёсцы Чурылава Уздзенскага раёна. Таму і расказвае пра сваіх герояў з такой любоўю, шчырасцю. І, канечне ж, з дасціпным гумарам. Персанажы не толькі гэтай, а і іншых яго кніг узяты з самога жыцця.**

**Скончыўшы факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, В. Шырко служыў у арміі, працаваў карэспандэнтам "Сельской газеты". У 1973—1986 гадах быў рэдактарам, потым загадчыкам аддзела галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Працаваў таксама рэдактарам аддзела нарыса часопіса "Полымя", намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Наша доля"... Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса "Беларуская думка".**

**Як і многія, свой літаратурны шлях В. Шырко пачынаў з вершаў, першыя з якіх апублікаваў у 1978 годзе ў часопісе "Маладосць" і газеце "Чырвоная змена". Выйшлі кнігі "Зямлі бацькоўскай прыцягненне", "Сцяжына да людзей", "Дзед Манюкін не салжэ" і іншыя. Напісаў шэраг інсцэніровак паводле твораў нашых пісьменнікаў. Як драматург, В. Шырко неаднойчы выходзіў пераможцам на рэспубліканскіх конкурсах на лепшы драматургічны твор. Аўтар сцэнарыя дакументальнага фільма "Песня пшанічнага поля". Разам з У. Вялічкам і У. Глушаковым выдаў кнігу "Маладая Беларусь". Адзначаны прэміяй Саюза журналістаў.**

**З поўднем веку Вас, Васіль Аляксандравіч! Новых поспехаў у жыцці і творчасці!**

ПОШТА

# Сум крыві ў самотным краі

Я некалькі дзён запар не развітваўся з невялікім зборнікам паэзіі невядомага мне Леаніда Рыжыкава "Сум крыві". Вершы прыцягвалі, уражвалі, стваралі незвычайны настрой. Цяпер нібы і не да пранікнёнага паэтычнага радка, час бяспамяцтва, абыякавасці, ці не паўсюднай самотнасці. І праўда — сум крыві... Здаецца, далёка не паэтычны час, калі хочацца, але ёсць душа, якая прагне прыгожага, незвычайнага. Знаёмлюся з аўтарам, слухаю яго аповеды пра жыццё родных, сяброў, пра работу, якой аддадзена дзесяткі гадоў.

Нарадзіўся Леанід Іванавіч Рыжыкаў у кастрычніку 1932 года на хутары непадалёк ад вёскі Гарэлькі Дубровенскага раёна. Леанід — чацвёрты сын у бацькоў, Івана Восіпавіча і Матруны Васільеўны. У тыя ж гады сям'я Рыжыкавых зведала страшэнны голад — плён "шчаслівых часоў" калектывізацыі. У створаным калгасе існавала жорсткая дысцыпліна. Маці раней сонейка падхоплівалася і спяшалася на палеткі, не было калі за дзецьмі прыглядаць, уся надзея на старэйшага брата і сястру.

Чытаць і пісаць навучыліся самастойна. Матуля любіла слухаць, як дзеці ўслых чыталі нешта цікавае з кніг. Галоўны чытальнік у сям'і Рыжыкавых — брат Віктар, у будучым доктар тэхнічных навук, актыўны супрацоўнік у ведамстве галоўнага ракетчыка С. Каралёва.

У 1939 годзе Леаніда аддалі вучыцца ў школу, што месцілася ў вёсцы Хоўбні. Цяпер вёскі няма, згарэла ў гады вайны.

Як жылі ў гады вайны, колькі гора зведалі — гаворка асобная. Цяжка быў паранены брат Віктар. Вярнуліся Рыжыкавы ў родныя мясціны ўлетку 1944 года. Усё спалена, высечана, перакапана — акопы, зямлянкі, супрацьтанкавыя равы — фронт тут стаяў 9 месяцаў.

Скончыўшы сёмы клас у 1947 годзе, паступіў вучыцца ў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум, на вячэрняе аддзяленне, бо ўдзень працаваў аўтаслесарам на заводзе. У 1951 годзе прызвалі ў войска, трапіў на Чарнаморскі флот, пачаў службу на мінным тральшчыку ў Керчы.

Служба не цукар, але, акрамя службы, Леанід пайшоў вучыцца: у пасёлку Аршынцава паблізу Керчы была сярэдняя школа. Усё гэта дзякуючы чуламу камандзіру — старшыні 2 стацці Андрэю Сарокіну. Ён жа дазволіў матросу Рыжыкаву карыстацца сваімі падручнікамі — сам вучыўся на гістфаку Сімферопальскага педінстытута. Разам хадзілі на археалагічныя раскопы, што праводзіліся ў багатых на мінуўшчыну мясцінах — Керчы, Феадосіі, Судаку.

За год да дэмабілізацыі матрос Леанід Рыжыкаў атрымаў атэстат сталасці.

У красавіку 1956 года пайшоў працаваць на мінскі завод запчастак (цяпер завод шасцерняў) слесарам. Свой аўтамеханічны тэхнікум скончыў праз тры гады.

Леаніда Рыжыкава сябры і калегі па рабоце называлі вечным студэнтам. У 1959 годзе ён паступіў на вячэрняе аддзяленне БПІ. З 19 гадоў вучобы 13 — на вячэрніх аддзяленнях.

Звыш 20 гадоў шчыраваў на заводзе, даслужыўшыся да начальніка аддзела механізацыі і аўтамеханізацыі.

І ніколі не забываў пра вершы. Некаторыя з іх былі надрукаваны ў перыядычных выданнях. Усе вершы пад адной вокладкай былі сабраны ў 1997 годзе, напярэдадні 65-годдзя паэта, цікавага, працавітага чалавека, неблагога самадзейнага мастака-жывапісца, вынаходніка, улюбёнага ў свой край.

Варта дадаць, што са сваёй жонкай Раісай Іосіфаўнай Леанід Рыжыкаў адсвяткаваў 40-годдзе сумеснага жыцця — рубінавае вяселле. Юрась — старэйшы сын — мастак, супрацоўнік часопіса "Вожык", дачка Святлана — таксама мастачка, сябра Саюза мастакоў Беларусі.

**Вячаслаў ДУБІНКА**

Леанід РЫЖЫКАЎ



•

*Час вызначае зброю —*
*Прывыкнем,*
*Калі штодня.*
*У кожнага свая Троя*
*Чакае свайго каня.*
*Кропля катуе камень,*
*Боль праглыні, жывы —*
*Рана забыты намі*
*Вокліч:*
*— Іду на вы!*
1980 г.

•

*Будзяць промні ранак золкі,*
*Смачна шоргае каса —*
*Пад пялёсткавай вясёлкай*
*Жвава ходзіць сінь ляза.*
*Дрэмлюць мудрыя курганы,*
*А ў зацішку ля ракі*
*Рэдкім невадам туману*
*Ловяць цені хмызнякі.*
*Прыпыніся на імгненне.*
*Чуеш? Славіць цішыня*
*Урачыстасць нараджэння*
*Працай стрэчанага дня.*
1964 г.

### Сакавік

*На зайздрасць поўдню*
*Фарбы чыстай далі —*
*Аж хаты жмурацца*
*У звонкі белы дзень,*
*І нават сосны*
*Паасобку сталі,*
*Каб паглядзець*
*На свой уласны цень.*
*Хаця мароз*
*Блакітам цень фарбуе,*
*Бо час вясны*
*Яшчэ не надышоў,*
*Але ўжо сонца*
*Промнем моц спрабуе*
*На частаколе*
*Кволых ледзяшоў.*
1968 г.

•

*Здавалася —*
*Усё мне па плячу,*
*Адно памнож*
*Упартасць*
*На удачу...*
*Гады ідуць,*
*Калдобін не лічу,*
*Палёгкі не шукаю,*
*Не лайдачу.*
*Сыйдуцца ўсе сцяжыны*
*У адну*
*І згубяцца*
*Ў бясконцай белі снегу.*
*Што ўспомню я?*
*Каго гукну?*
*Якое адзавецца*
*Рэха?*
1982 г.

•

*Было — сплыло...*
*Сябе суцеш*
*Набыткамі і стратамі:*
*Яны складуцца,*
*У рэшце рэшт,*
*Працяжнікам*
*Між датамі.*
1981 г.

•

*Гады на схіл,*
*Ды час на ўздыме —*
*Калок,*
*Слупок,*
*Мяжа,*
*Рубеж...*
*Якую ж ношку*
*Ты з усімі*
*Сцяжынкай дрогкаю*
*Нясеш?*
*Улегцы карацей дарога,*
*Не абцяжарыць грэх душу:*
*Не толькі іх,*
*Я нават Бога*
*Спрасціць мой шлях*
*Не папрашу.*
1980 г.

### Брату

*Заплюшчу вочы,*
*Мрою, нібы бачу:*
*Дзень дагарэў*
*На полымі зары,*
*Ты слухаеш — самотны — перадачу.*
*Ідзе канцэрт,*
*Спяваюць "Песняры".*
*Далёкі голас*
*Пранікнёна, ціха*
*Туманіць зрок,*
*А спеў цячэ, цячэ...*
*"І толькі надпіс —*
*Вераніка..."*
*Гаючай боллю*
*Памяць апячэ.*
*Адкрылася,*
*У чым тугі прычына,*
*Што ў сэрцы абудзілі*
*Песняры —*
*Чытае сінявокая дзяўчына:*
*"Надзейка"...*
*На бярозавай кары.*
1980 г.

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

### Уладзімір Ягоўдзік

*Яго на хвалях "Нёман" гушкаў —*
*Нібыта бацькам родным быў,*
*Ды вырас Уладзімір хутка*
*І сам да берага паплыў.*

*Ад "бацькі" ўрэшце аддзяліўся*
*І, цяжкасцям наперакор,*
*На ногі цвёрда стаў, абжыўся,*
*"Бярозкаю" аздобіў двор.*

*Ён п'е бярозавік патрошку*
*І абдымае пад хмяльком,*
*Як жонку, мілую "Бярозку",*
*А дзеткі бегаюць кругом...*

### Аляксей Марачкін

*Язык ягоны — трапны, востры,*
*Ды мова фарбаў у яго вастрэй.*
*Ссівелы, барадаты, рослы,*
*Асілак жывапісны — Аляксей.*

*Яго не купіш за "рубли" ды марачкі:*
*Не прадаецца — нат з карцінай —*
*Марачкін!*

### Ігар Лінскі

*З маленства Ігар маляваў*
*Аблокі, сонейка, прасёлкі...*
*А потым, як дарослым стаў,*
*Адно малюе ён — "Вясёлку"!*

### Вольга Іпатава

*Нас, беларусаў, нездарма*
*Шануюць, нават любяць часам,*
*Ды гонару у нас няма,*
*Хоць мы, лічы, арыйскай расы.*

*Пра гэта піша добра так*
*Яна — блізнят Ашвінаў жрыца.*
*Мне даспадобы славы смак,*
*І я з Блізнятаў як-ніяк,*
*Хоць гэтым буду ганарыцца!*

### Генрых Даліловіч

*І ён са слаўнае кагорты:*
*Сярод пісьменнікаў гісторык лепшы...*
*Вядомы Генрых быў Чацвёрты,*
*А Генрых наш... мо стане Першым?*

### Уладзімір Бядуля

*старшыня калгаса "Савецкая Беларусь", двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны работнік культуры*

*Шмат людзей цяпер бядуе,*
*Ды не ў нашага Бядулі!*
*Ёсць тут бульба, хлеб і мяса,*
*А да іх — і чарка часам.*
*Тут ні ў чым няма халтуры:*
*Ні ў рабоце, ні ў культуры.*
*Як працуюць, дык да поту,*
*А спяваюць — у ахвоту.*
*За саюз душы і цела*
*Выступаў Бядуля смела.*
*Старшыня не авантурны,*
*Хоць палітык, а — культурны!*

ЗГАДКІ

***Гэты рукапіс прывезла ў "ЛіМ" маскоўская беларуска Тамара Міхайлаўна Суднік — з прывітаннем ад Уладзіміра Уладзіміравіча Хаменкі, нашага земляка, і з надзеяй, што ягоныя ўспаміны будуць надрукаваны на радзіме.***

***У музычным свеце імя У. Хаменкі вядомае. Прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, ганараваны ордэнам Дружбы, медалямі "За оборону Москвы", "За доблестный труд" ды інш.***

***З 1942 па 1960 гг. быў салістам-канцэртмайстрам Вялікага сімфанічнага аркестра Усесаюзнага радыё і тэлебачання, з 1942 г. да сёння — прафесар Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Сярод яго друкаваных навуковых прац — "Новая аплікатура гамаў ды арпеджыо для кантрабаса", "Асновы кантрабасовай методыкі", метадычны дапаможнік "П'есы С. Кусявіцкага ды Р. Гліэра для кантрабаса і фартэпіяна", пералажэнне віяланчэльных сюіт Баха ды інш.***

***Сярод вучняў У. Хаменкі — прафесары, заслужаныя артысты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Вядомы беларускі кантрабасіст Уладзімір Федарчук таксама быў вучнем Уладзіміра Уладзіміравіча. Вучыўся ў яго і расійскі пісьменнік Юры Казакоў, выпускнік Гнесінскага вучылішча па класе кантрабаса.***

***Увазе чытача прапануем нататкі У. Хаменкі, якія ўмоўна можна лічыць "беларускім" раздзелам ягоных мемуараў.***

# Музыка жыла ў самой прыродзе...

## З УДЗЯЧНАСЦЮ ДА ЛУКАША КАЛЮГІ

У маім сэрцы на ўсё жыццё засталася цудоўная, нічым асабліва не выбітная маленькая беларуская вёсачка Скварцы, дзе я нарадзіўся і вырас, звілістая безназоўная рачулка, яблыневыя ды вішнёвыя сады з мілымі майму сэрцу буслянкамі, а галоўнае — тая непаўторная музычная атмасфера, якая панавала не толькі ў сям'і і наўкола, але, здавалася, і ў самой прыродзе. Благаслаўлёная гэтая вёсачка бачыцца мне цяпер, здалёк, на схіле гадоў, вялізным букетам квітнеючага вясновага саду — яна літаральна патанала ў квецені яблынь ды вішань, клёнаў ды ліп, напоўненая гудзеннем пчол ды птушыным гоманам. Напеўную сваю назву яна, пэўна, і атрымала менавіта таму, што поўнілася спевамі шпакоў, якіх тут было вялікае мноства ад ранняй вясны да восені.

Скварцы — адна з многіх старадаўніх вёсак на заходняй Міншчыне, за 18 вёрст ад старажытнага мястэчка Койданава. У мой час у ёй было крыху больш за 30 сялянскіх двароў, але гэты маленькі куток беларускай зямлі прырода шчодра надзяліла талентамі і рупнасцю. Я захоўваю ўдзячную памяць пра майго аднавяскоўца, амаль равесніка, таленавітага пісьменніка Лукаша Калюгу, самабытнага празаіка, перакладчыка твораў Юрыя Алешы і Яраслава Гашака, які загінуў у гады сталінскіх рэпрэсій. Помню Мікалая Бірылу, майго суседа, на некалькі гадоў маладзейшага за мяне, які стаў вядомым філолагам-мовазнаўцам, акадэмікам Беларускай акадэміі навук.

Вечарамі, асабліва па святах, суботах ды нядзелях, вёсачка наша звінела галасамі дзяўчат і хлопцаў: спявалі задушэўныя, лірычныя і вясёлыя, зухаватыя народныя песні. Пад гукі гармоніка, цымбалаў ці балалайкі скакалі вясёлыя танцы — быццам не было ні стомленасці, ні засмучэнняў, ні турбот, ні страшэннай галечы тых гадоў. Музыка суправаджала вясковае жыццё, была яе неад'емнай часткай — як паветра, як паэтычная прырода, з якой людзі тады яшчэ не варагавалі, але жылі з ёй у згодзе і гармоніі. Я не проста слухаў — я жыў гэтай музыкай, адчуваў яе ўсёй маёй істотай, яна здавалася мне натуральным выяўленнем шчасця, той радасці быцця, якая перапаўняла маю дзіцячую душу...

Я нарадзіўся 23 лютага трэцім дзіцем у вельмі дружнай працавітай сялянскай сям'і. Бацькі мае, Уладзімір Сцяпанавіч ды Ксенія Іванаўна, маючы каля трох дзесяцін зямлі, дзякуючы няспыннай, нейкай спакойнай і разумнай працы, дамагаліся сціплага дастатку, які дазваляў забяспечыць сям'ю ўсім неабходным і даць годнае выхаванне дзецям — старэйшаму брату Мікалаю, сястры Соф'і ды мне.

Бацька мой быў чалавекам стрыманым, строгім і, галоўнае, сумленным і прыстойным, за што і паважалі яго аднавяскоўцы. Ён быў майстрам на ўсе рукі — мог пабудаваць дом, наладзіць сячкарню (саломарэзку), малатарню, змайстраваць санкі, драбіны, хатнюю мэблю, вулей для пчол (ён трымаў пасеку на некалькі вулляў). Чалавек пісьменны, ён шмат гадоў вёў запіс надвор'я, па просьбе мясцовага аддзялення метэаслужбы. Што для мяне асабліва дорага — бацька цудоўна граў на цымбалах і быў фактычна першым настаўнікам музыкі для нас з братам (з дзяцінства асвоілі гэты інструмент). Дзядзька Стэфан, брат бацькаў, таксама граў на цымбалах, а ягоны сын — на скрыпцы. Яны любілі збірацца і музіцыраваць разам, а я заслухоўваўся іхняй ігрой і ўяўляў і сябе музыкантам.

Мае брат і сястра, атрымаўшы чатырохгадовую адукацыю, засталіся памагаць бацькам па гаспадарцы. Мне ж, як найбольш здольнаму "да навук" (так лічылі бацька і маці), было дазволена пакінуць гаспадарку і прадаўжаць адукацыю.

Мне не было і пяці гадоў, калі з дапамогай бацькі лёгка навучыўся не толькі іграць на цымбалах, але і чытаць і пісаць. Добра помню, як у нашым доме, заўсёды адчыненым для людзей, збіраліся родныя, блізкія, суседзі, проста знаёмыя, каб пагаварыць пра жыццё, справы, навіны — час быў асаблівы, паслярэвалюцыйны, усім было цікава, што пішуць у газетах. І вось тут бацька, не без гонару, дазволіў мне праявіць свае здольнасці, і я з радасцю і захапленнем чытаў уголас газеты...

Па ўзросце мяне ў школе не прымалі, таму бацька вырашыў: я буду наведваць падрыхтоўчы клас у нашай жа вёсцы, па вечарах. Праз год, калі мне споўнілася шэсць гадоў, бацька дамовіўся з дырэктарам школы ў суседняй вёсцы Дабрынёва, каб я ў парадку выключэння пайшоў у першы клас. Закончыў чатырохгодку, і бацька аддаў мяне ў сямігадовую школу пры дзіцячай калоніі "Малады араты", якая была паблізу вёскі Станькава за дзесяць кіламетраў ад нашых Скварцоў, у колішнім маёнтку Чапскіх, там вучыліся гэтак званыя беспрытульныя — узростам ад 7 да 20 гадоў, якія страцілі сваіх бацькоў у той цяжкі пасляваенны час і якіх сабралі з розных канцоў Беларусі.

Мне падабалася цвёрдая і абавязковая дысцыпліна ў калоніі і школе, але ў той жа час мне было няпроста знайсці агульную мову з такімі выхаванцамі. На працягу трох гадоў я жыў у сястры маёй мамы Марыі Іванаўны Юран, галоўным чынам з лістапада па красавік, астатні ж час — верасень, кастрычнік, май, чэрвень — хадзіў, дакладней, бегаў у школу ўсе дваццаць кіламетраў — басанож. Дзіва што: мы, вясковая дзятва, ніякага іншага абутку, акрамя лапцей (дый то — толькі зімой), не ведалі. І толькі пераехаўшы ў Мінск вучыцца ў музычным тэхнікуме, я перастаў хадзіць басанож (калі не лічыць летні канікулярны час).

Мае самаадданыя адносіны да заняткаў былі заўважаны настаўнікамі, а яны былі сапраўднымі прафесіяналамі-педагогамі.

Помню, як аднойчы перад пачаткам урока літаратуры дырэктар, які праводзіў урок, урачыста аб'явіў мне падзяку перад усімі выхаванцамі калоніі — за старанне, добрую дысцыпліну і паспяховасць. Рэакцыя была "неадназначнай", самалюбства маіх савучняў было закранута, і справа даходзіла да канфліктаў, якія вырашаліся не без дапамогі дарослых...

Дзіцячая калонія мела свой невялікі ўчастак зямлі, куды мы, навучэнцы, восенню і вясной адзін-два разы на тыдзень з педагогам па батаніцы хадзілі на практыку. Гэта былі ўрокі спазнавання прыроды: жыцця раслін, кветак, насякомых і г.д. І ў той жа час мы займаліся доглядам агарода, зернявых культур, школьнага саду, так што за тры гады вучобы я даведаўся пра многае, чаго не ведалі ў маёй вёсцы. Але, вядома, самым галоўным для мяне ў школе былі ўрокі музыкі, якія літаральна глытаў, як нектар. Настаўнік музыкі граў нам мелодыю на скрыпцы (фартэпіяна не было), і мы ва унісон спявалі, потым ён граў другую, і, падзяліўшыся на трохгалоссе, мы завучвалі песню за песняй...

Гэта было цікава, узвышана, захапляльна! Да таго ж, мы вывучалі і ноты; засмучала толькі тое, што гэтыя чароўныя ўрокі музыкі мы пачалі чамусьці з другога паўгоддзя шостага класа. І ўсё ж гэтыя ўрокі вельмі памаглі ў далейшым маім музычным жыцці.

Свет гукаў мяне зачароўваў. Зімовыя святы — Каляды і Вадохрышча, велікодныя



*Уладзімір ХАМЕНКА 1972 г.*

званы, харавыя спевы ў вялікай, дзівосна ўпрыгожанай унутры царкве, якая стаяла побач з нашай хатай, на беразе возера, у акружэнні ацалелага рамантычнага панскага парку, з рукатворным млынам, з шумным вадаспадам, які абрыньваўся на крылатае кола, — такім помніцца мне свет майго дзяцінства, дзе ўсё роднае, на рэдкасць самабытнае, беларускае...

Муж маёй цёткі і сярэдні яе брат працавалі па гаспадарцы, іхні малодшы брат вучыўся ў інстытуце ў Мінску, і ўсе яны былі па-свойму адукаваныя і музычна адораныя людзі. Калі збіраліся разам, у нас атрымліваўся ансамбль: я граў на цымбалах — гэта было накшталт фартэпіяна (пра якое я і паняцця тады не меў), астатнія на гітары, балалайцы і малым барабане. Гралі народныя песні, розныя танцы. Часцей за ўсё па святах, суботніх ды нядзельных днях. Мы былі настолькі сыграныя, што выступалі і ў канцэртах... Добра помню, як аднойчы наш ансамбль запрасілі ў раённы цэнтр для ўдзелу ў зводным канцэрце самадзейнасці — і, трэба сказаць, мы былі адзначаны спецыяльным прызам аддзела культуры.

Насычаныя гранічна тры гады вучобы пакінулі прыкметны след у маім жыцці, хаця яны праляцелі, як імгненне, — і давялося расставацца з таварышамі, з якімі здружыўся к канцу вучобы, з настаўнікамі, з любімай цёткай Марыляй...

Пасля паспяховага заканчэння сямігадовай адукацыі мяне ўгаварылі прадоўжыць вучобу на двухгадовых паскораных курсах у Дзяржынску, каб потым стаць настаўнікам пачатковых класаў агульнаадукацыйнай школы. Але гэты шлях мяне не радаваў. І вось аднойчы, калі ў чарговы раз бацька прывёз мне харчы на наступны тыдзень, мы з маім таварышам Мікалаем Бабком* з вёскі Дабрынёва аб'явілі, што спыняем вучобу і едзем дадому.

Але гэты год "па-за вучобай" не прайшоў без карысці. Тады па ўсёй краіне праводзілася кампанія па ліквідацыі непісьменнасці, і я актыўна ўключыўся ў гэты "аветніцкі працэс". Заняткі з сялянамі рознага ўзросту (да 60 гадоў) праходзілі ў вячэрні час у суседнім Дабрынёве, у школе. Наведванне школы для немаладых ужо мужчын і жанчын было хутчэй абавязковым, чым добраахвотным. І хаця ўрокі лікбезу вялі такія хлапчукі, як я і мой таварыш М. Бабок, ініцыятыва ўпэўнена знаходзілася ў нашых руках.

Наш аўтарытэт мацаваўся яшчэ і тым, што мы рэгулярна праводзілі іншыя "культурныя мерапрыемствы". Па маёй ініцыятыве быў арганізаваны выпуск калгаснай насценнай газеты. Разам з Мікалаем Бабком мы арганізавалі самадзейны ансамбль музыкантаў, маладзёжны хор, групу аматараў-чытальнікаў і танцораў. Я крыху ведаў нотнае пісьмо, чуў "шэдэўры" таго часу (тыпу танга, факстротаў) і запамінаў іх як мог, так што праграмы нашага ансамбля выходзілі за рамкі фальклору... Скрыпка, гітара, балайка, трашчотка, малы барабан — гэтым цудоўна валодалі сямейнікі Бабка, цымбалы былі ў маім распараджэнні.

Увесь гэты набор "культурных мерапрыемстваў" рэгулярна ладзіўся па суботах ды нядзелях, па вялікіх святах. Мы мелі вялікі поспех, таму прыемна ўспамінаць і цяпер тыя святочныя вечары ў вясковым клубе, калі мы адчувалі сябе не проста музыкантамі, але яшчэ і асветнікамі сваіх аднавяскоўцаў, якія шчыра радаваліся нашым хаця і не дасканалым, ды натхнёным выканаўчым спробам.

Жыва помню шчаслівыя дні маіх прыездаў да бацькоў, нашы доўгія гутаркі; бачу скрозь гады іх усхваляваныя твары, калі яны з непадробнай увагай, непрыхаванай радасцю і верай у мяне слухалі сынавы аповеды... Я радаваў іх тым, што стараўся не губляць дарэмна ні хвіліны. Якой асалодай было хадзіць у лес па суніцы, па грыбы альбо вырошчваць на маміным агародзе зусім не знаёмую нашым вяскоўцам культуру — памідоры! Акрамя таго, я вельмі шмат чытаў тады, шмат займаўся на цымбалах, спрабаваў граць на балалайцы, увесь час абнаўляў свой рэпертуар, каб граць на маладзёжных вечарынках. Помню вострае, недадольнае сваё жаданне сур'ёзна вучыцца музыцы: я проста пакутаваў ад таго, што не ведаў, як яго ажыццявіць.

І тут, як гэта часта бывае, дапамог выпадак.

Аднойчы я пайшоў з кніжкай да ракі і сустрэў там свайго аднавяскоўца Косцю Вашыну, які прыехаў на адпачынак з Мінска. Яму было тады, здаецца, 24 гады, але ён паспеў ужо стаць вядомым пісьменнікам — пад псеўданімам Лукаш Калюга надрукаваў некалькі апавяданняў, аповесцяў, перакладаў. Косця чуў пра мае школьныя поспехі, пра імкненне да музыкі і адразу спытаўся наконт планаў на будучае. Даведаўшыся пра маё гарачае жаданне вучыцца музыцы, настойліва параіў паступаць у Мінскі музычны тэхнікум.

У той спякотны летні дзень мы доўга сядзелі на беразе нашай прахалоднай рачулкі; помню, ён чытаў мне свае апавяданні, а потым зноў вяртаўся да гаворкі пра музыку і маю будучыню. Сумненні, няўпэўненасць і сарамяжлівасць паступова змяніліся ўва мне надзеяй і нават верай у свае сілы, цвёрдым рашэннем паступаць у тым жа годзе ў музычны тэхнікум у Мінску.

Доўгія дзесяцігоддзі прайшлі з таго бясхмарнага дня. Косці не стала праз некалькі гадоў, ён загінуў у 1937-м. А я да канца сваіх дзён буду захоўваць удзячную памяць пра гэтага шчодрага, таленавітага чалавека, які так горача паверыў у мой талент і надаў мне веры ў сваё прызванне.

●

Пры канцы жніўня 1933 года я рушыў у невядомасць — у горад Мінск, пра які не меў ніякага ўяўлення. Да станцыі Фаніпаль 15 кіламетраў ішоў, як звычайна, басанож, бо спартыўныя чаравікі шэра-белага колеру з ласінай скуры былі малыя мне, і я карыстаўся імі ў самых крайніх выпадках. Я ніколі не бачыў цягніка, мне расказвалі, што ён едзе па жалезных рэйках, і калі цягнік пачаў набліжацца да станцыі, пыхкаючы і выкідваючы велізарныя клубы чорнага дыму, я зніякавеў... Пераадолеўшы страх, усё ж увайшоў у вагон, потым, як мне падалося, доўга-доўга ехаў да Мінска.

Нарэшце — пад нагамі асфальт, брук, вакол цагляныя дамы, машыны, шмат людзей, нейкая незразумелая сумятня, — усё гэта для мяне нова, цікава і крыху жудасна... на маё пытанне, дзе знаходзіцца музычны тэхнікум, мне тлумачаць: сядайце на трамвай N 2, даедзеце да такога-та прыпынку, там ён блізка, спытаеце, вам пакажуць...

*(Працяг на стар. 14—15)*

* *Лётчык-выпрабавальнік, загінуў у час вайны.*

## Багатае жыццё, багатая творчасць

МІХАСЮ ПЯНКРАТУ — 80



**Міхась Пянкрат родам з вёскі Карпілаўка Чэрвеньскага раёна. У 1939 годзе пасля заканчэння Смілавіцкага палаводчага тэхнікума яго прызвалі ў армію. Прымаў удзел у савецка-фінскай вайне, быў цяжка паранены. У 1940—1941 гадах працаваў у рэдакцыі рудзенскай раённай газеты "Бальшавіцкі сцяг". З 1943 года з'яўляўся памочнікам начальніка штаба партызанскай брыгады "Чырвоны сцяг" Мінскай вобласці. З 1945 года працаваў у рэдакцыях газет "Савецкі селянін" (сённяшняя "Белорусская нива"), "Сталинская молодежь" (цяперашняя "Знамя юности"). У 1959 — 1979 гадах — рэдактар аддзела часопіса "Вожык".**

**Творчы шлях пачаў у 1937 годзе як паэт, выступіўшы з вершам у газеце "Чырвоная змена". Першай кнігай стаў зборнік вершаў "Салаўіны бераг", выпушчаны ў 1956 годзе. Найбольшага поспеху Міхась Міхайлавіч дасягнуў у галіне прозы, у тым ліку сатырыка-гумарыстычнай, выдаўшы кнігі "Палын і кветкі", "Не з таго канца", "Аўтарытэт на колах", "Ведрыцкія напевы", "Прынцыповы пасаг", "Не астудзі сваё сэрца" і іншыя. Вядомы і як нарысіст — зборнікі "Простыя людзі", "Чэрвень".**

**Віншуем Міхася Міхайлавіча з 80-годдзем! Жадаем усяго самага найлепшага!**

## Нястомны адраджэнец

УЛАДЗІМІРУ КАЗБЕРУКУ — 75



**Нарадзіўся Уладзімір Міхайлавіч у вёсцы Бандары Беластоцкага ваяводства (цяпер Польшча). У 1949 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце (1952—1955). Кандыдат філалагічных навук. Быў вучоным сакратаром, потым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі.**

**З артыкуламі і рэцэнзіямі пачаў выступаць у друку з 1954 года. Аўтар манаграфій "Якуб Колас у школе", "Ступені росту", "Паэма Якуба Коласа "Новая зямля", "Рамантычны пошук" і іншых. Даследуе творчасць Я. Коласа, Ф. Багушэвіча, Ф. Скарыны, А. Міцкевіча, З. Тшашчкоўскай, Э. Ажэшкі і іншых. У. Казбярук стаў адным з першых, хто вярнуў з небыцця творчасць А. Гаруна, і аўтарам першай кнігі пра яго "Светлай волі зычны звон", якая выйшла ў серыі "Нашы славутыя землякі". Шмат робіць У. Казбярук па прапагандзе творчасці беластоцкіх пісьменнікаў. Падрыхтаваў шэраг кніг для серыі "Школьная бібліятэка" і напісаў да іх прадмовы. Апошнія публікацыі У. Казберука цікавыя тым, што ў іх па-новаму прачытваюцца некаторыя старонкі беларускай літаратуры. Нямала робіць ён і дзеля таго, каб менела ў літаратуры нацыянальнай гісторыі "белых плям".**

**Віншуем Уладзіміра Міхайлавіча з 75-годдзем! Зычым юбіляру і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і даследчыцкім страі!**

# Музыка жыла ў самой прыродзе...

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

А вось і жаданы тэхнікум — адносна вялікі, чырвонага колеру цагляны трохпавярховы будынак. У канцылярыі прынялі мае дакументы і сказалі праз два дні быць на прыёмных экзаменах.

Пасля стараннай і, як мне падалося, асабліва патрабавальнай праверкі мяне спыталі, на якім інструменце я хачу займацца. "На цымбалах", — адказаў я. — "Але ў нас пакуль класа па цымбалах няма. Можа, вы хочаце займацца..." — і мне пералічылі ўсе духавыя інструменты, пра якія я ўяўлення не меў, і ўсе адкінуў. Тады мне растлумачылі, што на фартэпіяна, струнных інструментах я займацца не магу па ўзросце. Тут я зразумеў: поўны правал, паеду назад дадому. Наважыўся ісці, ды нечакана мне прапанавалі займацца на інструктарскім аддзяленні, гэта значыць, на дырыжорска-харавым. Успомніў: хорам жа, ансамблямі я займаўся... І згадзіўся стаць харавым дырыжорам.

Калі аб'явілі спіс прынятых, я не пачуў свайго прозвішча. Толькі ў самым канцы абвесткі старшыня прыёмнай камісіі сказаў: "Улічваючы выдатныя музычныя здольнасці, вялікае жаданне вучыцца, хоць ён і не мае спецыяльнай музычнай падрыхтоўкі, прыёмная камісія палічыла за патрэбнае, у парадку выключэння, залічыць Хаменку У. У. на першы курс на інструктарскае аддзяленне". Радасць мая была бязмежная, адразу ж сабраўся і паехаў дадому, каб паведаміць бацькам радасную навіну: я буду вучыцца, я буду музыкантам...

Першыя тыдні два я наймаў малюсенькі куток, толькі каб пераначаваць. Потым атрымаў месца ў інтэрнаце тэхнікума і кансерваторыі, дзе меў шчасце жыць у адным пакоі з будучымі вядомымі кампазітарамі А. Багатыровым і У. Алоўнікавым, музычным дзеячам Д. Жураўлёвым.

Я мусіў як мага хутчэй авалодаць неабходнымі ведамі, каб не толькі параўнацца з маімі аднакурснікамі, але і пайсці далей. Займаўся ўпарта і настойліва, нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, калі па картках была дзённая норма хлеба трыста грамаў, калі пра снядана і вячэру можна было толькі марыць, калі на абед мы атрымлівалі рэдзенькую посную капусту, а на другое — лыжку тушанай капусты... Можна сабе ўявіць, якое патрэбна было мецъ фанатычнае жаданне вучыцца ды яшчэ й паспяхова. І заканамерна, што пасля зімовых канікул у інтэрнат вярталіся адзінкі навучэнцаў.

У пачатку трэцяга курса мяне прыняў да сябе ў клас тэорыі музыкі-кампазіцыі вядомы беларускі творца М. Аладаў. З велізарным задавальненнем і самааддачай я спасцігаў сакрэты творчасці, і, трэба сказаць, справы ішлі някепска: за кароткі час я напісаў некалькі фартэпіянных невялікіх п'есак, якія выконваліся на класных адкрытых канцэртах, напісаў песню "Армія Будзённага" і сам развучваў яе са студэнцкім хорам, у чарнавіку склаў І і ІІ часткі струннага квартэта... (Частка з гэтых маіх студэнцкіх работ захавалася, штосьці, на жаль, страчана). Такім чынам, я ўжо займаўся па дзвюх спецыяльнасцях, а ў другой палове трэцяга курса дадаўся яшчэ і кантрабас — інструмент, якому я прысвяціў усё сваё далейшае жыццё.

Вось як гэта адбылося. На адным з урокаў у Мікалая Ільіча Аладава атрымаў заданне па інструментоўцы: пазнаёміцца з усімі інструментамі сімфанічнага аркестра практычна, г. зн. у аркестры, бо тэарэтычна я ўжо ведаў іх добра. Я прыйшоў на рэпетыцыю студэнцкага аркестра, з якім дырыжор І. Гітгарц рэпеціраваў Другую сімфонію Бетховена і Першую сімфонію Калліннікава. Я ўважліва разглядаў усе інструменты і старанна прыслухоўваўся да тэмбравага гучання кожнага з іх. Упершыню ў жыцці сваім я ўбачыў і пачуў гэты вялізны незвычайна сімфанічны інструмент-аркестр. Слухаючы яго, уяўляў, што знаходжуся ў неапісальным казачным свеце... І штораз, калі ўступалі кантрабасы на фоне гучання ўсяго аркестра, я губляў самавалоданне, адчуваў унутрана штосьці невыказна ўзвышанае, манументальнае, грандыёзнае... (Пазней, калі я іграў у ВСА Усесаюзнага радыё, пры выкананні ўверцюры да оперы Р. Вагнера "Тангейзер" з дырыжорам М. Галавановым, у мяне нязменна ўзнікалі падобныя асацыяцыі).

На наступны ж дзень я прыйшоў да Ігната Рыгоравіча Салодчанкі, знакамітага кантрабасіста-віртуоза, і сказаў яму: "Я хачу займацца ў вас на кантрабасе"...

З першага ж урока, калі стаў за кантрабасам, я з асаблівым пачуццём выконваў усе ўказанні педагога, і кожны ўрок для мяне быў нейкім па-свойму радасным святам. Ігнат Рыгоравіч займаўся па школе Ф. Сіманда, але, ведаючы маё жаданне пашырыць трэніровачны матэрыял, ён мне дазволіў (праўда, неахвотна) карыстацца ім з больш сучаснай школы А. Мілушкіна, якая толькі што выйшла. К пачатку чацвёртага курса досыць добра вывучыў першую палову грыфа, і разам з таварышам-валтарністам выйшаў удзельнічаць у конкурсе на свабодныя месцы ў аркестры опернага тэатра... Я быў залічаны першым кантрабасістам, Міша Станкевіч - першым валтарністам. З гэтага часу мы маглі наняць на абодвух вялікі пакой, а гэта дазволіла павялічыць час для хатніх заняткаў.

Працуючы ў аркестры тэатра оперы і балета, я многаму навучыўся як музыкант-аркестрант, слухаючы аркестр, хор, спевакоў, бачачы танцораў. Гэта была як бы прэамбула да маёй далейшай музычнай дзейнасці. І ўсё ж асноўным я лічыў не працу ў тэатры, а вучобу ў тэхнікуме. Акрамя маіх непасрэдных педагогаў па спецыяльнасцях, я меў шчасце сустракацца з вядомымі педагогамі, цудоўнымі музыкантамі вучылішча — скрыпачамі А. Бяссмертным, А. Віў'енам, віяланчэлістам М. Арловым, дырыжорам І. Гітгарцам, удзельнічаць у сімфанічных аркестрах з дырыжорамі Л. Штэйнбергам, М. Шнейдэрманам, з выдатнай спявачкай, народнай артысткай СССР Л. Александроўскай і іншымі майстрамі мастацтва, што, безумоўна, мела велізарнае значэнне ў маім станаўленні музыканта-прафесіянала.

Удзельнічаючы штодня ў рабоце аркестра, у тым ліку і ў гастролях, я марыў, каб сімфанічны аркестр пачулі мае аднавяскоўцы. І мара збылася: вясной 1935 года студэнцкі сімфанічны аркестр Мінскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам дырыжора І. Гітгарца быў камандзіраваны ў гастрольную паездку па сёлах Беларусі. Мы выступалі за паўтара кіламетра ад Скварцоў, у былым панскім маёнтку, у ацалелай цудоўнай зале. Народу сабралася незлічоная колькасць, з усёй акругі, — не толькі паслухаць музыку, але яшчэ і паглядзець на свайго земляка. Помню, што ўсю нашу праграму — музыку М. Глінкі, П. Чайкоўскага, В. Каліннікава, М. Аладава, А. Туранкова і інш. — удзячныя вяскоўцы слухалі, як зачараваныя, апладысментам не было канца, многія нумары паўтараліся на "біс".

Думаю, гэтая цікавасць да нашага канцэрта тлумачылася не толькі прыроднай музычнасцю слухачоў — народныя песні, танцы ўваходзілі ў іх жыццё з самага ранняга дзяцінства, але яшчэ і іншым: самі працаўнікі, яны ўмелі паважаць і цаніць працу і талент музыкантаў, якія выступалі перад імі. Пра той канцэрт мае аднавяскоўцы помнілі праз гады і кожны раз, калі я прыязджаў наведаць бацькоў, са шчырым задавальненнем гаварылі мне пра яго. Я любіў гэтыя размовы пра музыку, для мяне ў іх было штосьці большае, чым ухвала: адчуваў плён сваёй працы, гэтак жа вартай павагі, як і праца земляроба.

Прыезды дадому на канікулы, асабліва летам, успамінаюцца мне цяпер як бестурботныя, шчаслівыя дні... Я і ў вёсцы не пакідаў сваіх штодзённых заняткаў музыкай, шмат чытаў, акрамя таго, з асалодай уключаўся ў сенакос, жніво, уборку хлеба. У бацькі доўгі час захоўвалася мая працоўная калгасная кніжка, у якой за летнія месяцы значылася 225 працадзён, і калі праз шмат гадоў я прыязджаў ужо з Масквы наведаць сваякоў, бацька з гонарам паказваў гасцям тую кніжку — сведчанне маёй маладой працавітасці. Згадваю пра гэта тут, у аповедзе пра сваю вучобу, невыпадкова. Упэўнены, што вёска і сялянская праца з яе зладжаным, вякамі ўсталяваным рытмам, натуральна падпарадкаваным прыродзе, чаргаванню дзён і часоў года, былі тады і застаюцца па сённяшні дзень для мяне адмысловай школай, маральным прыкладам, меркай разумнага, узвышаючага душу ладу жыцця, які апраўдвае наша існаванне на зямлі.

●

На апошнім курсе тэхнікума я пастаянна задумваўся над далейшай сваёй вучобай: прадоўжыць яе ў знакамітага І. Салодчанкі, гэта значыць у Беларускай кансерваторыі, сумяшчаючы вучобу з працай у тэатры і тым самым забяспечваючы сябе матэрыяльна, ці паспрабаваць паступіць у Маскоўскую кансерваторыю, што здавалася мне тады мяжой мараў, амаль немагчымым.

Вырашылася ж усё, як мне тады здавалася, выпадкова.

Закончыўшы тэхнікум, мы з маім таварышам Мішам Станкевічам у ліпені 1936 года вырашылі з'ездзіць у гарады, дзе ніколі не былі, — спачатку ў Маскву, а потым у Кіеў і Ленінград. Грошы на гэту паездку мы зарабілі падчас гастроляў тэатра оперы і балета па гарадах Беларусі. Прыехаўшы ў Маскву і не ведаючы, дзе спыніцца, накіраваліся да кансерваторыі, а там, прачытаўшы ўсе аб'явы, вырашылі... падаць заявы ў прыёмную камісію — спадзеючыся, што праз гэта хоць бы на нейкі час атрымаем месца ў інтэрнаце. Нас уважліва выслухалі, з кімсьці параіліся, а потым, улічваючы, што мы з'явіліся з іншай рэспублікі — братняй Беларусі, дазволілі нам здаваць экзамены ў ліку гэтакіх жа запозненых.

Помню, што са мной размаўляў А. Мілушкін, педагог па кантрабасе. Распытваў, адкуль я і што ведаю, параіў мне пачаць заняткі на другім курсе Музычнага вучылішча пры Маскоўскай кансерваторыі. Гэта мяне не задавальняла, я вельмі засмуціўся, бо зразумеў, што Маскоўскай кансерваторыі мне не бачыць, як сваіх вушэй. Вырашыў: вярнуся назад у Мінск і прадоўжу заняткі ў І. Салодчанка. "Не, не, — рашуча запярэчыў Аляксандр Андрэевіч, — ты будзеш займацца ў мяне, ад'язджаць не трэба!" Сказаў прыйсці заўтра, атрымаць заданне, каб я за



*Пасля заканчэння сямігодкі. 1930 г.*



*Бацькі У. Хаменкі Ксенія Іванаўна і Уладзімір Сцяпанавіч (сядзяць) ды матчына сястра Марыя Іванаўна. 1935 г.*

ГАСЦЁЎНЯ

***Пасёлак Краснасельскі (былое Краснае Сяло), што побач з Ваўкавыскам, уразіў мяне не толькі дымнымі трубамі, але і плітачнымі тратуарамі, новенькімі бардзюрамі ды беленымі ствaламі дрэў. Высокая культура добраўпарадкавання там адчуваецца паўсюль. І з кім ні загаворыш, дзе ні ступіш — нязменна гучыць адно і тое ж імя.***

***На вуліцы: "Вунь той каменны парапет рабіў Вераціла". (Кладка адметная, майстар называе яе ваўкавыскімі карункамі).***

***У кватэры мясцовага жыхара: "Гэтыя шпалеры клеіў Вераціла з жонкай". (Камбінуюцца розныя колеры і ўзоры і атрымліваецца суцэльны густоўны дыван на сцяне).***

***Альбо раяць пры выпадку: "Вам абавязкова трэба з'ездзіць у зону адпачынку цэмзавода". (Так тут скарочана завуць мясцовы буйны цэментна-шыферны завод).***

***У тую зялёную зону я трапіла з дапамогай самога Міхася Уладзіміравіча — тутэйшага самародка, чалавека ўсебаковай адоранасці і шырокага кола інтарэсаў. Ён выдаў зборнік вершаў, удзельнічаў з М. Чарняўскім у археалагічных раскопках, прымаў дэлегацыю замежных вучоных, беражна захоўвае два аўтографы Уладзіміра Караткевіча і ўжо мо 20 год з'яўляецца аб'ектам пільнай увагі газетчыкаў.***

# Міхась ВЕРАЦІЛА: "Я не ўмею адно раджаць і вязаць..."

...Шчыльна, радком пасталі воі ў шаломах, з дзідамі і шчытамі. Іх постаці пацямнелі ад часу, а шчытоў амаль не засталося. Сярод славянскіх твараў вылучаецца адзін, раскосы і скуласты. Няма ў іх пагрозы і ваяўнічасці, адно спакойная адвага. Аўтар комплексу нетаропка расказвае:

— Дырэктар завода даручыў мне адгарадзіць зону адпачынку на Воўпе — летнія дамкі. А то, кажа, праходны двор нейкі, чужыя аўтамабілі гойсаюць. Рабі што хочаш. Думаю: што вымудрыць? Плотам жа адгароджваць... Побач — балотца. Назабівалі калоў лазовых, каб жывая агароджа атрымалася, потым палі ідуць, за імі — сцяна воінаў, вартавыя нібыта. Навыразаў вояў з дрэва, бачу — нечага не хапае. Пры варотах прасілася вартоўня, вежа накшталт Белай. Школьнікі назбіралі камянёў, далі мне двух муляраў у дапамогу, а тыя — не ўмеем мы камяні класці, толькі цэглу. А я ж электрык і мастак-афарміцель, будаўнічым спецыяльнасцям не навучаны. Учатырох клалі, у восем рук — мы з Ціхаміравым ды нашы жонкі. Камень — не цэгла: вянок пакладзём, і трэба чакаць, каб цэмент схапіўся. Вітражы каляровыя паўстаўлялі... Людзі едуць, дзівуюцца: а-я-яй, як прыгожа... Накідаў скульптур па тэрыторыі. Дапамагаў мне Віця Гарніцкі, дзевяцікласнік тады. Ансамбль прывязаны да Грунвальдскай бітвы, адсюль і татарын — Джэвалдзін, сын Тахтамыша. Трэба сказаць, што князь Вітаўт — мой улюбёнец, ён далёка глядзеў наперад... Ён разумеў, што такое маланкавы татарскі набег. Ягайла — не такі, Ягайла крывадушны быў.

**— Вы гаворыце пра старажытных князёў, як быццам ведалі іх асабіста. Гісторыя — адно з вашых захапленняў?**

— Гісторыя — гэта само жыццё. І я гісторыя, і вы таксама. І час наш хутка стане гісторыяй. Праўда, баюся, што праклянуць нашчадкі і гэты час, і нас разам з ім.

**— Хто з родных ці блізкіх найбольш уплываў на вас у дзяцінстве?**

— Мабыць, бабуля, Ганна Дамінікаўна. (Мужчынская мая радня, у тым ліку бацька, рана памерла). Шмат цікавага я ад яе пачуў. Такі вось эпізод запомніўся. Збіраем чорныя ягады. Бабуля на гладыш пачапку прыладзіла, рве ў дзве рукі і час ад часу прыгаворвае: "Продкам і героям, продкам і героям..." А я не разумею, што яна гаворыць. Большыя ягадзіны ў рот нашу, а як уцячэ з рук каторая — у траве адшукваю. Бабуля і вучыць: "Не падымай, гэта продкам і героям". "Як?" — не разумею я. "Ну, яны ж духі, самі не сарвуць. То што ўпала — іхняе".

**— У якім узросце прачнуўся ў вас творчы пачатак?**

— Занадта ўзвышана — "творчы пачатак". Гэта калі штосьці робіш для душы? Першы вершык напісаў гадоў у дзесяць. Крэмнездабывальныя шахты (мо адзіныя такія ў СССР) аблазіў змалку. Маляваць пачаў у школе. А пасля ўсё пайшло ў ход — карані, жалуды, шышкі...

**— А як называецца тэхналогія вось тых металічных грыбоў, што стаяць на тэлевізары?**

— "Знойдзена на сметніку і склеена", вось як гэта называецца.

**— Дык пералічыце, Міхась Уладзіміравіч, свае творчыя захапленні. Што вы ўмееце, папросту кажучы.**

— Лягчэй сказаць, **чаго не ўмею**: раджаць і вязаць. Мог бы, напэўна, і атамную бомбу змайстраваць, каб яе не вынайшлі іншыя. І гэта, не падумайце, я канстатую сціпла. Справа ў тым, што Міхаіл — гэта "падобны Богу". І Ламаносаў Міхаіл, і Шолахаў...

**— Ну, калі б кожны Міхаіл быў такім майстрам і фантазёрам!..**

— Тут я з вамі згодзен. У мяне нейкая хваравітая фантазія. Бяруся за што заўгодна. Рэзаць па дрэве і вапняку, свечкі фігурныя ліць з парафіну, паркет класці "з фокусамі", кнігі рабіць з залатым цісненнем... А гэтага дракончыка змайстраваў з піўных коркаў. Унучцы падабаецца... А больш за ўсё люблю збіраць грыбы і капаць. "Капаць" і ў прамым сэнсе, зямлю, і ў пераносным — у архівах, кнігасховішчах. Знайшоў шмат узораў ваўкавыскай кафлі (тут у нас непадалёку маёнтак Сапегаў), мару выдаць альбом. Маю этнаграфічных экспанатаў на цэлы музей. На жаль, бальшавікі не давалі мне займацца, чым хацеў.

**— А вы не мелі праблем проста з-за таго, што не такі, як усе?**

— Неяк прыехала ў Краснасельскі журналістка з "ЗЮ" і перш чым сустрэцца са мной, пачала людзей распытваць: "Што за чалавек гэты Вераціла?" Па-рознаму адказвалі: "Умелец, залатыя рукі", "З прыдурствам", "Ненормальный какой-то, трупы копает..." (Так у нас некаторыя ўспрымалі раскопкі). А калі сур'ёзна, то няма прарока ў сваёй айчыне. Тут я свой, мяне зблізку бачаць. Разам працуем, разам грыбы збіраем, разам гарэлку п'ём. І калі людзі падчас мяне не разумеюць, я ім дарую.

**— Пра вас, я чула, ходзяць сапраўдныя легенды. Раскажыце хоць адну.**

— Мо расказаць, як я з суседам судзіўся? Будаваў ён гараж і папрасіў кавалак маёй тэрыторыі. Я ўступіў, пацясніўся. Ажно бачу — праходзіць стала нязручна, сусед заняў болей, чым дамаўляліся. Пасквапнічаў. Давялося браць лом ды раскідваць апалубку. Той — у суд. Пачалося паседжанне, а я на роднай мове размаўляю. Сусед запратэставаў, не разумее ён, ці бачыце! Пабеглі ў школу шукаць настаўніцу. І самае дзіўнае — зразумелі ўсё і без перакладчыка.

**— Вам ніколі не давodзілася шкадаваць, што не сталі прафесійным скульптарам, паэтам, археолагам?**

— Не было мне часу зацыкліваца на нечым адным, набягалі ўсё новыя захапленні. Для поўнага шчасця патрэбна ўсё, нават забароненае...

**— У вашым зборнічку ёсць верш, дзе вы жанчыну параўноўваеце з добрым вінам і прызнаецеся, што сталі "жаночым алкаголікам". Вы гэта мелі на ўвазе пад "забароненым"?**

— Мне заўсёды было цікава, ці чалавек становіцца святым, ці ён такі з самага дзяцінства. Наша жыццё — чысты ліст паперы, проба па сутнасці. За адно жыццё немагчыма ўведаць, куды ісці і навошта жывеш. Каб 2-3 такія жыцці... Я, напрыклад, згадзіўся б стаць зноў маладым, але толькі з сённяшнімі мазгамі. Чалавек пачынаецца тады, калі адчувае сваю мізэрнасць і пачынае задумвацца: а што застанецца пасля цябе?

**— У вас шмат ведаў, пра якія не вычытаеш у кнігах. Народная медыцына, зёлкі — ваша чарговае хобі?**

— Так. Вымушанае, можна сказаць, бо даводзіцца лячыць узроставыя болькі. Ёсць у мяне адзін знаёмы дуб у наваколлі. Паранены, яму цэлае "акно" ў кары выразалі. Дапамог яму крыху загаіць рану, а цяпер сам часам бяру ў яго энергію. "Падзяліся", — прашу, і не забываю падзякаваць. Як дзякую крыніцы за ваду, а бярозе — за сок. І гэта не містыка якаясь, а тое, што патрабуе асэнсавання. Калі мы будзем паводзіць сябе як дзеці прыроды, а не як "цары", то многія праблемы адыдуць самі па сабе. Кветка роўная нам, і рваць яе можна толькі на лекі — так я лічу. Зёлкі я не сушу апошнім часам, а настойваю на гарэлцы. Скампанаваў 39 траў, бальзам прыгатаваў. Паслаў Адаму Мальдзісу бутэльку на лячэнне, а там сабралася добрая кампанія і выпілі ўсё зараз.

**— Пра жыццё народнае пагаворым, Міхась Уладзіміравіч?**

— А няма жыцця. І адна з прычын таго — начальства ранейшае засталося. Яно пры Саветах тварыла што хацела, забруджана ўсё. У кожным раёне, у кожнай гаспадарцы, на кожным прадпрыемстве — свой удзельны князёк. Хіба з такімі будуць перамены?

**— Хіба ўсё залежыць ад кіраўніцтва?**

— Калі не ўсё, то 90 працэнтаў. Трэба тэрмінова выбіраць жанчыну, толькі ёй па сіле акультурыць гэта дзіка ўзаранае поле. Альбо японца, які лягае на жывот і раўняе свой садок далонямі. Альбо немца з адной рукой і гумай (такі мне з вайны запомніўся). Альбо... Не, Сталіна не хочацца. Хто заўгодна, ды не Сталін.



**— Адна паэтка неяк прызналася, што ў яе добрыя адносіны з Богам. А якія ў вас, калі не сакрэт, "адносіны з Богам"?**

— Вядома ж, не на "ты". Усё жыццё пабойваўся, аднак і задобрыць не стараўся. Звяртаўся да яго ў асноўным тады, калі каяўся, а найчасцей проста дзякаваў. Прыблізна так: "Дзякую за яшчэ адзін шчасліва пражыты дзень. Вазьмі мяне пад сваю апеку і абарону і на заўтра". Гэта дае ўпэўненасць, што і наступны дзень будзе ўдалым.

**Захаплялася і гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фота А. ЛЕЎЧАНКІ*




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3510
Нумар падпісаны ў друк 27.8.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 5118/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12